1-2 -5-6

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ



МЕНСК
1931

Пролетарыі усіх краін, злучайцеся!



# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІС ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 1—2

СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ

МЕНСК — 1931

# Да вынікаў Студзеньскага Пленуму ЦК КП(б)Б

Пераможны рух да соцыялізму шырокіх мас працоўных БССР на чале з рабочаю клясаю пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі (бальшавікоў) адзначаецца новымі вялізарнымі посьпехамі. Гэтыя посьпехі, пакладаючы фундамант соцыялізму ў нашай краіне, прывялі да глыбачэзных зрухаў у характары народнае гаспадаркі БССР.

Этап, у які краіна ўступае пад кіраўніцтвам партыі, павінен быць адзначаны, як этап рашучага змаганьня за далейшае разьвіцьцё соцыялістычных элемэнтаў у народнай гаспадарцы, замацаваньня дасягнутых посьпехаў і далейшага, узрастаючага наступу на прыватна-капіталістычныя рэшткі дзеля завяршэньня пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі. Гэты наступ праводзіўся і будзе праводзіцца ва ўмовах абвостранае клясавае барацьбы. Тэорыя „прытушэньня“ клясавае барацьбы ў нашай краіне, якая прапаведуецца Бухарыным і яго вучнямі з права-опортуністычнага лягеру, мірнае „ўрастаньне кулака ў соцыялізм“, з аднаго боку, стушаваньне ўнутраных супярэчнасьцяй капіталістычнай сыстэмы, якое абвяшчаецца ў тэорыі „організаванага“ капіталізму, — з другога боку, знаходзяць свой практычны выраз у програмах опортуністычнай двугодкі, раўнаньня на вузкія месцы і г. д. Па-Троцкаму „тэорыя“ патухаючай крывой па ўсіх сваіх падставах у асноўным супадае з капітулянцкімі тэорыямі правых опортуністых. Таму мы констатуем аб'яднаньне, ідэнтычнасьць, капітулянцкіх установак правага опортунізму і контр-рэволюцыйнага троцкізму. Сапраўднасьць абвяргае штодзённа і шточасна ўсе опортуністычныя прароцтвы і паказвае, што магчымасьці, якія маюцца ў пролетарыяту, які абапіраецца на бядняцка-колгасныя масы сялянства і трымае саюз з серадняком-адзінаасобнікам — зьяўляюцца невычарпальнымі. Гэтыя магчымасьці проста ігноруюцца альбо адмаўляюцца правымі опортуністымі, якія, праяўляючы няверʻе ў творчы ўздым пролетарыяту, ставяць стаўку на рух „медленным шагом, робким зигзагом“ разам з кулацка-капіталістычнымі элемэнтамі, адмаўляюцца к.-р. троцкізмам, які сьцьвярджае аб немінучых варожых сутычках рабочае клясы з сялянствам і абвяргае на гэтай падставе соцыялістычнае будаўніцтва, пакуль рэволюцыя не ахопіць большасьць краін капіталізму.

„Чакаць, пакуль працоўныя клясы створаць рэволюцыю ў міжнародным маштабе — гэта значыць зусім застыць у чаканьні“ (Ленін, XV, 287). І наша партыя будуе соцыялізм пры падтрыманьні пролетарыяту ўсяго сьвету, і, будуючы соцыялізм у нашай краіне, увязвае гэтае будаўніцтва з задачамі сусьветнае рэволюцыі. Нашае будаўніцтва нельга адлучыць ад пытаньня сусьветнае соцыялістычнае рэволюцыі. Будуючы соцыялізм, мы ўзмацняем базу сусьветнае рэволюцыі, узмацняем веру і ўпэўненасьць у канчатковую перамогу рабочае клясы ва ўсім сьвеце.

Сьнежаньскі Пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) даў у сваіх рэзолюцыях чоткую дырэктыву аб далейшых шляхох соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта дырэктыва заключаецца ў указаньні аб неабходнасьці ў бягучым годзе „завяршыць пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі". Па лініі выкананьня гэтага ўказаньня накіраваны рашэньні Студзеньскага Пленуму ЦК КП(б) Беларусі.

Студзеньскі Пленум ЦК КП(б)Б падагуліў шлях пройдзены партыяй у мінулым годзе і намеціў далейшыя задачы на трэці рашаючы год пяцігодкі.

Умовы, у якіх працякала соцыялістычнае булаўніцтва ў мінулым годзе — зьяўляліся ўмовамі жорсткай клясавай барацьбы. У гэтай барацьбе Комуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б вяла рабочую клясу, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкія масы сялянства да перамогі, падаўляючы супраціўленьне клясавага ворага, ускрываючы і разьбіваючы да аснаваньня манэўры яго агентаў у радох партыі — правых опортуністых, „левых" і іх беспрынцыповага блёку, вялікадзяржаўных шовіністых і нацыянал-шовіністых усіх масьцей.

Мінулы год быў годам разьвіцьця і паглыбленьня экономічнага крызісу ва ўсіх капіталістычных краінах сьвету. Гэты крызіс паразіў усе краіны, да гэтых пор лічыўшых сябе „неўязьвімымі"—як Амэрыка і Францыя. Але асабліва ён паразіў такія краіны, як Польшча, якая зьяўляецца самым слабым зьвяном у сыстэме сусьветнага капіталізму. Рэзкае зьніжэньне вытворчасьці выклікае ў гэтых краінах агромны рост беспрацоўя. Кожны 3-ці рабочы сьвету зьяўляецца беспрацоўным, або працуючым скарочаны час. Нягледзячы на крызіс, падзеньне цэн на прамысловыя тавары не адбываецца. Гэта сьведчыць аб глыбачэзных супярэчнасьцях у самой сыстэме капіталістычнае вытворчасьці, аб глыбокім процэсе загніваньня капіталізму ў яго монополістычных формах. Гэты крызіс і выклікаючыя ім пасьледзтвы разьбіваюць ушчэнт усе „тэорыі" Каутскіх і Гільфэрдзінгаў аб зьмякчэньні супярэчнасьцяй па меры росту концэнтрацыі капіталаў, а таксама і правых опортуністых бухарынскай школы аб адсутнасьці ўнутраных супярэчнасьцяй ў капіталістычнай грамадзе, аб „організаваным" капіталізьме. Капіталістычны мір разьдзіраецца ўсё глыбей унутранымі супярэчнасьцямі, і, у першую чаргу, усё нарастаючай клясавай барацьбой. У пошуках выхаду ён ставіць сваю апошнюю стаўку на інтэрвэнцыю супроць краіны, у якой намаганьнямі мільёнаў працоўных пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі і яе Ленінскага ЦК будуецца соцыялізм. У падрыхтоўцы гэтай інтэрвэнцыі прымаюць удзел сплачоным фронтам усе ворагі соцыялістычнага будаўніцтва ад Пуанкарэ і Пілсудзкага, — да соцыял- і нацыянал-фашыстых і рэнегатаў тыпу Брандлера і Троцкага знадворку і кулака, шкодніка, нацыянал-дэмократа знутры. Гэтаму адзінаму фронту капіталу праціваставіць монолітны фронт рабочых, батракоў, беднаты і серадняков-колгасьнікаў СССР — у саюзе з серадняком-адзінаасобнікам. Фронт соцыялізму абапіраецца на рэволюцыйныя організацыі рабочае клясы і працоўнае сялянства ўсяго сьвету. „Кляса супроць клясы"—не тэорытычны лёзунг, а выраз адбываючыхся глыбачэзных зрухаў у клясавай барацьбе. Кляса супроць клясы паўстае — адны, жадаючы раздавіць краіну соцыялізму, другія — грудзьмі стаць на абарону бацькаўшчыны міжнароднага пролетарыяту.

Асабліва яскравым доказам падрыхтоўкі вайны супроць СССР служаць факты, выяўленыя на процэсе шкоднікаў і агентаў французскага і міравога капіталу—„Прампартыі" і ўзмацніўшаяся падрыхтоўка

военнага нападу на СССР з боку Польшчы і Румыніі пад агульным кіраўніцтвам Францыі. Польшча, рыхтуючыся ліхарадачна да вайны супроць СССР, рыхтуючыся да захопу БССР і УССР, да ўтварэньня „вялікай Польшчы“ „ад мора і да мора“ і аднаўленьня праславутых меж 1772 г., вуснамі сваіх афіцыйных прадстаўнікоў (ваявода Валынскі — Юзэфскі і інш.) і ў органах кіруючай клікі заяўляюць аб „неабходнасьці“ вайны, аб яе непазьбегласьці. Крывавыя „пацыфікацыі“ Заходняй Украіны, тэрор у Зах. Беларусі, атрымаўшае сусьветную вядомасьць, ня гледзячы на замоўчваньне буржуазіі і соцыял-фашыстых, „Луцкое дело“ сьведчаць аб падрыхтоўцы тылоў Польшчы для вайны супроць СССР. Бездапаможная ў перамаганьні крызісу, буржуазія Польшчы — форпост міравой буржуазіі — імкнецца шляхам інтэрвэнцыі супроць СССР прэдатвраціць нямінуемы крах свайго панаваньня. Пагэтаму ўсе свае надзеі яна ўскладае на зрыў соцыялістычнага будаўніцтва, на задушэньне ачага міжнароднай рэволюцыі — СССР.

Саюзьнікі міравой буржуазіі ў СССР—кулацтва і рэшткі гарадзкой буржуазіі—у сувязі з пасьпяховым разьвіцьцём соцыялістычнага будаўніцтва і нямінучай пагібелі капіталістычных элемэнтаў у СССР, у абвостраным супраціўленьні гэтаму наступу імкнуцца знайсьці для сябе адтэрміноўку, калі не аднаўленьне свайго панаваньня. Пытаньне „хто—каго“, пасьпяхова вырашанае ў карысьць соцыялізму ў прамысловасьці, патрабуе далейшага ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны, далейшага разгортваньня наступу на капіталістычныя элемэнты і рашучага падаўленьня іх супраціўленьня

Партыя вядзе рабочую клясу, колгасныя, батрацка-бядняцкія і серадняцкія масы сялянства да новых перамог соцыялістычнага будаўніцтва, перамагаючы па-бальшавіцку настойліва ўсе труднасьці на гэтым шляху. Гэтыя труднасьці выклікаюць хістаньні ў шэрагах найбольш адсталай часткі пролетарыяту, якія адбіваюцца ў радох нашай партыі ў выглядзе рознага роду ўхілаў ад генэральнай лініі партыі. Пад кіраўніцтвам Ленінскага Цэнтральнага Камітэту ЎсеКП(б) уся партыя пасьпяхова вядзе барацьбу з гэтымі ўхіламі, ускрываючы іх анты-бальшавіцкую, антыленінскую сутнасьць.

Намечаныя Пленумам тэмпы разьвіцьця соцыялістычнай гаспадаркі зьяўляецца бальшавіцкім адказам на прароцтвы правых і троцкістых аб „немагчымасьці“ выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, аб „затухании“ тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Пленумам ЦК КП(б)Б зацьверджаны контрольныя лічбы на 1931 г. з паказчыкамі перавышаючымі дасягненьні мінулага году і папярэднія намёткі пяцігодкі. Выканаць заданьне на 1931 г. — значыць забясьпечыць выкананьне пяцігодкі ў 4 гады, а па некаторых галінах — у 3 гады. Мобілізуючы масы рабочых, колгаснікаў, беднаты і сераднякоў на выкананьне заданьняў трэцяга году пяцігодкі, партыйныя організацыі павінны разгортваць соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, забясьпечыць падвышэньне вытворчасьці працы на фабрыках, заводах, у саўгасах і колгасах.

Асноўныя проблемы, якія стаяць перад прамысловасьцю—проблема якасьці, зьніжэньня сабекаштоўнасьці продукцыі, падвышэньня вытворчасьці працы—забясьпечаць выкананьне і перавыкананьне колькасных паказчыкаў, намечаных у контрольных лічбах на 1931 г.

У галіне сельскай гаспадаркі мы ўступаем у другую колгасную вясну. Пленум ЦК КП(б)Б вызначыў рад мерапрыемстваў па забесьпячэньню пасьпяховага правядзеньня бальшавіцкай вясны. Пленум вызна-

чыў контрольныя лічбы колектывізацыі БССР на веснавую пасеўную кампанію і к канцу году.

Выкананьне дырэктыў Пленуму немагчыма без максымальнай напружанасьці сіл і энэргіі ўсёй партыі, асабліва вясковых яе організацый. Стаўцы на самацёк, опортуністычным адносінам да работы сярод батрацтва і беднаты неабходна рашуча палажыць канец. Адным з мэтодаў уцягненьня шырокіх бядняцка-серадняцкіх пластоў у справу сапраўднай агітацыі за колектывізацыю зьяўляюцца ініцыятыўныя групы, перакідка колгасьнікаў для дапамогі і кіраўніцтва ў другія раёны і скарыстаньне супольнай апрацоўкі зямлі ў час вясеньняга севу. Гэтыя мэтоды павінны быць скарыстаны поўнасьцю.

Вырашаючы пасьпяхова зернавую проблему, партыя падышла ўплатную да вырашэньня проблемы мяса-малочнай. Ва ўмовах БССР — спэцыялізацыя раёнаў будзе мець рашаючае значэньне для вырашэньня мяса-малочнай проблемы. Вырашэньне-ж яе мае асабліва-важнае значэньне для ўсёй справы рабочага снабжэньня.

Пытаньні рабочага снабжэньня і работы коопэрацыі, займаючы вялікае месца ў рабоце Пленуму, атрымалі цьвёрдыя ўстаноўкі ў рашэньнях Пленуму. Організацыя прыгарадных гаспадарак, мерапрыемствы накіраваныя к падвышэньню таварнасьці продукцыі, палепшаньне работы снабжэнчаскіх органаў наогул — „пашырэньне харчовай базы і палепшаньне рабочага забесьпячэньня павінны быць у цэнтры ўвагі ўсёй партыі і рабочае клясы“ (з рэзолюцыі Пленуму).

Вырашэньне гэтага пытаньня неразрыўна зьвязана з палепшаньнем работы коопэрацыі, ачышчэньне яе шэрагаў ад элемэнтаў чуждых, разлажыўшыхся, пракраўшыхся, не спраўляючыхся з задачамі, якія ляжаць на коопэрацыі ва ўмовах рэконструкцыйнага пэрыоду. У органах коопэрацыі БССР яшчэ маюцца элемэнты опортунізму, засьмечанасьці, перашкаджаючыя ёй спраўляцца з задачамі, ускладзенымі на яе рабочай клясай.

Той факт, што Пленум ЦК КП(б)Б прызнаў нездавальняючай работу спажывецкай коопэрацыі БССР і работу Наркамгандлю па лініі Белпладагародніны і Белмяса, прымушае партыйныя організацыі прыняць усе меры к таму, каб правесьці па-бальшавіцку перабудову гэтых устаноў і, асабліва, спажывецкай коопэрацыі, з мэтай пасіленьня ў апошняй контролю з удзелам мас у штодзённай дзейнасьці коопэрацыі.

Выкананьне гэтай задачы, як і ўсіх пастаўленых партыяй, нямысьліма бяз шырока разгорнутай самакрытыкі ня ўзіраючы на асобы, без сыстэматычнага вучоту і праверкі выкананьня дырэктыў партыі. Мобілізавацца на выкананьне пастаўленых Пленумам задач, па-бальшавіцку ісьці ў далейшае наступленьне на гаспадарчым фронце, перамагаючы супраціўленьне клясавага ворага і яго агентуры ў шэрагах партыі — опортуністых усіх масьцей і ў першую чаргу правых, вялікадзяржаўных шовіністаў і шовіністых іншых нацыянальнасьцяй — гэтага патрабуе задача хутчэйшага завяршэньня пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі.

---

П. Корчык

# Вынікі фашысцкай выбарчай кампаніі ў Зах. Беларусі

Фашысцкі ўрад у часе выбарчай кампаніі зрабіў новае „цуда“: 75% усіх галасоў у Зах. Беларусі атрымалі ўрадавыя сьпіскі, а ў некаторых акругах (Пінск і Брэст) „посьпех“ гэты вызначаецца нават у 90%. Фашызм гучна трубіць аб сваёй перамозе. Паводле яго слоў выходзіць, што стогнучыя пад ярмом фашысцкай окупацыі масы Зах. Беларусі, даўшыя ня раз выраз сваёй нянавісьці да окупантаў у героічным змаганьні супроць фашысцкага рэжыму і ня раз дэмонстрваўшыя сваю няўхільную волю да аб'яднаньня з БССР, сваю гатоўнасьць абароны Савецкага Саюзу, — раптам загарэліся любасьцю да сваіх прыгнятальнікаў, з музыкай і пяяньнем „Першай Брыгады“ пайшлі да ўрнаў і яўна аддалі свае галасы на ўрадавыя сьпіскі, на чале якіх стаяў Пілсудзкі — герой крывавых распраў з рэволюцыйнамі масамі ў 1919-1920 г. г. Фашызм імкнецца прадставіць рэзультаты выбараў, як поўнае паражэньне рэволюцыйнага лягеру, якім кіруе компартыя, які атрымаў у З. Б. звыш 300.000 галасоў і які яшчэ некалькі месяцаў таму назад пры дадатковых выбарах у Лідчыне і Сьвянцяншчыне атрымаў вялікую перамогу. Гэта патрэбна фашысцкай дыктатуры для таго, каб пераканаць масы, што сіла яе непахісна, што ў выніку яе чатырохгадовага панаваньня, фашысцкай дыктатуры ўдалося вырваць масы з пад уплыву компартыі, вырашыць нацыянальнае і сялянскае пытаньне ў З. Б., абярнуць яе з ачагу рэволюцыйнага змаганьня ў аплот фашысцкай дыктатуры, які палягчае ёй існаваньне яе імпэрыялістычных імкненьняў да разгрому СССР і пашырэньня далёка на ўсход фашысцкай окупацыі. Гіпнозу фашысцкіх лічбаў падпадаюць таксама і некаторыя опортуністычна настроеныя і адарваныя ад мас таварышы, гатовыя паставіць пад сумненьне правільнасьць ацэнкі партыі аб нарастаньні ў хуткім тэмпе рэволюцыйнай сітуацыі ў Польшчы.

Ці так гэта? Аналіз падзей апошняга часу ў Польшчы і ў прыватнасьці ў Зах. Беларусі, таксама як і вынікі выбарчай кампаніі ў корані абвяргаюць гэту панікёрскую ўстаноўку, якую падсунулі нашай партыі нядобіткі правай групы Кастржэвы-Варскага.

*Фашысцкая дыктатура не змагла дабіцца пастаўленай сабе галоўнай стратэгічнай мэты шляхам бязьлітаснага тэрору ізоляваць нашу партыю ад мас. Наша партыя пашырыла свой уплыў у масах, узьняла сваю гатоўнасьць і ўзмацнілася організацыйна. А гэта асноўнае ў ацэнцы рэзультатаў выбарчай кампаніі,* у намячэньні далейшых пэрспэктыў ходу рэволюцыйнага разьвіцьця ў Поль-

шчы і ў Зах. Беларусі і вызначэньні нашых задач і тактыкі. Не падлягае сумненьню, што афіцыйныя рэзультаты выбараў не адбіваюць тых процэсаў, якія адбываюцца ў Зах. Беларусі, што сьведчыць аб далейшым росьце рэволюцыйнай актыўнасьці мас. Гэтыя рэзультаты самым наглым і бесцэрамонным чынам сфабрыкаваны ў нетрах фашысцкіх выбарчых камісій, у канцэлярыях старасты і паліцэйскіх вучастках, рэзультаты гэтыя гэта продукт нячуванага яшчэ тэрору і насільля, для чаго мобілізаваны быў увесь фашысцкі дзяржаўны апарат, фашысцкія ваенныя організацыі і баявыя дружыны, усе сілы аб'яднанага буржуазнага лягеру ад ББ і НД да соцыял-фашыстаў і беларускіх нацыянал-фашыстаў уключна. Усё гэта асабліва яскрава праявілася ў Заходнай Беларусі, як на адным з найбольш рэволюцыйных вучасткаў, адыгрываючым буйнейшую ролю ў ваенных плянах фашысцкай дыктатуры.

Фашысцкая дыктатура задыхаецца ў цісках глыбокага экономічнага крызісу, абвастраючага ўсе зьнешнія і ўнутраныя супярэчнасьці гніючай капіталістычнай сыстэмы. Расьце рэволюцыйная актыўнасьць працоўных мас, рэволюцыйныя выступленьні набываюць усё больш шырокі размах і прымаюць усё больш вострыя формы.

Вулічныя сутычкі, упартая барацьба з паліцыяй і фашысцкімі баявымі дружынамі, асобныя, пакуль, політычныя стачкі выбухаюць у розных пунктах. Асабліва яскравай праявай гэтага зьяўляецца барацьба працоўных мас Заходняе Украіны супроць окупацыі, прыняўшай формы стыхійных падпалаў памешчыцкіх, асадніцкіх і кулацкіх фальваркаў, паліцэйскіх вучасткаў і ўрадавых устаноў, якія мясцамі пераходзяць у ўзброены адпор фашысцкім пакаральным экспэдыцыям. Гэтыя здарэньні на Заходняй Украіне — грозны сыгнал нарастаючай грамадзянскай вайны і магутны ўдар польскаму імпэрыялізму.

У гэтых умовах нарастаючага ў шпаркім тэмпе агульна-політычнага крызісу фашысцкай дыктатуры ў Польшчы зьяўляецца *ліхаманкавая організацыя вайны супроць СССР*, тэрміны якой, як паказвае процэс „Прамысловай партыі“ ў Маскве, кіраўнікі міжнароднага капіталу проектуюць на 1931 г. Гэтыя кароткія тэрміны ў організацыі вайны ставяць перад фашысцкай дыктатурай у Польшчы задачу паскарэньня расправы з нарастаючым рэволюцыйным рухам, умацаваньня фашысцкай дыктатуры і ўдасканаленьня яе апарату

*Сучасная выбарчая кампанія зьяўлялася адным з важнейшых фактараў для ажыцьцяўленьня гэтых задач фашысцкай дыктатуры — свайго роду генэральнай рэпэтыцыяй расправы з рэволюцыйным рухам перад рашаючымі клясавымі баямі,* свайго роду спробай спраўнасьці фашысцкай дзяржаўнай машыны ва ўмовах надыходзячай грамадзянскай вайны ўнутры краіны, ва ўмовах шалёна падрыхтоўваемай контр-рэволюцыйнай капіталістычнай вайны супроць СССР. Фашызм ставіў сваёй мэтай пры дапамозе забесьпячэньня за „санацыяй“ моцнай большасьці стварыць сойм, які забясьпечвае гнуткае і шпаркае правядзеньне ў жыцьцё ўсіх мерапрыемстваў фашысцкай дыктатуры, якія дыктуюцца сучаснай сітуацыяй і адначасова служаць, у вядомай ступені, дэмократычным прыкрыцьцём фашысцкай дыктатуры. Узмацненьнем у сойме кіруючай фашысцкай фракцыі і націскам на так званыя опозыцыйныя групы, урад Пілсудзкага імкнуўся затрымаць процэс разлажэньня ў фашысцкім лягеры, узмацніць свой парушаны аўторытэт у некаторых праслойках буржуазіі, узмацніць гегемонію фінансавага капіталу і буйнага землеўладаньня, сконсолідаваць увесь буржуазны лягер для рашучай расправы з рэволюцыйным рухам.

Гэты асаблівы характар сучаснай выбарчай кампаніі з нязвычайнай яснасьцю ўскрыў *вялізарнае напружаньне клясавых антагонізмаў*. Выбарчая кампанія, як нельга больш яскрава падкрэсьліла той факт, што *ідзе барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць паміж двума лягерамі* — лягерам капіталу і лягерам працы, лягерам эксплёататараў і прыгнятальнікаў і лягерам эксплёатуемых і прыгнечаных. *Кляса супроць клясы — вось сапраўдная і адзіная лінія фронту.* Выбары яскрава падкрэсьлілі, што існуючыя ўнутры фашысцкага лягеру супярэчнасьці, якія выцякаюць з групавых інтарэсаў розных пластоў пануючых кляс і расхаджэньняў з-за мэтодаў выратаваньня панаваньня буржуазіі і барацьбы з рэволюцыйным рухам, у якіх-бы то ні было формах яны не праяўляліся (арышты правадыроў Цэнтралеву, НД, УНДО і г. д., узаемныя спрэчкі і напады), зусім не парушаюць адзінага клясавага фронту буржуазіі ў барацьбе з рэволюцыйным рухам.

Там, дзе рэволюцыйны рух асабліва востра пагражаў панаваньню фашызму, клясавае адзінства ўсяго лягеру буржуазіі, не выдзяляючы нацыянальнасьцяй, не выдзяляючы фракцыйных груціровак, выступае асабліва яскрава. Для здушэньня героічнай барацьбы працоўных мас Зах. Украіны супроць окупацыі аб'ядноюцца ўсе сілы польскай, украінскай і яўрэйскай буржуазіі, польскага, украінскага і яўрэйскага соцыял- і нацыянал-фашызму, пад сьвіст куль і розак, пад енкі расстраляных і прыгнечаных ідуць таргі і замацоўваецца саюз паміж польскай і украінскай буржуазіяй. Яшчэ тры месяцы таму назад гаварыўшае з дазволу ўлад сваёй рэволюцыйнай фразай на дадатковых выбарах Стронніцтва Хлопска адкрыта пераходзіць у лягер санацыі; агенты Луцкевіча-Астроўскага, яўрэйскія равіны, каталіцкія ксяндзы і праваслаўныя папы адкрыта заклікалі масы галасаваць на сьпіскі маршала Пілсудзкага.

*Асноўным мэтодам узьдзейнічаньня фашызму на масы быў нячуваны яшчэ разгул тэрору.* Над Зах. Беларусьсю навісла пагроза карных экспэдыцый. Колькасьць паліцыі павялічана ў вялізарнейшым разьмеры. Акрамя таго былі пастаўлены на ногі ўсе аддзелы „Стральца“, асадніцкіх організацый, організацый фашысцкай моладзі. Выбарчая кампанія ў Зах. Беларусі адзначылася, перш за ўсё, арыштам усіх паслоў беларускага рабоча-сялянскага клюбу „Змаганьне“, арыштам і ліквідацыяй усіх сакратарыятаў і актыўных работнікаў гэтага клюбу. Сьледам за гэтым пасьледваў разгром усіх організацый ТБШ, арышты яго цэнтральнага праўленьня і акруговых упраў; тысячы рэволюцыных рабочых і сялян былі кінуты ў турмы. Бесьперапынная хваля арыштаў працягвалася ва ўвесь час выбарчай кампаніі, фашызм ставіў сваёй мэтай разбурыць рады компартыі, каб пазбавіць масы кіраўніка і організатара іх змаганьня. Фашызм рабіў усё магчымае, каб не дапусьціць да складаньня выбарчых сьпісаў рабоча-сялянскага блёку; з гэтай мэтай рабіліся масавыя аблавы і вобыскі, адбіраліся сабраныя подпісы пад сьпіскамі рабоча-сялянскага блёку; арыштоўваліся ўпаўнаважаныя і члены выбарчых камітэтаў гэтых сьпіскаў, вытвараліся напады на выбарчыя камітэты і сходы рабоча-сялянскага блёку. Амаль пры ўсіх акруговых выбарчых камісіях паліцыя і фашысцкія баявыя дружыны не дапускалі нікога без папярэдняга вобыску, адбіраючы і конфіскуючы падрыхтаваныя да падачы сьпісы рабоча-сялянскага блёку. У Берасьце ўпаўнаважанага рабоча-сялянскага блёку фашысцкая баявая дружына павесіла ў лесе, а ў другога страляла. Рабоча-сялянскі блёк быў пазбаўлены магчымасьці легальнай дзейнасьці і выбарчай агітацыі. Уся прэса ліквідавана; адбіралася выбарчая літаратура і выбар-

чыя нумары; тыя, хто распаўсюджваў іх, арыштоўваліся і зьбіваліся. Ні адзін легальны мітынг і масоўка, ні адзін выбарчы сход ня быў дазволены для антыфашысцкіх арганізацый.

У гэтых умовах шалёнай напружанасьці фашысцкага тэрору *партыя праявіла значную актыўнасьць.* Пад ударамі фашысцкага тэрору партыя наша *ня толькі не дазволіла ізаляваць сябе ад мас*, але ўзмацніла сваю дзейнасьць па мобілізацыі мас на барацьбу з фашысцкай дыктатурай, яскрава і чотка паставіла перад масамі *рэволюцыйны выхад з крызісу — барацьбу за зьвяржэньне фашысцкай дыктатуры шляхам узброенага паўстаньня і ўстанаўленьня дыктатуры пролетарыяту*, шырока спопулярызавала ў масах програму рабоча-сялянскага ўраду.

Організацыі антыфашысцкага блёку змаглі скласьці дзяржаўны сьпісак „Змаганьня", пад які было сабрана 3.850 подпісаў. Ва ўсіх выбарчых акругах былі падрыхтаваны выбарчыя сьпісы антыфашысцкага блёку, пад якімі было сабрана каля 7.000 подпісаў. За выключэньнем Сьвянцянскае выбарчае акругі, у якой фашызм фізычна не дапусьціў да падачы антыфашысцкіх выбарчых сьпіскаў, арыштоўваючы ўсіх упаўнаважаных і адбіраючы сабраныя подпісы, і Новагрудзкае, дзе акруговая выбарчая камісія проста адмовілася прыняць гэтыя сьпісы, ва ўсіх астатніх акругах былі складзены сьпісы ў колькасьці 16. Організацыі праявілі пры гэтым надзвычайную гнуткасьць і мобілізацыйную здольнасьць, часта за 24 гадзіны зьбіраючы зноў сотні подпісаў пасьля захвату паліцыяй раней сабраных. У некаторых мясцох, як напрыклад, у Пінску, была організавана масавая самаабарона для аховы ўпаўнаважаных пры падачы сьпісаў у камісію. Усе спробы фашызму шляхам арыштаў, катаваньняў і пагроз прымусіць рабочых і сялян адмовіцца ад сваіх подпісаў пад сьпіскамі спаткаліся з рашучым адпорам мас. Гэта, бязумоўна, не магло паслужыць перашкодай для фашысцкага апарату, падтрымліваемага ўсімі так назыв. опозыцыйнымі партыямі ад ППС да Луцкевіча ўключна, ануліраваць усе сьпісы рабоча-сялянскага блёку, за выключэньнем г. Вільні. Організацыі антыфашысцкага блёку пад кіраўніцтвам компартыі разгарнулі вельмі шырокую масавую работу, хаця далёка ня ўсюды роўнамерна. Віленская організацыя організавала ў самым горадзе звыш 50 масовак, з каторых большасьць непасрэдна на прадпрыемствах, ахапіўшы масавай работай звыш 4.500 рабочых. На гэтых масоўках выбрана 25 антыфашысцкіх выбарчых камітэтаў, 6 раённых выбарчых бюро і агульна-гарадзкі выбарчы камітэт; організавана 2 конфэрэнцыі дэлегатаў выбарчых антыфашысцкіх камітэтаў. У Брэсцкай акрузе праведзена каля 100 масовак, ахапіўшых звыш 3500 чал., на якіх выбрана каля 80 антыфашысцкіх выбарчых камітэтаў; надзвычайна шырокая масавая работа была праведзена ў радзе раёнаў Беластоцкай акругі (Гайнаўка, Белавеж, Берастовіцы), але значна слабей у самым горадзе Беластоку — усяго толькі 20 масовак (600 чал.) Аб актыўнасьці і ініцыятыве парторганізацыі яскрава сьведчыць факт, што рад раёнаў, часова страціўшы сувязь пад ударамі тэрору з акруговымі цэнтрамі, самастойна і пасьпяхова вёў выбарчую кампанію; разьбіта рад мітынгаў ББ, ББС, ППС, Бунду і ПЦ. Парторганізацыі ня толькі шырока распаўсюджылі цэнтральную выбарчую літаратуру, але таксама інтэнсыўна разьвілі мясцовую выдавецкую дзейнасьць; дастаткова ўказаць, што Беластоцкі ОК выпусьціў 25 адозваў у колькасьці 10.000 экз., Віленскі ОК партыі 15.000 і ОК КСМЗБ — 10.000 адозваў і лятучак.

У тых умовах, у якіх праходзілі выбары ў Зах. Беларусі, ня можа быць і мовы рабіць якія-б то ні было вывады *на аснове лічбаў фашысцкай статыстыкі.* Не падлягае ні малейшаму сумненьню, што вынікі гэтыя *сфальсыфіцыраваны.* Злоўжываньні і махінацыі пры выбарах 1928 г. бляднеюць перад цынізмам сучаснай фашысцкай выбарчай мэханікі. Поўнае ануліраваньне сьпісаў рабоча-сялянскага блёку, поўная адсутнасьць малейшага контролю з боку прадстаўнікоў гэтых сьпісаў, адзіны фронт усіх партый фашысцкага блёку, іх солідарная зацікаўленасьць недапусьціць выяўленьня гэтых махінацый рабяць зусім немагчымым хоць-бы прыблізна ўстанавіць колькасьць галасоў, адданых на ануліраваныя сьпісы рабоча-сялянскага блёку. Таму аб ступені ўплыву антыфашысцкага лягеру ні ў якім выпадку нельга судзіць шляхам параўнаньня лічбовых вынікаў выбараў 1930 г. і сёнешніх выбараў. Некаторыя таварышы *паддаюцца ўплыву фашысцкай выбарчай мэханікі і прыходзяць да панічаскіх вывадаў аб паражэньні нашае партыі, аб усемагутнасьці фашысцкай дыктатуры, аб „пасыўнасьці, абыякасьці і апатыі мас“*, дазволіўшых фашызму рабіць з імі, што ім падабаецца. Гэтыя шкодныя опортуністычныя настроі асобных таварышоў, каторыя свой страх перад фашысцкім тэрорам і няверʻе ў сілы рэволюцыі пераносяць на масы, у корань разьбіваюцца радам фактаў, якія сьведчаць аб росьце рэволюцыйнай актыўнасьці мас, і гэтыя *факты, а не сфабрыкаваная выбарчая арытмэтыка, павінны быць крытэрыем тых працэсаў, якія вытвараюцца на ЗБ.*

Ужо самы факт сабраньня каля 11.000 подпісаў пад сьпіскам рабоча-сялянскага блёку сьведчыць аб аграмаднай арміі рэволюцыйнага актыву, які актыўна ідзе пад нашымі сьцягамі на актыўную барацьбу з фашысцкай дыктатурай, ні палохаючыся ні арыштаў, ні катаргі, ні катаваньняў, ні забойства, ні сьмяртэльных прыгавораў фашысцкага правасудзьдзя.

Тую вялікую зацікаўленасьць, якую праявілі шырокія рабочыя і сялянскія масы да нашае выбарчае агітацыі, калі пад пагрозай арыштаў, выкідваньня з работы і штрафаў, самаадвержана распаўсюджвалі нашу літаратуру і нумары, даючы рашучы адпор паліцыі і баявікам, тая актыўнасьць мас, якая выявілася ў абароне нашых аратараў на масоўках, упаўнаважаных выбарчых камітэтаў і г. д., факт дэмонстрацыі ў Вільне, Беластоку, у радзе вясковых раёнаў, політычная забастоўка Беластоцкіх рабочых з поваду галадоўкі ў турме, зрыў мітынгаў ББ і соцыял-фашыстаў (Вільна, Гайнаўка, Белавеж, Косаў, Тэлеханы і г. д.), — усё гэта сьведчыць аб вялізарнай напружанасьці рэволюцыйнага змаганьня ў Зах. Беларусі. Калі да гэтага яшчэ дадаць далейшае пашырэньне забастовачнай хвалі, якая таксама шырока ахапіла рады сельска-гаспадарчага пролетарыяту, паглыбленьне барацьбы сялянскіх мас, супроць падаткаў, шарваркаў і фашысцкай зямельнай політыкі, дык стане зусім ясным, што ўсюды там, дзе нашы партыйныя організацыі праявілі належную актыўнасьць, не паддаліся паніцы пад націскам фашысцкага тэрору, масы праявілі высокую ступень рэволюцыйнай актыўнасьці і баявой гатоўнасьці. У процэсе выбарчай кампаніі наша партыя здолела пашырыць свой уплыў на новыя атрады пролетарыяту і працоўных мас сялянства, вылучыла шырокі беспартыйны актыў, на зьмену тысяч арыштаваных прышлі новыя барцы; *КПЗБ ня толькі захавала свае організацыі ва ўмовах шалёнага тэрору, але значна ўзмацнілася, організацыйна абнавіўшы сувязь з новымі раёнамі, стварыўшы рад*

*новых ячэек. Гэтыя бясспрэчныя і відавочныя дасягненьні ў корані адвяргаюць фашысцкую выбарчую арытмэтыку.*

Мільён з лішнім галасоў, якія *прыпісала* сабе санацыя, ні ў якім выпадку не зьяўляецца паказальнікам сапраўднага ўплыву фашысцкай дыктатуры ў ЗБ. Бясспрэчна, што *социяльная база фашысцкай окупацыі на ЗБ звузілася.* Праўда, фашызму ўдалося скалаціць на ЗБ пэўнае ядро для апоры окупацыі; польская буржуазія, памешчыкі і кулацтва, беларуская, украінская і літоўская буржуазія і кулацтва, яўрэйская буржуазія і верхавіны яўрэйскай дробнай буржуазіі, асадніцтва, уся зграя окупацыйнага чыноўніцтва і сфашызаваныя органы самаўрадаў, клер каталіцкі, праваслаўны, яўрэйскі і інш. масьцей, руская чорнасоценная эміграцыя — усё гэта цесна згуртавалася вакол фашысцкай дыктатуры, каб выратаваць расхістаныя ўстоі окупацыі на ЗБ, каб расправіцца з рэволюцыйным рухам, каб ператварыць ЗБ у форпост для нападу на СССР. Выбары паказалі вялікую іспраўнасьць фашысцкага дзяржаўнага апарату і фашысцкіх баявых організацый. Апіраючыся на гэта ядро і іспраўнасьць свайго апарату—паліцыю, адміністрацыю, органы самаўрадаў, клер, настаўніцтва, фашысцкія організацыі — фашызм бязьлітасным тэрорам здолеў яшчэ прымусіць частку працоўных пайсьці да ўрнаў для галасаваньня за фашысцкія сьпіскі. Фальсыфікацыя і гвалт—вось аснова мільёнаў галасоў ББ. Наша партыя ня ўлічыла асаблівага характару мінулай выбарчай кампаніі, ня ўлічыла ступені націску фашысцкага тэрору на масы і таму не палажыла належнага націску на гэту асаблівасьць выбарчай кампаніі, не праявіла патрэбнай актыўнасьці ў справе організацыі масавай самаабароны. Не напружыла ўсіх сваіх сіл на мобілізацыю мас, на актыўнае выступленьне для таго, каб зламаць рамкі фашысцкага тэрору і гвалту, каб шляхам актыўных выступленьняў змагацца за падачу галасоў на ануляваныя сьпіскі антыфашысцкага лягеру супроць разгрому і ў абарону рэволюцыйных організацый, на падтрыманьне героічнага змаганьня працоўных мас Зах. Украіны супроць окупацыі.

*І ў гэтым асноўны недахоп ў рабоце нашае КПЗБ у часе выбарчай кампаніі.*

Апрача таго, выбары паказалі, што частка дробна-буржуазных мас, адурманеных фашысцкай дэмагогіяй паддалася ілюзіям, што моцная ўлада Пілсудзкага, „не абмежаваная опозыцыйным соймам“, зможа палепшыць іх становішча. Частку мас, якія адышлі ад соцыял- і народніцка-фашысцкіх партый, санацыі ўдалося часова перахапіць шляхам дэмагогічных бесцэрамонных абяцаньняў зьмяншэньня падаткаў, прырэзкі зямлі, ліквідацыі беспрацоўя, крэдытаў і пазычак. І ў гэтым таксама праявілася слабасьць нашай партыі, якая ня здолела разгарнуць выстарчальнае работы для выкрыцьця дэмагогіі ББ. У некаторых зьвеньнях нашае партыі існавалі наскрозь няправільныя погляды, што „санацыя“ досыць выкрыла сябе ў масах і няма чаго траціць энэргію на яе выкрыцьцё. Стаўка на самацёк не замарудзіла даць адмоўныя рэзультаты.

*Выбары сьведчаць аб далейшым паглыбленьні процэсу дыфэрэнцыяцыі і полярызацыі сіл у ЗБ.* Паражэньне партый Цэнтралеву ў Зах. Беларусі відавочна. Гэтыя партыі сабралі ў два з паловай разы менш галасоў, чым пры выбарах у 1928 годзе. Гэта ні ў якім разе нельга тлумачыць ануляваньнем іх сьпіскаў, бо гэтыя сьпіскі ануляваны як-раз у тых акругах, дзе гэтыя партыі і раней сабралі нязначную колькасьць галасоў (Брэст, Гродна). У Вільне галасы ППС зьменшыліся ў два разы, а ў Пінскай акрузе, якая калісьці была

цьвярдыняй ППС, галасы Цэнтралеву зьменшыліся ў шэсьць раз, а ў Лідзкай акрузе ў параўнаньні з дадатковымі выбарамі 1930 году зьменшыліся амаль у тры разы. Гэта побач з бражэньнем, якое выявілася ў нізавых организацыях Стронькіцтва Хлопскага, і адыходам мас ад гэтай партыі побач з фактамі адыходу рабочых ад ППС, аслабленьнем позыцый ППС у профсаюзах — сьведчаць аб глыбокім крызісе социял- і народніцка-фашысцкіх партый. Рашучае бязьлітаснае выкрыцьцё з боку нашае партыі социял- і народніцка-фашызму паскарае процэс адыходу мас ад гэтых партый. Аднак, і тут актыўнасьць партыі была недастаткова. Партыя не змагла належным чынам пацягнуць у рады актыўных барацьбітоў рэволюцыйнага лягеру масы, якія адыходзяць ад ППС і Стронькіцтва Хлопскага. Асноўныя прычыны гэтага — *надзвычайна слабае прымяненьне тактыкі адзінага фронту зьнізу*, гэтага магучага аружжа для заваёў і актывізацыі мас. Паражэньне Цэнтралеву ні ў якім выпадку не азначае зьмяншэньня небясьпекі з гэтага боку. *Гэта — па ранейшаму галоўны вораг у барацьбе за масы;* не паслабляць, а ўсямерна пасіліць барацьбу з гэтым ворагам — па ранейшаму застаецца ўдарнай задачай.

Неаслабная ўпартая барацьба нашае партыі супроць беларускага нацыянал-фашызму, замацаваньня гегемоніі пролетарыяту ў нацыянальна-вызваленчым руху, барацьба з ухіламі і хістаньнямі ў радох гэтага руху і ў радох нашае партыі, далі яскравыя станоўчыя вынікі, *якія выражаюцца ў далейшым ізоляваньні беларускага нацыянал-фашызму ад мас. Беларускі нацыянал-фашызм панёс цяжкае паражэньне.* Слабы ўплыў яго ў масах яшчэ больш звузіўся. Ні ўсямерная падтрымка нацыянал-фашызму з боку ўраду, ні расчышчанае ўрадам для яго поле дзейнасьці шляхам разгрому організацый нацыянальна-вызваленчага руху, ні хітрыя манэўры, адным з праяў якіх было датэрміновае вызваленьне паслоў Грамады, ні дапамога мізэрных рэнэгатаў накшталт Акінчыца ня выратавалі становішча. Партыя змагла сваечасова выкрыць гэтыя манэўры і ўзброіць масы на барацьбу з нацыянал-фашызмам. Аднак, і тут трэба памятаць, што вораг пабіты, але ня зьнішчаны. Небясьпека з боку нацыянал-фашызму не перастала быць актуальнай і будзе паглыбляцца па меры далейшага нарастаньня крызісу фашысцкай дыктатуры, па меры набліжэньня вайны супроць СССР. Нацыянал-фашызм—*гэта адзін з важнейшых фактараў падрыхтоўкі вайны супроць СССР.* Яркае сьвятло на гэту ролю беларускага нацыянал-фашызму кідае выкрытая ў БССР контр-рэволюцыйная група беларускіх нацыянал-дэмократаў на чале з Ластоўскім, Лёсікам і Некрашэвічам, у адносінах якой група Луцкевіча-Астроўскага ў ЗБ зьяўлялася ідэолёгічным і організацыйным цэнтрам. Нацыянал-дэмократы імкнуліся організаваць кулацкае паўстаньне ў БССР і пад кіраўніцтвам польскага фашызму падрыхтоўвалі інтэрвэнцыю польскага імпэрыялізму для зьвяржэньня дыктатуры пролетарыяту ў БССР і пашырэньня польскае окупацыі на ўсход. Выбары яшчэ раз падкрэсьлілі, што беларускі нацыянал-фашызм яшчэ мацней зьвязаў свой лёс з фашысцкай дыктатурай у Польшчы. Паглыбленьне рэволюцыйнага крызісу і рост социялістычнага будаўніцтва у БССР, у прыватнасьці посьпехі колектывізацыі, ушчыльняюць саюз беларускай буржуазіі і кулацтва з польскай буржуазіяй, актывізуючы яе на барацьбу з рэволюцыйным рухам, для організацыі вайны супроць СССР. Гэта адзін з аплотаў фашысцкай окупацыі. Адкрыты заклік беларускіх нацыянал-фашыстаў галасаваць на ББС, з аднаго боку, поўнае падтрыманьне фашысцкай дыктатурай групы Луцкевіча-Астроўскага, з другога—найбольш яркі выраз гэтага.

Яўрэйская буржуазія і частка дробнай буржуазіі аддала свае галасы на санацыю. Гэта сьведчыць аб далейшым зрастаньні яўрэйскай буржуазіі з польскім фашызмам, аб узмацненьні яе ролі, як аднаго з устояў фашысцкай окупацыі на ЗБ, як аднаго з важнейшых каналаў і правадыроў колёнізатарскай і полёнізатарскай політыкі польската фашызму. Задачай сіоністаў, якія выступалі з асобным сьпісам, было — ахапіць масы яўрэйскай дробнай буржуазіі, асабліва востра адчуваючай цяжкасьці экономічнага крызісу і фінансавай політыкі і падпарадкаваньне іх фашысцкай дыктатуры. Значная колькасьць галасоў, сабраных сіоністамі на ЗБ, сьведчыць аб значным уплыве яго сярод гэтых яўрэйскіх і буржуазных мас і невыстарчальная барацьба з сіонізмам. Бунд і ПЦ у асноўным амаль захавалі свой уплыў сярод мас яўрэйскага пролетарыяту і гарадзкой і местачковай бедняты. Невыстарчальна конкрэтная работа нашае партыі сярод яўрэйскага пролетарыяту і беднаты, слабае рэагаваньне на спэцыяльныя патрэбы яўрэйскіх працоўных мас у штодзённай працы, а таксама невыстарчальнае правядзеньне тактыкі адзінага фронту ў адносінах яўрэйскіх працоўных мас для выкарыстаньня бражэньня ў нізавых бундаўскіх організацыях, стаўка на самацёк — і тут не далі даволі станоўчых рэзультатаў. Выбарчая кампанія яшчэ раз выкрыла вялізарную запушчанасьць нашае работы сярод літоўскіх працоўных мас.

Вынікі выбарчай кампаніі сьведчаць аб *бясспрэчным далейшым процэсе лявеньня мас і росьце іх рэволюцыйнай актыўнасьці. Бязумоўна ўзрасла таксама актыўнасьць нашай партыі, аднак, далёка не ў такой ступені, якой патрабуе ад нас даны гістарычны момант, які непасрэдна папярэджвае рашаючыя клясавыя баі, непасрэдна папярэджвае ваенны напад на СССР.* Гэтыя ўмовы прад'яўляюць асабліва павышанае патрабаваньне да нашай партыі, як правадыру рэволюцыйных мас. Адзначаючы рад буйнейшых дасягненьняў, павышэньне мобілізацыйнай здольнасьці і баявой актыўнасьці нашай партыі, мы павінны з асаблівай вострасьцю і выразнасьцю падкрэсьліць, *што наша партыя ня толькі ня зжыла існуючай дыспропорцыі паміж актыўнасьцю мас і актыўнасьцю партыі, але, бадай, адносна, гэта дыспропорцыя яшчэ больш узрасла. Партыя пасьпяхова яшчэ не перабудавала сваіх радоў, не ўзьняла сваёй мобілізацыйнай здольнасьці і баявой актыўнасьці на тую ступень, якая забясьпечыла-б ёй пасьпяховую мобілізацыю мас і кіраўніцтва іх баявымі выступленьнямі ў цяжкіх і складаных умовах сконцэнтраванага фашысцкага тэрору для таго, каб даць адпор націску фашысцкай дыктатуры і перайсьці ўсім фронтам у контр-наступленьне.*

Гэта асноўны недахоп нашай партыі, які пагражае буйнейшымі вынікамі, калі партыя ня здолее ў той параўнальна кароткі тэрмін, які мы маем, узьняць сваю баяздольнасьць.

Гэта цалкам сьцьвярджае мінулая выбарчая кампанія. Мы недаўлічылі *асобнага характару* гэтай выбарчай кампаніі і не сконцэнтравалі ўсіх сіл для мобілізацыі мас на актыўнае выступленьне, каб прарваць сконцэнтраваныя сілы фашызму. Праўда, аб гэтым гаварылася ва ўсіх нашых асноўных докумэнтах, дырэктывах і адозвах — *лінія і тактыка нашай партыі была ў асноўным правільная, аднак, вышэйпаданыя моманты ня былі даволі рэзка падкрэсьлены, партыя ў сваёй практычнай рабоце не зрабіла гэтага выходным пунктам усёй сваёй работы.*

У выніку гэтага організацыя адпору мас была невыстарчальнай; выбарчая кампанія не прашла пад знакам організацыі політычных ста-

чак і вулічных выступленьняў у адказ на тэрор фашысцкай дыктатуры, наануляваньне сьпіскаў антыфашысцкага блёку, на разгром фашысцкіх організацый; *організацыя дружын масавай самаабароны ня была пастаўлена ў цэнтры ўвагі партыі*, а бяз гэтага наіўна думаць аб пасьпяховай організацыі адпору фашызму. Партыя правяла шырокую агітацыйную работу, але не хапала якраз гэтага асноўнага ў даных умовах зьвяна. Гэта таксама сьцьвярджае і надзвычайна слабы водгук, які не знайшлі ў нас, у Зах. Беларусі, падзеі на Зах. Украіне. Мы ня мелі фактаў актыўных выступленьняў мас на падтрыманьне барацьбы супроць окупацыі ў З. У., бо парторганізацыі адразу добра не ўявілі сабе як характару падзей, што там адбываюцца, таксама ня выявілі яснага разуменьні таго, што на ўзмацненьне тэрору фашысцкай дыктатуры, якая імкнецца разьбіць па частках рэволюцыйны рух, трэба неадкладна адказаць контракцыяй і солідарнай барацьбой ва ўсёй краіне. Політычная стачка ў Беластоку зьяўляецца пакуль што асобным, ізоляваным фактам. Парторганізацыі яшчэ не навучыліся ўсюды прыстасаваць гэту магутную зброю як для рэагаваньня на тыя мясцовыя падзеі, якія асабліва востра адчуваюцца масамі данага гораду і раёну, так і належнага пашырэньня гэтага сродку барацьбы дапасавальна да важнейшых падзей, што закранаюць інтарэсы ўсяе рабочае клясы. Трэба мець ясную ўстаноўку на пашырэньне і коордынацыю барацьбы, на ўвязку яе з агульнаполітычнымі падзеямі. Вышэйпаданае, так і тое, што падзеі ў Варшаве і іншых мясцовасьцях Польшчы 14—16 верасьня 1930 г. таксама не знайшлі належнага водгуку ў Зах. Беларусі, сьведчыць як аб неразуменьні ўсяе важнасьці і значэньня гэтых падзей, так і *аб вузкім провінцыялізьме і адарванасьці ад агульнапольскага руху*, аб надзвычай слабой яшчэ ўзаемнай увязцы і коордынацыі барацьбы працоўных Зах. Беларусі з барацьбой працоўных мас Зах. Украіны і ўсёй Польшчы.

Другім слабым бокам выбарчай кампаніі было *вельмі недастатковае прыстасаваньне тактыкі адзінага фронту зьнізу* для пашырэньня нашага ўплыву і заваяваньня тых мас, якія ішлі яшчэ за соцыял-народніцкаі нацыянал-фашысцкімі партыямі; процэс разлажэньня ў гэтых партыях, супярэчнасьці, што паглыбляліся паміж нізамі і вярхамі гэтых партый, стваралі для нас надзвычайна спрыяючыя ўмовы, якія ня былі намі ў належнай меры выкарыстаны. Організацыя адзінага фронту зьнізу якраз слабей за ўсё была праведзена ў Беластоку, дзе перад нашай партыяй стаіць ударная задача прасякнуць на буйныя прадпрыемствы і вырваць пролетарыят гэтых прадпрыемстваў з-пад уплыву ППС і БУНД'у. Тут якраз у кіраўніцтве праявілася поўнае ігнораваньне тактыкі адзінага фронту зьнізу, махінацыі з верхавінамі соцыял- і нацыянал-фашызму, адмоўныя адносіны да стварэньня сеткі антыфашысцкіх выбарчых камітэтаў. Да і ў іншых акругах стварэньню антыфашысцкіх выбарчых камітэтаў ня было аддана выстарчальнай увагі.

Аналізуючы нашы посьпехі ў нашых важнейшых прамысловых цэнтрах, мы бачым, што *рост нашага ўплыву толькі ў слабой ступені адбываўся за лік мас, адыходзячых ад ППС і Бунду. Віленскі АК констатуе*, што мы ня здолелі пашырыць і замацаваць наш уплыў сярод чыгуначнікаў, адышоўшых ад ППС, і што гэта было ў значнай ступені выкарыстана непасрэдна „санацыяй". Тое-ж самае трэба сказаць і адносна вёскі, дзе мы вельмі слаба выкарысталі фэрмэнт у Стронька Хлопскім для ўзмацненьня позыцый рэволюцыйнага антыфашысцкага блёку. У пары з гэтым таксама выявілася застарэлая балячка

нашай партыі, няўменьне разгортваць буйныя палітычныя кампаніі на глебе і ва ўвязцы як з бягучымі палітычнымі падзеямі, так і са штодзённай экономічнай барацьбой рабочае клясы і працоўных мас сялянства.

У процэсе выбарчай кампаніі з усёй выразнасьцю выявіліся надзвычай пагражаючыя сымптомы, якія сьведчаць аб тым, што *правая небясьпека і сэктанцтва глыбока закараніліся ў паасобных зьвеньнях нашай партыі, часта захопліваючы кіруючы акруговы актыў*. Асабліва яркай праявай гэтага было *панікёрства і дэмобілізацыйныя ліквідатарскія настроі*. Асноўная прычына гэтага—нявер'е ў сілы рэволюцыі і рэволюцыйную актыўнасьць мас. Жорсткія ўдары фашысцкага тэрору дзе-ні-дзе дэзорганізавалі нашы рады. Паасобныя панікёры, якія страцілі веру ў рэволюцыйнасьць мас і бачылі толькі ўсемагутнасьць паліцэйскага штыка, гатовы былі сьпусьціць рукі і ў паніцы ўцякаць са сваіх баявых пастоў, пакідаючы масы без кіраўніцтва ў рашаючыя хвіліны. *Гэтыя таварышы, паддаўшыся гіпнозу фашысцкіх лічбаў*, бачаць у іх толькі поўную перамогу фашызму і паражэньне рэволюцыйнага лягеру, бачачы прычыну гэтага паражэньня ў „пасыўнасьці і апатыі мас“. Такія ў корані памылковыя правыя тэорыі разьвівае ў сваёй справаздачы сакратар Лідзкага АК. Наколькі гэта ацэнка супярэчыць усім фактам, ясна для кожнага, хто не адарваўся ад мас і не мяркуе аб падзеях толькі на падставе сфабрыкаваных даных фашысцкага апарату, а апірае сваю ацэнку на дакладным вывучэньні і аналізе фактаў барацьбы мас, якія ў тэй-жа Лідчыне далі не адзін прыклад героізму і самаадданасьці. Барацьба з панікёрствам, з ліквідатарскімі настроямі, якія вынікаюць з опортуністычных концэпцый, з сэктанцкай вузасьці і страху перад тэрорам — ударная чарговая задача нашай партыі.

Рэпрэсіі фашысцкага ўраду ў адносінах Цэнтралеву аднавілі правыя концэпцыі Кастржовы-Стэфанскага аб об'ектыўна рэволюцыйнай ролі ППС, нацыянал- і народніцка-фашысцкіх партый і нярэдка ня толькі сярод былых прыхільнікаў правай групы. Прыклады гэтага мы часта бачылі ў ходзе выбарчай кампаніі. Тыповай праявай гэтага была тактыка Беластоцкага АК у адносінах да нацыянал-фашысцкай групы Кузьміна-Сідаровіча ў ТБШ і бундаўскага праўленьня саюзу тэкстыльшчыкаў, а таксама адносіны да бунду і ПЦ з боку часткі актыву Пінскай гарадзкой організацыі, які выключаны зараз з партыі. Леваопортуністычныя сэктанцкія настроі ярка праявіліся ў тым-жа Беластоку ў недаацэнцы прыстасаваньня тактыкі адзінага фронту зьнізу і стварэньня антыфашысцкіх органаў адзінага фронту, у штодзённым слабым уцягненьні беспартыйнага актыву ў рады нашай партыі, які выявіўся ў часе выбарчай кампаніі. Усё гэта ставіць перад партыяй задачу ўзмацненьня барацьбы з правым і „левым“ опортунізмам, дакладную прапрацоўку пастаноў V зьезду КПП і IV пленуму ЦК КПЗБ, спалучэньне з прапрацоўкай якіх моцна адбілася на ходзе ўсяе выбарчай кампаніі.

Вынікі выбарчай кампаніі і перамога санацыі не разьвязваюць крызісу фашысцкай дыктатуры ў Польшчы. Дасягнутае фашысцкай дыктатурай узмацненьне сваёй гегемоніі ў фашысцкім лягеры і больш дакладнае прыстасаваньне дзяржаўнай машыны да ўмоў вайны супроць СССР і грамадзянскай вайны ўнутры краіны ня могуць паслабіць абвостраных супярэчнасьцяй, якія зьяўляюцца асновамі капіталістычнага ладу ў Польшчы. Экономічны крызіс пашыраецца, паглыбляецца і прымае ўсё больш востры характар. Страшэнным тэмпам расьце беспра-

цоўе. Паход капіталу на жыцьцёвы ўзровень рабочае клясы і рэшткі соцыяльных заваяваньняў разьвіваецца з новай сілай. Зьбядненьне шырокіх мас сялянства ва ўмовах аграрнага крызісу ідзе паскораным тэмпам. Карныя экспэдыцыі ня змогуць зламіць нацыянальна-вызваленчай барацьбы прыгнечаных народаў, а толькі абвостраць яе формы і ўзьнімуць на вышэйшую ступень. Праведзеная ва ўмовах страшэннага тэрору і наглага ашуканства выбарчая кампанія абвастрае нянавісьць мас да фашысцкай дыктатуры і ствярае спрыяючую абстаноўку іх актывізацыі. Узмацніўшы сваю гегемонію ў фашысцкім лягеры, фашысцкая дыктатура не адхіліла трэньняў у лягеры буржуазіі, якія будуць абвастрацца па меры паглыбленьня экономічнага і політычнага крызісу і якія наша партыя павінна выкарыстаць для выкрыцьця ўсіх фракцый фашысцкага блёку, палягчаючы пролетарыяту пераход у наступленьне на фашысцкую дыктатуру. Дыскрэдытацыя ППС і ўсяго Цэнтралеву і збанкрутаваньне іх дэмократычнай фразэолёгіі надзвычай паслабляе прыводныя пасы фашызму да мас, палягчае партыі адрыў мас ад соцыял-нацыянал- і народніцка-фашысцкіх партый.

Усё гэта паказвае на тое, што рэволюцыйная барацьба як ва ўсёй Польшчы, так і ў Зах. Беларусі няўхільна прыме больш вострыя формы. Накальваюцца рэволюцыйныя сілы, насьпяваюць новыя выбухі на больш масавай базе і на павышаным узроўні. Наша партыя павінна быць гатова стаць на чале разгортваньня клясавых баёў, аб'яднаць іх, узьняць на вышэйшую ступень, каб пачаць рашучы штурм позыцый фашысцкай дыктатуры. А для гэтага неабходна перш за ўсё падрыхтаваць свае рады, таму організацыйная проблема ва ўсёй яе шырыні павінна стаяць у цэнтры ўвагі партыі. Узмацніць сваю організацыйную сетку, узмацніць свой уплыў на новыя пласты пролетарыяту і працоўныя масы сялянства і ахапіць іх організацыйна, выкарыстаць створаную ў часе выбарчай кампаніі організацыйную сетку для разьвіцьця новых акцый і організацыйнага ўзмацненьня іх партыі, узмацніць і пашырыць свае прыводныя пасы да мас, палепшыць і ўдасканаліць зьверху данізу свой апарат і прыстасаваць яго да ўмоў узросшага тэрору, да ўмоў будучай вайны супроць СССР і грамадзянскай вайны ў Польшчы — вось неадкладныя „животрепещущие“ задачы, для ажыцьцяўленьня якіх перад партыяй стаяць вельмі кароткія тэрміны. Без ажыцьцяўленьня гэтых задач немагчыма ўзьняцьце баявой актыўнасьці партыі і яе мобілізацыйнай здольнасьці—умовы патрэбнай у даны момант для пасьпяховага кіраўніцтва нарастаючымі масавымі баямі. Стаць на чале экономічных баёў пролетарыяту і руху беспрацоўных, узьняць іх на вышэйшую ступень політычнай барацьбы—масавых політычных стачак, дэмонстрацый, барацьбы за вуліцу — організаваць масы на барацьбу супроць окупацыі і нацыянальнага ўціску, узмацняючы гегемонію пролетарыяту ў нацыянальна-вызваленчым руху, організаваць барацьбу сялянскіх мас супроць падаткаў, шарваркаў, экзэкуцый, за зямлю бяз выкупу, організаваць адпор мас фашысцкаму тэрору на аснове стварэньня дружын масавай самаабароны і організацыі актыўных выступленьняў мас, правільна злучыць усе формы барацьбы, быць гатовымі стаць на чале і кіраваць партызанскім рухам, што можа выбухнуць, стаць на чале ўсякага стыхійнага рэволюцыйнага выступленьня мас, ахапіць яго нашым уплывам, узьняць на вышэйшую ступень і накіраваць у агульнае рэчышча барацьбы пролетарыяту за зьвяржэньне фашысцкай дыктатуры, пільна прыслухоўвацца і неадкладна адгукацца на барацьбу, якая разьвіваецца ў Польшчы і Зах. Украіне, неадкладна мобілізуючы масы на падтрыманьне гэтай барацьбы — вось

задачы, ажыцьцяўленьне якіх паскорыць насьпяваньне рэволюцыйнай сітуацыі ў Польшчы. Уся дзейнасьць компартыі павінна быць накіравана на разгортваньне сіл і організацыю ў абарону СССР, якому пагражае інтэрвэнцыя міжнароднага імпэрыялізму, у якой такая актыўная роля аддаецца фашысцкай Польшчы. Гэта павінна быць пастаўлена ў цэнтры ўсёй работы. На прыкладзе процэсу „Прамысловай партыі“ і дзейнасьці контр-рэволюцыйнай беларускай нацыянал-дэмократычнай організацыі ў БССР мы павінны ўпэўніць масы, якая вялікая і актуальная небясьпека контр-рэволюцыйнай вайны, якую польскі фашызм плянаваў на 1931 год, што ажыцьцяўленьне гэтай пагрозы залежыць у першую чаргу, наколькі наша партыя здолее мобілізаваць масы для зрыву гэтых злачынных плянаў. Вынікі выбараў яшчэ больш узмацняюць актуальнасьць гэтай пагрозы.

Усё гэта патрабуе максымальнай ініцыятыўнасьці і самадзейнасьці ня толькі кіруючых цэнтраў нашай партыі, але ўсіх акруговых і раённых організацый. Трэба неадкладна даць ацэнку агульных і мясцовых падзей, хутка орыентавацца, дакладна акрэсьліць чарговыя задачы і зараз-жа праводзіць іх у жыцьцё. Гэта патрабуе стварэньня моцных мясцовых кіруючых кадраў, колектыўнага кіраўніцтва на мясцох, цесна зьвязанага з масамі. Неабходна па ўласнай ініцыятыве хутка рэагаваць на падзеі, не чакаючы толькі дырэктыў зьверху, бо ў даных умовах хутчэй за ўсё могуць быць разрывы паміж паасобнымі зьвеньнямі нашай партыі, якія затрудняць і часта зробяць немагчымай хуткую сувязь цэнтру з мясцамі. А маруднасьць у такіх выпадках роўна сьмерці.

Узьнімаючы сваю баявую актыўнасьць, пашыраючы сувязь з масамі, змагаючыся за бальшавіцкую лінію, супроць усякіх ухілаў, а ў першую чаргу з правым ухілам, наша партыя пасьпяхова павядзе масы на пераможны штурм фашысцкай дыктатуры.

---

**М. Югаў**

# Вялікадзяржаўная контрабанда пад сьцягам беларускага нацыяналізму[1])

Кніга Цьвікевіча, надрукаваная нашым Беларускім Выдавецтвам, мае пэўныя палітычныя заданьні. Разам з тым гэта найбольш буйны твор буржуазна-нацыяналістычнай гістарычнай мысьлі. Гэта кніга прабуе разглядзець гісторыю грамадзкай мысьлі Беларусі ў працягу ўсяго XIX і пачатку XX в. в. пад пэўным кутом погляду, абсолютна варожым марксызму, г. зн. адзіна навуковаму сьветапогляду, і антысавецкім па тых-жа палітычных вывадах, якія нямінуча вынікаюць з гэтае кнігі. Калі разглядаць кнігу з пункту гледжаньня мэтодолёгіі аўтара, дык трэба сказаць, што ў цяперашні час яна ніякім чынам ня можа задаволіць самага непатрабоўнага савецкага чытача. Асноўным у гэтай кнізе зьяўляецца рэзка выказаны нацыяналістычны пункт погляду, якому аўтар падпарадкуе ўсе іншыя „фактары". Гэты нацыяналізм праглядвае амаль з кожнай старонкі гэтае кнігі. У аўтара ёсьць адвечная нацыянальная ідэя, якая цягнецца стагодзьдзямі, знаходзіць сабе розных клясавых носьбітаў, якія і рэалізуюць гэту ідэю.

„Тое, што цягнулася *праз гады, дзесяцігодзьдзі, і стагодзьдзі*, тое ўрэшце знайшло само сябе, знайшло сваё імя, вырвалася полымем з-пад попелу мінулага" (186 стар.)—так піша аўтар кнігі, гаворачы аб пачатку беларускага культурнага сэпаратызму. Ня рад адзнак, канстытуіруючых народнасьць ці нацыю, а іменна *ідэя* нацыянальнасьці, вечна—у пэрыод дафэодальны, як і ў пэрыод прадсоцыялістычны, у пэрыод фэодалізму, як і ў эпоху капіталізму—роўная самой сабе—вось што цікавіць аўтара.

У Цьвікевіча на працягу ўсёй яго кнігі змагаюцца паміж сабой беларускія, расійскія і польскія „погляды", ідэі, навука, адносіны. І гэтыя нацыянальныя адносіны ня толькі ня зьведзены да клясавых, як гэтага патрабуе азбука марксызму, але клясавыя адносіны ў яго падначалены нацыянальным. Для яго „культурная гісторыя Беларусі ў XIX-XX ст. і была выразам узаемнай барацьбы русыфікацыйных і полёнізуючых начал за гегемонію ў Беларусі" (16) і толькі з гэтага standpunkt'у разглядае Цьвікевіч і культурную і палітычную і эканомічную гісторыю Беларусі. Цьвікевіч прабуе дзе-ні-дзе скарыстаць марксыцкую фразэолёгію, але гэта фразэолёгія служыць усё тэй-жа мэце выяўленьня тэй па-за клясавай нацыянальнай ідэі, якая рэгулюе ўсю гісторыю грамадзкага змаганьня і грамадзкай мысьлі на Беларусі ў працягу XIX і XX в. в. Выходзячы з гэтага пункту гледжаньня,

[1]) Артыкул зьяўляецца расшыранай і пераапрацаванай стэнограмай выступленьня аўтара па дакладу аб кнізе Цьвікевіча ў таварыстве гісторыкаў-марксыстых у сакавіку 1930 году.

Цьвікевіч ставіць перад сабой пытаньне, якое органічна чужое савецкаму чытачу.

„Куды ідуць гістарычныя шляхі Беларусі—на ўсход ці на захад? З кім яна павінна вязаць свой лёс—з Расіяй ці з Польшчай? Чаму, дзеля якіх прычын Беларусь павінна адыйсьці да „славянскай“ Расіі, а не да „лацінскай“ Польшчы, і як пры гэтай умове павінна выглядаць Беларусь, як пэўная этнографічная асаблівасьць“ (141-142 стар.).

Так рытарычна запытвае аўтар. Наўрад ці больш блізка беларускаму савецкаму чытачу і тая нацыяналістычна-романтычная бязглузьдзіцца, якую лірычна разьвівае Цьвікевіч амаль на кожнай старонцы сваёй кнігі. Бо каго-ж могуць спакушаць у наш час людзі, „якія жывілі ўспаміны аб Літоўскім княстве, аб гістарычнай асобнасьці краю, якія былі цесна зьвязаны з вуніяй і са ўсёй тэй беларускай стыхіяй, якая ў ёй захоўвалася праз вякі“ (146 стар.).

Гэты-ж пункт гледжаньня нямінуча павінен яго прыводзіць і да раду чыста шовіністычных цьверджаньняў, тлумачэньняў, а часам і да таго, што ён занадта яўна закідвае каменьні ў наш савецкі горад.

Другое, што адзначае мэтодолёгію гэтае кнігі—гэта яе чысьцейшы ідэалізм, здобраны, праўда, дзе-ні-дзе ўсякімі развbooжаньнямі наконт экономікі, матар'яльных падстаў і г. д. Даволі прачытаць наступныя радкі, каб зразумець, наколькі далёк аўтар ня толькі ад марксызму, але і проста ад матар'ялістычнага разуменьня гістарычных адносін і наколькі ім цалкам уладае рацыяналістычны эклектызм і ідэалізм у яго тлумачэньнях.

„Усё залежыла ад таго, як хто чытаў „западно-русские“ творы і як хто рэагаваў на выхваленьне „западно-русских“ асаблівасьцяй тутэйшага краю. Той, каму была знаёма Расія, хто чакаў ад яе карысьці ў сваёй кар'еры,—той і чытаў іх па „западно-русски“. Той-жа, хто Расіі ня ведаў і нічога для сябе ад яе не чакаў, той прапускаў бяз увагі патрэбу свайго аб'яднаньня з ёй, на месца слоў „Западная Россия“ ставіў больш зразумелай для сябе „Беларусь“ і больш зьвяртаў увагі на довады яе гістарычнай і нацыянальнай самастойнасьці, чым на довады еднасьці з Расіяй. Шмат каму з сэмінарскай моладзі імпонавалі ласьне гэтыя беларускія мотывы“ (270).

Або, напрыклад, яго тлумачэньне прычын пастаноўкі нацыянальнага пытаньня і прабуджэньня нацыянальнай самасьвядомасьці сярод розных нацыянальнасьцяй ранейшай Расійскай імпэрыі. Ён тлумачыць гэта некалькімі фактамі: па-першае, славянафільствам і яго зацікаўленасьцю да народніцтва, потым лёзунгам фэдэралізму, які быў уведзены ў програму нацыянальных народніцкіх партый, потым самым народніцкім рухам, нарэшце разьвіцьцём этнографіі і нават расійска-турэцкай вайной (стар. 222, 223, 204 і г. д.).

Або вось, напрыклад, іншае месца, якое аўтар падае ў тлумачэньне прабуджэньня нацыянальнай самасьвядомасьці ў віленскіх культурных работнікаў.

„Чым далей і глыбей выяўляўся перад вачыма тагочасных віленскіх культурных работнікаў вобраз Беларусі, тым больш рабіўся ён няпольскім, і тым больш самі яны пазбаўляліся чыста-польскага погляду на свой край“ (211).

Якраз такога-ж роду і яго разважаньні аб славянафільстве: „Славянафільства зьявілася вынікам двух момантаў у гісторыі мысьлі: папершае, узьнікненьня вялікае зацікаўленасьці да славянства, як да асобнае групы эўропейскіх народаў і, па-другое, ідэалістычнай філёзофіяй Шэльлінга-Гегеля і яе асноўнай ідэі аб сусьветным духу" (199). Той-жа самы набор фраз аб славянафільстве можна прачытаць і на старонцы 24.

І так усюды. У Цьвікевіча ня ідэі зьяўляюцца выяўленьнем інтарэсаў і жыцьцёвых умоў тэй ці іншай социяльнай групы, тае ці іншае грамадзкае клясы, а наадварот, інтарэсы і клясы служаць ідэям, правільней, аднэй ідэі, беларускай нацыянальнай ідэі. Ці трэба ўсур'ёз крытыкаваць усю гэту мешаніну, закручаста вылажаную і бясконца лёгкаважную, часта зусім невуцкую. Ці не даволі проста ўказаць на гэту „нясусьветную" недарэчнасьць чалавека, які толькі з прычыны поўнай адсутнасьці пачуцьця сьмешнага адважыўся абвясьціць сябе марксыстым?

Мы не гаворым ужо аб тым, што аўтару яго спробы выкарыстаць марксыцкую фразэолёгію аказваюць мядзьвежыя паслугі.

Увесь яго марксызм уласна зводзіцца або да таго, што аўтар гаворыць аб нейкіх клясах, падразумяваючы пад гэтым літаральна што хочаш, або ён старанна—нідзе, між іншым, з-за бездапаможнасьці, не паказваючы гэтага—сьцьвярджае аб залежнасьці тых ці іншых зьявішч ад экономічных „фактараў", або, нарэшце, ён самым дасканалым чынам—і самым гвалтоўным, дадамо, спалучае ідэю з адпаведнымі матар'яльнымі ўмовамі.

Вось адзін з узорчыкаў—прыклад мы бярэм з першых, якія падвярнуліся пад руку, і далёка ня самых узорных—таго, як аўтар наводзіць на свае палажэньні марксыцкі бляск:

> „Беларускае адраджэньне, як кожнае социяльнае зьявішча, не магло быць вынікам голай ідэі, не абапёртай і ня зьвязанай з тымі экономічнымі прычынамі, якія яго выклікалі. Сама па сабе ідэя гэтая і не магла зьявіцца. Яна магла толькі зарысоўвацца, як пэўная альтэрнатыва, як пэўная потэнцыяльная магчымасьць, але яна не магла знайсьці сабе месца ў жыцьці, як рэальны грамадзкі фактар. Вось чаму ідэя беларускага культурнага адраджэньня лунала ў паветры на працягу ўсяго XIX стагодзьдзя і, аднак, не набыла рэальнай формы: для гэтага ня было адпаведных матар'яльных умоў".

Або вось другі прыклад:

> „Паўстаньне і распачаты пасьля яго разгром раскрылі прад *гэтай клясай* (мяшчанска-буржуазнай—М. Ю.) самыя спакусныя пэрспэктывы. Высокія пэнсіі, наградныя, ордэны, магчымасьць лёгка зарабіць і выбіцца па службе, рэквізыцыі... цёплыя месцы... ўсё гэта разам узятае не магло не захапіць чыноўнай і папоўскай праваслаўнай інтэлігенцыі і не аформіць яе палітычнага сьветапогляду" (90).

Усюды, дзе аўтар спыняецца на экономічных адносінах, ня толькі там, дзе ён прабуе іх аналізаваць, але нават і там, дзе ён апісвае іх, нават і там, дзе ён падае толькі лічбы,—выяўляецца яго надзвычайнае неразуменьне і невуцтва ў самых прасьцейшых справах.

Усе яго экономічныя веды абмяжоўваюцца аднэй кнігаю—Доўнар-Запольскага аб народнай гаспадарцы. Абсолютна няздольны крытычна аднесьціся да раду няправільных палажэньняў Доўнара, аўтар умуд-

раецца, аднак, нават сьпісваючы з Доўнар-Запольскага ўнесьпі кучу зусім неімавернай „отсебятины“. Так, напрыклад, падаючы лічбы аб куплі сялянамі зямель у канцы XIX і пачатку XX в. праз Сялянскі банк, Цьвікевіч уласнымі словамі так выкладае вывад проф. Доўнар-Запольскага: „Агулам вылічана, што забясьпечанасьць сялянства зямлёю пасьля пакупак вырасла да гэтага часу прыблізна ў 2-2½ разы“. Няма чаго і гаварыць, што ў аўтара „Народнае гаспадаркі Беларусі“ такога вываду няма. У элемэнтарнай няпісьменнасьці Доўнар-Запольскага нельга западозрыць, а зрабіць такі вывад можна толькі чалавеку элемэнтарна-няпісьменнаму. Сапраўды, у Доўнар-Запольскага сказана, што землязабесьпячэньне пасьля пакупак у *сялян*, г. ё., як відаць з усяго контэксту, у сялян-пакупшчыкаў вырасла ў 2-2½ разы. Цьвікевіч землязабясьпечанасьць паасобных груп сялянператварыў у землязабясьпечанасьць *сялянства*, г. ё. выявіў поўнае няўменьне абыходзіцца з лічбамі, няўменьне нават іх чытаць і разумець што да чаго. Пасьля такіх дзіўных комэнтарый ня прыходзіцца зьдзіўляцца і тэй неўвабражальнай блытаніне, якая ёсьць усюды, дзе ён прабуе выканаць задачу, абяцаную ім у прадмове—акрэсьліць эконoнамічныя адносіны на Беларусі.

Мы зусім ня зьбіраемся крытыкаваць памылковыя прадстаўленьні аб экономіцы Беларусі, запазычаныя аўтарам у Доўнар-Запольскага (напрыклад, зусім няправільную экономічную характарыстыку памешчыцкай і сялянскай гаспадаркі на Беларусі да рэволюцыі 1905 г., недаацэнка ступені капіталізацыі сельскае гаспадаркі і г. д.), з гэтай крытыкай, зразумела, лепш зварачацца непасрэдна па адрасу Доўнар-Запольскага. Мы хочам зьвярнуць увагу толькі на тую акалічнасьць, што ўсяляк падкрэсьліваючы натуральны характар гаспадаркі ў Беларусі на працягу ўсяго XIX стагодзьдзя, у тым ліку натуральны характар памешчыцкіх маёнткаў, аўтар, аднак, усюды гаворыць аб зямельным *капітале,* яго сіле, націску і г. д. Фактычна ўсюды Цьвікевіч утоесамляе, прынамсі, да канца XIX стагодзьдзя памешчыцкі маёнтак з натуральнай гаспадаркай, па-першае, і памешчыцкі маёнтак з зямельным капіталам, па-другое (гл., напр., стар. 187). Пры такім разуменьні экономічных адносін і грамадзкіх формацый ня цяжка і бяз цытат здагадацца якую бязглузьдзіцу нясе гэты вучоны муж, разважаючы аб клясавых адносінах на аснове так дакладна ім асьветленых экономічных умоў.

Чытача гэтай кнігі ня можа ня зьдзівіць таксама і тая надзвычайная дробнасьць асяродзішча і дробнасьць інтарэсаў, у якіх круціцца аўтар. Няхай чытач зьвернецца, напрыклад, да старонак 42—54: адчуваеш сябе перанесеным у тыпова буржуазны „мирок“ біскупаў, афіцэраў, чыноўнікаў, губарнатараў, судовых приставоў, настаўнікаў і г. д., і г. д., жывеш іх інтарэсамі, якія ня выходзяць за межы штодзённых бытавых турбот, жывеш іх акураўскай ідэолёгіяй, мяшчанскім сьветаразуменьнем. Наўрад ці ў гістарычных работах ва ўсім Савецкім Саюзе за ўвесь савецкі пэрыод хто-небудзь так многа цікавіўся гэтым дробным чыноўніцкім асяродзішчам. Мала цікавая, дробная чыноўніцкая фігура Гаворскага, чыноўніцка-клерыкальны орган, паліцэйскадухоўная газэта, канцэлярыі генэрал-губарнатара — „Вестник Западной России“, які не карыстаўся ніякім уплывам і амаль ня меў чытачоў,— займаюць у Цьвікевіча цэлыя 4 друкаваныя лісты (стар. 40—104). Дробна-чыноўніцкае разуменьне грамадзтва, грамадзкіх адносін, культуры, экономікі праглядвае ў аўтара на кожным кроку. Для аўтара духавенства зьяўляецца асноўнай групай інтэлігенцыі краіны. А што

з сябе прадстаўляла духавенства краіны, наколькі нізкі быў культурны ўзровень, як нявысока ўзьнімаліся масы духавенства ў сваёй цемры і невуцтве над сялянскімі масамі — лепш за ўсё відаць нават з апалёгічных кніг, прысьвечаных правадырам праваслаўнае царквы ў Заходнім краі—Сямашка і інш. Для аўтара ўсе інтарэсы сконцэнтраваны іменна ў гэтых чыноўніцкіх праслойках грамадзтва, народныя масы для яго не адыгрываюць ніякай ролі і да іх ён адносіцца з сувэрэннай пагардай. Недарма ў кнізе, на вокладцы якой памечаны год выданьня 1929, у аўтара вырываюцца такія радкі: „Экономіка, культура, адміністрацыя, — усё знаходзілася ў руках польскай інтэлігенцыі, усё кіравалася ёю. У гэтым сэнсе розьніца паміж Беларусьсю і, прыкладам, Люблінскай або Ломжынскай губ. была вельмі нязначная, — розьніца была толькі ў народных масах, якія тут заставаліся беларускімі, а там польскімі“ (44).

Народныя масы для яго стаяць па-за культурным жыцьцём і ўся грамадзкая мысьць і грамадзкі рух, якімі займаецца аўтар, застаюцца сконцэнтраванымі ў чыноўніцкіх колах розных ведамстваў. Ён проста так і піша:

„Зьмест грамадзкага жыцьця тагочаснай Беларусі цалкам адпавядаў яе глухой провінцыяльнасьці, экономічнай адсталасьці і агульнаму культурнаму заняпаду. Грамадзтва губэрскіх гарадоў, ня кажучы ўжо аб павятовых, пазбаўлена якіх-бы то ні было духоўных ці ідэйных інтарэсаў. Яно складалася з шэрай чыноўніцкай масы, якая акуратна адбывала свае ўрадавыя гадзіны ў палатах, прысутствах і судох, з яўрэйскага мяшчанства, занятага дробным гандлем, ды невялікага ліку ваколічных памешчыкаў. Кожная з гэтых груп нічым паміж сабой ня была зьвязана, нічым, апрача штодзённых турбот па службе, ды мясцовымі плёткамі і інтрыгамі, ня цікавілася. Пачынаючы губарнатарам і канчаючы памешчыкам — усе знаходзілі ўцеху толькі ў віне, сустракаліся дзеля гутаркі за „зялёным сталом“ па клюбах“ (стар. 139—140).

Нельга забываць таго, што якраз у гэты пэрыод, аб якім піша аўтар, у сярэдзіне 70-х гадоў, мы маем і на Беларусі рад народніцкіх гурткоў, мы маем даволі моцную флюктуацыю сярод моладзі гарадоў ранейшага Заходняга краю Расійскай імпэрыі, дзесяткі яе прадстаўнікоў кожны год уходзілі ва ўнівэрсытэты Пецярбургу і Масквы і прымалі актыўны ўдзел у студэнцкім жыцьці. Аўтар ня можа спасылацца на нявывучанасьць гэтага руху, на тое, што ён ня меў ніякіх друкаваных даных, бо і адсутнасьць такавых ня вызваліла-б яго ад неабходнасьці ўказаць на тое, што такія гурткі існавалі (а гэта ўжо вядома ўсім) і што іменна гэтыя гурткі зьявіліся сапраўдным цэнтрам грамадзкае мысьлі і грамадзкага руху. Калісьці Герцэн у глухую пару мікалаеўскай рэакцыі са сваёй „няпрыгляднай далечы“ правільна пісаў, што некалькі гурткоў моладзі — вось што зьяўлялася фактычна Расіяй будучага. Але аўтар ня можа нават і спаслацца на незнаёмства з народніцкім рухам на Беларусі, хаця-б ужо таму, што ў беларускай навуковай літаратуры да таго, як аўтар надрукаваў сваю кнігу, былі ўжо артыкулы, дзе разглядалася дзейнасьць народніцкіх гурткоў у Беларусі, хаця-б ужо таму, што аўтар сам спасылаецца на кнігі Бухбіндэра і Агурскага, дзе ёсьць значны матар'ял.

Аўтар наогул схільны адмяўляць, калі не існаваньне, дык значэньне народніцкага руху на Беларусі — „хождения в народ“ на Бела-

русі зусім ня было, рэволюцыйны рух у 70-х г. г. быў зусім слабы, ня ў прыклад Вялікаросіі, Украіне і Польшчы і аўтар нават дае „марксыцкае“ тлумачэньне: „Экономічны і нацыянальна-культурны стан краіны быў гэткі, што ён ня мог вытварыць тыпу „разночинца“, на расійскі манэр. Дробнае дваранства на Беларусі было з моцным польскім ухілам, калі ня зусім польскае, а адсутнасьць прамысловасьці і грамадзкай буржуазіі не давала магчымасьці зьявіцца гэтаму „разночинцу“ з шэрагаў гарадзкога жыхарства“ (121—122). Мы ня будзем спыняцца на доказе нікчэмнасьці і фактычнай няправільнасьці таго тлумачэньня і зьвернемся лепш да фактаў.

Няхай цікавы чытач возьме толькі адну кнігу (выданую ў Расіі яшчэ ў 1906 г.)—гэта выданую Багучарскім „Литературу партии“ „Народной Воли“. Няхай ён хутка прабяжыць хроніку арыштаў і вось што ён выявіць: у № 2 „Народной Воли“ адзначаны арышты ў Беластоку і Гародзенскай губэрні, у № 3 адзначаны (у корэспондэнцыі з Менску) арышты ў Менску, Гомелі, вобыскі ў Пінскім і Навагрудзкім паветах, у „Листке Народнай Воли“ № 1 за 1881 г. адзначаны арышты 3 чалавек у Коўне, 2-х у Беластоку, рабочага Шамарчака ў Віцебску, у № 8-9 „Нар. Воли“ адзначаны арышты ў Вільні, у „Листке Народной Воли“ № 1 за 1883 г. адзначаны арышты ў Гародні, Менску, Магілеве, Віцебску, у № 2 „Листка“ за гэты-ж год адзначаны арышты ў Вільне, Беластоку, Магілеве, Воршы, у № 10 „Народн. Воли“ ад верасьня 1884 г. адзначаны арышты 5 чал. у Вільне, 2 чал. у Менску, 3 чал. у Віцебску (у тым ліку рабочага Высоцкага), наборшчыка Грынкевіча ў Гарадні.

Больш таго—у вельмі цікавым артыкуле Льва Ціхамірава ў № 5 „Народной Воли“ падаецца падрабязная статыстыка дзяржаўных злачынстваў з данымі аб месцанараджэньні асуджаных. Паводле падліку Л. Ціхамірава на 6 беларускіх губэрань (у лік беларускіх Л. Ціхаміраў залічае і Ковенскую) прыпадае 91 чалавек з агульнага ліку асуджаных: (Магілеўская 23, Ковенская 17, Віленская 16, Гародзенская 14, Віцебская 13, Менская 8).

Сюды трэба далучыць яшчэ тыя зусім-зусім няпоўныя даныя, якія мы падавалі вышэй з хронікі арыштаў у народнавольчым органе. Пачынаючы з № 1 „Листка Народной Воли“ за 1881 г. даныя ўжо адносіліся да арыштаў пасьля 1880 г., і такім чынам у статыстыку Ціхамірава не ўвайшлі. Паводле нашых, вельмі павярхоўных падлікаў, колькасьць арыштаваных толькі паводле даных, адзначаных у „Народнай Воле“, *мінімальна* трэба лічыць 40 чалавек. Гэта толькі паводле даных з „Народнай Воли“.

Мы не сумняваемся, што калі праглядзець №№ польскага „Пролетариата“ можна таксама спаткаць паказаньні на рух у Беларусі [1]).

Можна пярэчыць, што аўтар зусім не абавязаны быў займацца рэволюцыйным рухам гэтага пэрыоду і зусім не абавязаны ведаць усе рэволюцыйныя гурткі. І гэта было-б правільна, калі-б толькі аўтар з самага пачатку не заявіў, што ён ня толькі вывучае „западноруссизм“, але і ставіць перад сабой задачу, паралельна гэтаму, выву-

---

[1]) Пакажам яшчэ на цікавыя ўспаміны М. П. Аўчыньнікава, члена цэнтральнам групы ў „лапацінскі“ пэрыод дзейнасьці „Народной Воли“ аб менскай народавольчаскай організацыі 1881—1883 г. г., на аўтабіографічныя заметкі Дабрускінай (аб інтэлігенцкій і рабочым гуртку ў Беластоку), Прыбылевай-Корбы (аб організацыі яго „о-ва попечения“ ў Менску ў 1874 г.) у томе Гранатаўскага слоўніка, на аўтабіографічны артыкул Аксэльрод і г. д., дзе чытач можа знайсьці шмат заўвагі аб грамадзкім і рэволюцыйным жыцьці на Беларусі ў 70—80-х г.г.

чэньня экономічных умоў і клясавых адносін у той пэрыод наогул, калі-б аўтар ня зводзіў усяго грамадзкага жыцьця выключна да „западно-руссизму“, калі-б аўтар сам не даваў-бы так разьвязна ацэнкі рэволюцыйнага руху на Беларусі і так вучона ня тлумачыў-бы прычын яго слабасьці.

Толькі таму мы і дазваляем сабе невялікі экскурс у рэволюцыйны рух Беларусі.

Аўтар не зварачае ўвагі на гэтыя гурткі і на рэволюцыйную дзейнасьць у народзе не таму, што ён з імі мала знаёмы, а таму, што яны стаяць па-за колам яго інтарэсаў, бо для яго тыпова-канцэлярскі „Виленский Вестник“ гэта орган, які „заўсёды імкнуўся быць голасам краю“ (180), бо зараджэньне беларускай нацыянальнай ідэі ён вядзе ў значнай меры з колаў чыноўніцкіх, духоўных, з колаў заходня-рускіх казённых літаратараў, з колаў мясцовых мяшчан, мяшчанскай інтэлігенцыі, цесна зьвязаных з урадавай політыкай.

Зьдзіўляе чытача гэтай кнігі і тая акалічнасьць, зусім выключная для аўтара такое солідная працы (звыш 20 друк. аркушаў), што ўсюды там, дзе аўтар прабуе выйсьці за межы таго вузкага матар'ялу, з якім ён прыблізна знаёмы,—усюды ён праяўляе зьдзіўляючае невуцтва. Калі ён зусім мала ўжытны нават там, дзе ён апісвае, дык ён становіцца зусім нецярпімым там, дзе ён прабуе аналізаваць, ці даваць формулу і акрэсьленьне. Аўтар умудраецца на аднэй старонцы нагаварыць кучу глупства аб дэкабрыстых (24-25), ён умудраецца зьмясьціць „Народную Волю“ ў сярэдзіну 60-х гадоў (119), ён прымушае маладога Плеханава ўжо ў 70-х гадох цалкам панаваць у настроях расійскай моладзі, умудраецца нагаварыць аб народніцтве сапраўдныя вар'яцкія глупствы, ён бачыць у земствах галоўны сродак культуры і грамадзкага прогрэсу, ён лічыць адміністрацыйныя меры Мілюцына ў Польшчы прычынай разрыву паміж панскім шляхецкім дваром і сялянствам (124), ён думае, што ўжо ў 40—50 г. г. у Расіі вырастае новая грозная сіла—пролетарыят, „якая як грозны запытальнік уздымалася над вялізарнай імпэрыяй“ (206), ён адкрывае, што вострае змаганьне расійскага пролетарыяту супроць царызму ў 80-я г.г. вызначала і накіроўвала сабою расійскую політыку (281), што буржуазія *з-за гэтага* вымушана была ў тыя-ж гады ўзяць курс на рэакцыю і г. д., і г. д. Там, дзе аўтар закранае аналіз грамадзкіх форм,—само сабою зразумела, што ў яго атрымліваецца супроцьстаўленьне зусім своеасаблівых грамадзка-гістарычных формацый накшталт індывідуальнага парлямантарнага ладу Беларусі, які рэзка адрозьніваў яе ад Расіі на працягу многіх вякоў. Гэта рэзкая адзнака грамадзкіх формацый не перашкаджала, аднак, таму, каб была і вельмі сур'ёзная падстава для адзінства Беларусі і Расіі,—гэта праваслаўе агульнае для іх абедзьвюх (стар. 227). Аўтар ператварае Струвэ 1912 году ў *левы* флянг расійскай буржуазнай грамадзкасьці (335-336), праўда, ужо з зусім акрэсьленай—зусім не акадэмічнай мэтай прадставіць усю грамадзкасьць Расіі, нават у яе самых карэнных радыкальных праяўленьнях, як сілу варожую нацыянальнаму руху іншых народаў і інш. і інш. [1]).

---

[1]) Сам Цьвікевіч, відаць, ніякіх артыкулаў Струвэ ня чытаў: ён цытуе толькі тыя месцы тых артыкулаў, якія цытуюцца ў знаёмай яму кнізе С. Шчаголева „Украинское движение, как современный этап южно-русского сепаратизма“ Кіеў 1912. Невялікая заметка Струвэ аб украінскім руху, напісаная пасьля выхаду гэтай кнігі (гл. I кн. „Русской мысли“ за 1913 г.) аўтару „Западно-руссизма“, зразумела, невядома. Больш важна тое, што Цьвікевіч і сьпісвае або няпісьменна, або злосна. Так, С. Шчаголеў

Але ня гэта ўсё зьяўляецца асноўным недахопам і асноўнаю шкодаю, якую прыносіць кніга.

Да „Заходня-Русізму“ трэба падыходзіць ня столькі як да твору гістарычнага, колькі—як да зусім пэўнага палітычнага докумэнту, які зьяўляецца докумэнтам пэўных варожых нам палітычных груп.

Іменна гэтаму, г. зн. выкрыцьцю палітычнага характару і сэнсу кнігі прысьвечаны наш артыкул. Толькі папутна можам мы адзначаць выключнае невуцтва аўтара. Разгляд навуковай дэфэктнасьці кнігі прымусіў-бы нас падыйсьці з некалькі іншага боку, падкрэсьліць некаторыя моманты, пра якія мы ўпамінаем мімаходам, закрануць рад старонак, ацэнак, характарыстык, якіх мы ў гэтым артыкуле не закранаем зусім. Выключнае невуцтва аўтара можна было-б прадэмонстраваць і на другім творы аўтара, самым пазьнейшым і самым „марксыцкім“—на прадстаўленым самім аўтарам у беларускае таварыства гісторыкаў-марксыстых дакладе аб „Пераломным сямёхгодзьдзі на Беларусі 1855—1862 г.г.“.

Досыць прачытаць, напрыклад, наступныя радкі:

„Да рэформы 1861 г., г. зн. да акту юрыдычнага формальнага зьнішчэньня прыгоннай залежнасьці сялянства, апошняе стварае згодна марксыцкай тэрміналёгіі „клясу ў клясе“, а ня „клясу для сябе“. Становішча яго можна характарызаваць таксама словамі, якімі Маркс характарызаваў становішча францускага селяніна ў сваім „18 брумары Луі Наполеона“. Хоць мова тут ідзе аб вольным селяніне другой імпэрыі параўнаўча з нявольнікам, прыгоньнікам мужыком беларусам, аднак, аднолькавая экономічная істота таго і другога робіць іх аднолькавымі ў стасунку да ўсяго грамадзтва ў цэлым“ (9 стар. дакладу).

Такім чынам, для аўтара экономічная істота селяніна — вольнага (юрыдычна) тавараправодцы ў разьвітым буржуазным грамадзтве і заняволенага селяніна эпохі фэодалізму — адна і тая-ж самая, і толькі павярхоўным, нявучоным людзям можа здавацца, што гутарка ідзе аб розных вялічынях.

Такое адважнае соцыялёгічнае вынаходзтва аўтара, не ацэненае па вартасьці сучасьнікамі, дапаўняецца такім, напрыклад, сьмелым гістарычным адкрыцьцём:

---

гаворыць аб „дэклярацыях расійскага прогрэсістага“, Цьвікевіч-жа піша аб левым флянгу расійскай буржуазнай грамадзкасьці. Тую-ж няграматнасьць выяўляе Цьвікевіч і пры перапісваньні ў Шчаголева вестак аб украінскім нелегальным „Гуртку Трынаццаці“ 80-х г.г. Шчаголеў піша, што гурток можна разглядаць, як носьбіта ідэалаў кірыла-мэфодаўцаў і гуртка „Основы“, Цьвікевіч-жа выкладае так: гурток зьвязваў сваю дзейнасьць з кірылаўскім таварыствам, з шэўчэнкаўскай „Основой“ і г. д. (гл. 192 стар. „Западно-Руссизма“ і 66-67 стар. кнігі С. Шчаголева). Таксама-ж агідна часамі скажае і А. Пыніна, якога так шырока скарыстоўвае, параўнаць, напрыклад, 92-93 стар. IV тому пыпінскай „Истории русской этнографии“ і 26-27 стр. кнігі Цьвікевіча; з Каяловічам Цьвікевіч, па праву ідэёвага сваяцтва, абыходзіцца больш вольна: ён яго вольна выкладае, але вылажэньне ставіць чамусьці ў двукосьсі. (Гл. 216 стар. Западно-Руссизма). У другім месцы (217-218 стар.) Цьвікевіч, не адзначаючы, зразумела, ніякіх пропускаў, усюды выкідае словы „літвін“, „маларос“, якія стаяць побач са словам „беларус“. Што гэта выкіданьне далёка невыпадкова лепш за ўсё пакажа параўнаньне аднаго месца, як яно напісана ў Каяловіча і як атрымліваецца ў Цьвікевіча „калі хто з (маларосаў) беларусаў (літвінаў) пераймае расійскую асьвету ды мову, дык ня робіцца праз гэта ворагам свайго племя, з якога вышаў, а робячыся палякам, ён абавязкова дрэнна становіцца да свайго племя“. Словы, узятыя намі ў дужкі, Цьвікевічам апушчаны. Толькі гэта і дае яму магчымасьць разглядаць Каяловіча не як прадстаўніка расійскага вялікадзяржаўніцтва, які запрашае беларусаў, літвінаў, украінцаў „зьліцца“ з вялікаросам, а як беларуса, які з-за нянавісьці да польскіх паноў запрашае далучыцца да Расіі. Не зрабі аўтар гэтай вышэйпаданай невялікай ачысткі—ня прышлося-б мець справу з Каяловічам-беларусам.

„Надыходзячая рэформа абяртала ранейшага раба ва ўласьніка, прырода якога была аднолькавай з прыродай памешчыка. Мужык пасьля гэтай мэтаморфозы рабіўся як-бы „малодшым братам“ памешчыка, асабліва мужык заможны — сам „дробненькі памешчык“. Гэтая абставіна для гісторыка грамадзкай мысьлі зьяўляецца *выключна важнай*“ (стар. 16 дакладу, падкрэсьлена аўтарам).

Гэта выключна важная няпісьменнасьць аўтара, у якога праведзеныя прыгоньнікамі буржуазныя рэформы ня толькі зьнімалі з парадку дня пытаньне аб буржуазнай сялянскай рэволюцыі, але і наогул ператваралі селяніна ў аднаякасную па сваёй соцыяльнай прыродзе сілу з памешчыкам, заслугоўвае бязумоўна ўнясеньня ў адпаведныя хрэстаматыі.

Але і ў дакладзе, як і ў разгляданай кнізе, цэнтр цяжару не ў такога роду навуковых пэрлах, якімі-б шматлікімі яны ня былі. Цэнтр цяжару іменна ў політычнай завостранасьці і патрэбным дзеля гэтага маскаваньні.

Да якіх межаў ідэёвай нізасьці здольны ўпасьці гэты вучоны муж лепш за ўсё паказвае той-жа даклад — у ім аўтар адважваецца в пункту гледжаньня марксызму крытыкаваць нацыяналістычную концэпцыю беларускай гісторыі. Сьпісваючы з партыйных пастаноў, Цвікевіч піша: „нацыянальная концэпцыя стаіць на грунце няклясавага па-за клясавага беларускага культурнага процэсу... Ён, гэты процэс, маўляў — чысты ад буржуазных прымясяй і элемэнтаў. — Адсюль — знаёмая „ідэолёгія“ „адзінага нацыянальнага фронту“, ідэолёгія бясклясавасьці беларускага культурнага адраджэньня, адмаўленьня клясавай барацьбы і г. д. Вось асноўная, грунтоўная тэза нацыяналістычнай концэпцыі беларускай гісторыі“. Больш таго, Цьвікевіч нават дадае: „Навуковую памылковасьць і політычную шкоднасьць яе сёньня, ва ўмовах пролетарскай дыктатуры, пераможнага будаўніцтва соцыялізму і зьвязанай з гэтым абвостранай клясавай барацьбы з кулаком і рэшткамі капіталізму ў горадзе і на вёсцы — даводзіць няма чаго. Памылковасьць яе з пункту гледжаньня гістарычнага матар‘ялізму ясна нават акадэмічным зубрам — а ў політычнай шкоднасьці яе разьбіраюцца сёньня і дзеці“.

А. Цьвікевіч ня дзіця, зусім ня дзіця. Ён разумее, што *сёньня*, калі гістарычны матар‘ялізм, г. зн. калі ідэолёгія пролетарыяту таксама дыктатарствуе ў навуцы, як і сам пролетарыят у жыцьці, *сёньня* нельга ня прызнаць шкоднай і памылковай нацыяналістычную концэпцыю, калі нават акадэмічным зубрам зразумела няправільнасьць гэтай концэпцыі *з пункту гледжаньня гістарычнага матар‘ялізму* (а з якога іншага пункту гледжаньня яна правільна?).

Што ўсё гэта зьяўляецца толькі хітрым маскаваньнем ворага лепш за ўсё паказвае тое, што і ў гэтым дакладзе аўтар абараняе фактычна — у больш скрытай, зывуаляванай, хітрай форме, концэпцыю „западно-руссизма“, і працягвае—ён прама гэта заявіў пры абмеркаваньні дакладу — лічыць яе правільнай.

Асноўнае, таму, у нашым артыкуле зусім не выкрыцьцё элемэнтарнага невуцтва, навуковай блытаніны, мэтодолёгічнай бездапаможнасьці аўтара — гэта самая лёгкая справа; наша задача, галоўным чынам, зводзіцца да політычнага выкрыцьця концэпцыі і аўтара „Западно-руссизма“.

„Западно-руссизм“, як усім было вядома да гэтага часу — гэта казённакоштная, паліцэйска-духоўная, з дазволу сказаць ідэолёгія, якая мела сваёй задачай ідэолёгічную апрацоўку мас для падпарадкаваньня

іх капіталістычнаму царызму. Гэта ідэолёгія, ці вярней гэта дзейнасьць заходня-русаў выступала на сцэну пераважна ў той пэрыод, калі буйному расійскаму земляўладаньню прыходзілася сутыкацца на арэне політычнага ці экономічнага змаганьня з буйным польскім земляўладаньнем. Зьмест „Западно-руссизма“ вельмі нескладаны і цалкам выражаецца ў аднэй з формул: „трэба, каб ён (беларускі селянін) адчуваў сябе зусім рускім, а дзеля гэтага ён павінен адчуваць сябе раней за ўсё беларусам“. Беларусізацыя краю тут зьяўлялася ступеньню да поўнай русыфікацыі, да зьнішчэньня польскага ўплыву ва ўсіх абсягах жыцьця культурнага, політычнага і экономічнага. Такая беларусізацыя, самыя шырокія рамкі якой не пашыраліся далей *дапушчэньня* ў ніжэйшых школах беларускае мовы, як мясцовай гутаркі некаторых „простолюдинов“ і прызнаньне некаторых мясцовых асаблівасьцяй у культуры і экономіцы краю, зьяўляліся простай службовай прыладай царызму ў яго змаганьні з варожымі прыгоньніцтву сіламі, у прыватнасьці з польскім вызваленчым і опозыцыйным рухам. Увесь гэты заходня-рускі рух і так званая ідэолёгія, якая існавала міласьцю і ахвяраваньнямі рускіх бюрократаў, адыгрывала колькі-небудзь прыкметную грамадзкую ролю толькі ў пэўныя пэрыоды, толькі ў тыя вострыя і небясьпечныя для царызму гады, калі ён вымушаны быў пускаць у ход вострую зброю *соцыяльнай дэмагогіі* і нацкоўваць беларускага селяніна на буйнога польскага земляўласьніка ў мэтах захаваньня за дзяржаўным апаратам рускага буйнога земляўладаньня захопленых ім тэрыторый. Іменна ў 60-х гадох мінулага стагодзьдзя, у першыя гады пасьля польскага паўстаньня і ў гады пасьля першай рускай рэволюцыі, калі царызм прабаваў высокія воды народнай нянавісьці адвесьці ў шлюзы нацыянальнай варожасьці,—іменна ў гэтыя пэрыоды найбольш моцна выяўляецца ўплыў заходня-русізму. Гэта была свайго роду нацыянальная зубатаўшчына на манэр рабочай зубатаўшчыны 1902-05 г. г. і спроб сялянскай зубатаўшчыны пэрыоду Пецяргофскае нарады.

Як усякая соцыяльная дэмагогія, так і гэта, была пэўнай апэляцыяй к масам, гульнёй на пэўных—праўда, другарадных і абмежаваных—інтарэсах мас. Пэўная доля дэмократызму была тут неабходнай хаця-б ужо пастолькі, паколькі яна абарачалася супроць польскіх паноў і абарачалася з гэтым да мужыка. З боку ініцыятараў і кіраўнікоў гэтага руху гэта быў дэмократызм такога-ж гатунку, як дэмократызм фашыстых, якія выступалі супроць яўрэйскага фінансавага капіталу, ці дэмократызм расійскага чорнасоценства, які выступаў супроць „разбуральніка Расіі, які абярнуў сваім зямельным проектам у жабракоў мільёны сялян“. [1]) Але гэты рух эксплёатавала ў сваю карысьць і ў сваіх мэтах і стыхійную цёмную нянавісьць мужыка да пана. На вудачку соцыяльнай дэмагогіі траплялі і паасобныя рабочыя (успомнім, што ўвесь гапонаўскі штаб складаўся з рабочых) і паасобныя сяляне, а ў іншыя моманты і сялянская маса (досыць успомніць змаганьне украінскіх сялян супроць польскіх паноў у часе паўстаньня 1863 году, якая так жыва апісваецца ў мэмуарах Дэбагоры-Макрыевіча), але наогул усе ўдзельнікі, як і ўвесь рух, знаходзіліся на паваду ў расійскага царызму і рэгуляваліся дозай міласьці і яшчэ больш дозай ахвяраваньняў, якія давалі адпаведныя ведамствы. Гэта небясь-

---

[1]) Гэта характарыстыка Сталыпіна ўзята ня з эсдэкаўскага ці эсэраўскага друку, а з аднаго з нумароў чорнасоценнага органу „Грозы“ за 1911 г. Цытуем паводзе артыкулу А. Пятрышчава ў № 10 „Русского Богатства“ за 1911 г.

печная гульня на соцыяльных інстынктах масы, гульня, якая з кожным годам рабілася ўсё больш абавязковай для царызму, не магла не ствараць пэўных цікавых рыс у расійскім чорнасоценстве. Гэтыя рысы адзначаў і Ленін. „У нашым чорнасоценстве—пісаў ён,—ёсьць адна надзвычай орыгінальная і надзвычай важная рыса, на якую зьвернута невыстарчальная ўвага.—Гэта—цёмны мужыцкі дэмократызм, самы буйны, але і самы глыбокі". [1]) Гэты цёмны, стыхійны мужыцкі дэмократызм выяўляўся ў расійскім чорнасоценным руху даволі часта, але ад гэтага, зразумела, само чорнасоценства не пераставала быць чорнасоценствам. І „Западно-руссизм" не пераставаў па сутнасьці быць чорнасоценствам Západняга краю, калі ён скарыстаў цёмнае стыхійнае клясавае нездавальненьне мужыка супроць пана. Ён гэта нездавальненьне пераводзіў на нацыянальныя рэйкі, імкнучыся ператварыць яго ў нездавальненьне беларуса супроць паляка, і дробны чыноўнік, настаўнік, судзьдзя, якія зьяўляліся асноўнай (колькасна) сілай ў „заходня-русаў", былі толькі тэй пэдальлю, націскам на якую царызму ўдавалася аказваць уплыў і на сялянскую масу. Зразумела, усё гэта чыноўніцкае мяшчанства, якое гучна называецца Цьвікевічам „беларускай інтэлігенцыяй рускай культуры", у іх конкурэнцыі з прышлым і прысыланым адміністрацыйным пэрсоналам старанна высоўвала той аргумэнт, што яны—мясцовыя людзі,—ведаюць мясцовы дыялект, лепш ведаюць мясцовыя ўмовы і г. д., адным словам, больш чым трэба, часамі падкрэсьлівала тыя „мясцовыя ўмовы", якія служылі ідэолёгічным прыкрыцьцём у змаганьні з польскай культурай. Але адсюль таксама далёка да прызнаньня ідэолёгаў „заходня-русізму" прадстаўнікамі дэмократыі, як да прызнаньня Пурышкевіча ці Іліадора ці Распуціна прадстаўнікамі сялянскіх інтарэсаў. Ленін прама папярэджваў супроць усякай спробы ўносіць папраўкі ў клясавую ацэнку таго ці іншага зьявішча, варожага комунізму, пролетарыяту, масам на тэй падставе, што да гэтага зьявішча мелі дачыненьне тыя ці іншыя групы рабочых ці сялян.

„Грамадзкі характар сучаснага антысэмітызму,—пісаў Ленін,—не зьмяняецца ад факту ўдзелу ў тым ці іншым пагроме ня толькі дзесяткаў, але і соцень неорганізаваных і на $^9/_{10}$ зусім яшчэ цёмных рабочых". Але Цьвікевіч чалавек рашучы. Ён ня толькі ўносіць „папраўкі", ён ставіць літаральна на галаву грамадзкую характарыстыку, у даным выпадку „западно-руссизма". З таго, што паасобныя рабочыя і сяляне ўдзельнічалі ў пагромах Цьвікевіч робіць з кіраўнікоў пагромаў выказьнікаў рабочых і мужыцкіх інтарэсаў. Цьвікевіч імєнна так і робіць: клясавая сутнасьць „западно-руссизма" для яго заключаецца ў абароне дробнага земляўладаньня, а яго кіраўнікі характарызуюцца ім, як прадстаўнікі дробнай буржуазіі і выказьнікі дробна-буржуазнай ідэолёгіі.

Уся сутнасьць гэтай кнігі якраз і заключаецца ў тым, што чыноўніцкае „сьветасузіраньне", якое адбівала інтарэсы агрэсыўнай палітыкі царызму, ператвараецца ў ідэолёгію дробнай буржуазіі, і потым аўтар робіць яе (ідэолёгію) ледзь не рэволюцыйнай сілай дэструкцыйнай у адносінах царызму, ва ўсякім выпадку прогрэсыўнай, і для гэтага ён ня спыняецца перад ідэалізацыяй самых мацёрых прадстаўнікоў прыгоньніцкай ідэолёгіі і прыгоньніцкага сьветасузіраньня.

Цьвікевіч мае перад сабой пэўную палітычную задачу—яму *патрэбна* ідэалізацыя „западно-руссизма", бо „западно-руссизм" яго павінен

([1] Ленін, т. XVI, выд. 2-е.

зьявіцца аднэй з асноўных крыніц беларускай нацыянальнай ідэі. Іменна таму, ён з самага пачатку абмяжоўвае сваю работу толькі разглядам дзейнасьці „заходня-русаў“ беларускага паходжаньня. Таму ён ня спыняецца на Сямашку, якога сам называе „бацькай западно-руссизма“, не разглядае дзейнасьці такога выдатнага „западно-русса“ як Жуковіч і г. д. Бо як-жа не ад беларусаў праводзіць ідэю нацыянальнага адраджэньня, як іх ператварыць у крыніцу нацыянальных ідэй? Але аўтара абавязвае фірма выдавецтва, месца і год выданьня, ён разумее, што савецкі чытач патрабуе выкрыцьця клясавага характару гэтае крыніцы. Аўтар разумее, што гэта клясавая характарыстыка павінна быць прыстасавана да нявыгоднай для Цьвікевіча палітычнай „кон'юнктуры“, павінна быць адпаведным чынам падфарбавана,— і Цьвікевіч ставарае ланцуг палітычных падробак з тым, каб падвесьці ўжытную для савецкага чытача клясавую базу для сваёй нацыянальнай ідэі.

Тут мы якраз і сутыкаемся з тэй шкоднасьцю, якая зроблена аўтару яго спробай скарыстаць марксыцкую фразэолёгію. Хаця ён кожны раз ужывае слова „кляса“, гаворыць аб клясавых карэньнях і клясавай базе таго ці іншага руху, але тут і выяўляецца ў яго абсолютнае неразуменьне сутнасьці кляс, клясавых груп і г. д. Для яго рашаючым крытэрыем у пэўных клясах зьяўляецца ўзровень матар'яльнага дабрабыту. І ў залежнасьці ад гэтага ён адносіць тую ці іншую групу да тае ці іншае клясы. Ён зусім не разумее, вярней робіць выгляд, што не разумее, што паасобныя групы дробнай буржуазіі, паасобныя праслойкі яе могуць быць цесна зьвязаны з царызмам, прыгоньніцтвам і што гэты факт таксама мала зьмяняе штонебудзь у клясавай сутнасьці царызму, як удзел дваровых у налётах якога-небудзь буйнога вотчыньніка на землі сваіх суседзяй-вотчыньнікаў, зьмяняў што-небудзь у вотчынным характары земляўладаньня. Аўтар далей зусім не разумее, ці робіць выгляд, што не разумее, што толькі вельмі ўмоўна некаторыя групы (чыноўніцтва пэўных пластоў, гарадзкое мяшчанства і г. д.) могуць быць аднесены да дробнай буржуазіі наогул. Ён робіць далей выгляд, нібы сур'ёзна лічыць паасобныя чыноўніцкія і мяшчанскія групы прадстаўнікамі пэўных кляс ці клясавых груп.

Іменна таму, што ён адносіць гэтыя групы служылага насельніцтва, якія зьяўляліся проста прыладаю ў руках прыгоньніцтва, да клясы дробнай буржуазіі, ён і атрымлівае магчымасьць прадстаўляць буйнейшых дзеячоў фэодальнай рэакцыі ў якасьці агентаў, абаронцаў і ідэолёгаў дробнай буржуазіі. Ён атрымлівае магчымасьць, напрыклад, Гаворскага, на характарыстыцы якога мы ў двух словах спынімся крыху ніжэй, выдаваць за абаронцу дробнай буржуазіі. Вось што ён аб ім піша:

> „Пры гэткіх умовах бараніць расійскую земляўласнасьць на Беларусі і бараніць *дробную* (падкрэсьлена аўтарам—М. Ю.) земляўласнасьць у тых рашучых, а часамі і ў рызыкоўных тонах, як рабіў гэта Гаворскі, можна было толькі пры пэўным перакананьні і пры сьвядомым разуменьні свайго клясавага інтарэсу. Мы кажам ласьне аб клясавым інтарэсе „западно-русской“ школы, бо бязумоўна ён быў і ён, а ні што іншае, у канчатковым выглядзе акрэсьліваў усю палітычную і, калі можна гэтак сказаць, нацыянальную ідэолёгію гэтай школы“ (89).

Але што-ж гэта была за кляса, чые клясавыя інтарэсы абараняў гэты літаратар? Лепш за ўсё гэта пакажа наступная, вельмі цікавая, хаця і некалькі вялікая цытата:

„Яе складалі дробныя чыноўнікі, настаўнікі сельскіх і гарадзкіх школ ды гімназій, дробная мясцовая адміністрацыя, пачынаючы ад валаснога пісара і канчаючы пасрэднікам і спраўнікам, праваслаўнае духавенства, прыгародныя мяшчане, наогул тая сярэдняя краёвая праваслаўная беларуская інтэлігенцыя, якая па ліку была вельмі нязначнай, а па свайму грамадзкаму значэньню была значна слабейшай ад мясцовай беларускай інтэлігенцыі польскай культуры. Да яе, зразумела, належала і наплыўшая з цэнтральных губэрань вялікаруская „інтэлігенцыя“, якая водзіла справай русыфікацыі, але якая ідэолёгічнага афармленьня для „западно-русской“ школы не давала і даць не магла. Экономічна ўся гэта *мяшчанска-буржуазная кляса* (падкрэсьлена мною—М. Ю.) была за рэдкімі выключэньнямі незаможнай; значнай зямельнай уласнасьцю і капіталамі, якія адыгрывалі-б якую-небудзь ролю ў гаспадарчым жыцьці краю, яна не ўладала. Яшчэ і да паўстаньня, пры барацьбе на Беларусі польскіх і расійскіх культурных і экономічных уплываў, гэтая *дробна-буржуазная кляса* (падкрэсьлена мною—М. Ю.) расійскай культуры цягнула за Расію, бо з боку ўсясільнай польскай земляўласнасьці і польскай прамысловасьці яна не магла сустрэць спагадных для сябе адносін, салідарнасьці і падтрыманьня“.

Зразумела, тут справа не абыходзіцца ня толькі бяз значнай долі невуцтва, але і бяз істотных элемэнтаў падробкі. Так, аўтар піша аб тым, што пераконаньні Гаворскага маглі ўмацоўвацца лічбамі пераходу ў рукі мясцовых чыноўнікаў польскіх памешчыцкіх зямель. Ён прабуе прадставіць справу так, як быццам пераход зямлі з рук польскага памешчыка ў рукі расійскага чыноўніка зьяўляўся пераходам зямлі са сродкаў вытворчасьці наогул з рук аднэй клясы ў рукі другой клясы — ад буйнога земляўладаньня да дробнай буржуазіі. Але аўтар добра ведае і ў зносцы, спасылаючыся на кнігу Жуковіча, які падае даныя аб пераходзе зямель у рукі расійскіх чыноўнікаў, — сам вымушаны ўпамянуць аб тым, што польскія маёнткі пераходзілі ў рукі *буйнейшых* чыноўнікаў, якімі дарэчы зьяўляліся зусім не беларусы, а вялікаросы (стар. 102). Але нас тут цікавяць не сьвядомыя перадзержкі аўтара, а яго несьвядомае невуцтва (так дзіка пераблытаць можна толькі з-за несьвядомага невуцтва—ніякая палітычная праднамеранасьць не магла-б давесьці яго да такіх пэрлаў). Праваслаўе, культурная орыентацыя, незаможнасьць—вось асноўныя рысы, конституіруючыя гэту своеасаблівую, то мяшчанскі-буржуазную, то дробна-буржуазную клясу:

„.... „западно-руссы“ маглі разьлічваць заняць толькі сярэдняе месца—месца магнатаў заняць ім ніяк не выпадала. Гэтаму перашкаджала і адсутнасьць у іх соліднага капіталу і прыналежнасьць іх да сярэдняга соцыяльнага стану. У нагароду за свае пераконаньні яны маглі захапіць толькі сярэднюю гаспадарку, параўнальна дробны кавалак зямлі. У сваю чаргу і ўлада была зацікаўлена ў тым, каб чыноўнік і настаўнік набывалі сябе невялічкія маёнткі“ (92)—

так эпічна-спакойна малюе ў адным месцы ўзьнікненьне новае грамадзкае клясы „марксысты“ Цьвікевіч.

Толькі такое разуменьне грамадзкіх форм у Аляксандра Цьвікевіча, з якім можа толькі справіцца разуменьне сынтаксычных форм Мітрафана Прастакова, толькі гэта дазваляе аўтару Гаворскага, рэдактара духоўна-чыноўніцкай паліцэйскай газэты, у літаральным сэнсе слова паліцэйскага літаратара, даносчыка, прадажнага чалавека, прахадзімца,ператвараць у ідэолёга дробнай буржуазіі, чалавека, які заняў пэўную клясавую позыцыю і які рашуча выступае за *дробнае* земляўладаньне. Сам Цьвікевіч прымушаны прызнаць, што гэты ідэолёг дробнай буржуазіі блытаў палітычныя погляды з паліцэйскімі ўстановамі, інтарэсы кішэні і пераконаньня, што ён зьяўляўся беларускім адлюстраваньнем Магніцкага і Руніча, і тым ня менш, ён знаходзіць магчымасьць даваць яму наступную характарыстыку:

> „выходзіла,—дый яно сапраўды да пэўнай меры было так,— што паднятая ім пропаганда за дробную расійскую гаспадарку на Беларусі абяртаецца супроць інтарэсаў буйнога капіталу, што на фоне барацьбы з польскай земляўласнасьцю яго „западно-русская“ програма, абапертая на падтрыманьне беларускага мужыка супроць польскага пана, на процілежнасьці іх нацыянальных, рэлігійных і соцыяльных інтарэсаў, зьяўляецца парушэньнем асноў соцыяльнага ладу“ (83).

Ён знаходзіць магчымым запэўняць, быццам Гаворскі і „Вестник Западной России“ далёка не выпадкова заняў позыцыі дробнага земляўладаньня (86). Гэта паўтараецца ні адзін раз. „Гаворскі заняў... акрэсьленую клясавую позыцыю... ён *рашуча выступае за дробную земляўласнасьць*“ (77, падкрэсьлена аўтарам), Гаворскі і рэдакцыя „Вестника“ не здаліся нават, калі на іх пачалі нападаць абаронцы буйнога земляўладаньня. „Прызываючы ў сьведкі ўсіх святых у доказ сваёй бясконцай пашаны да буйной земляўласнасьці, яны, аднак, ня здалі сваёй асноўнай позыцыі—*абароны дробнай земляўласнасьці*“ (86, падкресьлена мною).

„*Гаворскі сьвядома бараніў дробную расійскую земляўласнасьць, а ня буйную, бо гэтым самым ён бараніў і формуляваў клясавыя інтарэсы тае соцыяльнае групы, да якой ён сам і яго партыя належалі*“. (92, падкрэсьлена аўтарам).

Цьвікевіч ідэалізуе, падфарбоўвае, абяляе ня толькі Гаворскага, але і Мураўёва-вешацеля. І гэты, як і Гаворскі, выступае ў ролі абаронцы дробна-буржуазнай уласнасьнасьці (гл. 90 стар.). Цьвікевіч знаходзіць магчымасьць гаварыць аб блізасьці Гаворскага да славянафільскіх народніцкіх колаў (стар. 21), аб тым, што прычынай яго ганебных паводзін у гуртку Кастамарава было „неразуменьне ім нацыянальнага пытаньня, як такавога“ (стар. 35), ён знаходзіць магчымым гаварыць аб *памылках* Гаворскага, якія заключаюцца ў тым, „што яны надалі задачам русыфікацыі Беларусі занадта чыноўніцкі характар“ (стар. 100), лічыць магчымым знаходзіць прычыны няўдачы Гаворскага і яго органу толькі ў тым, што яны ўзялі „фальшывы тон у справах заходня-русізму і нядбайнасьць у адносінах да мясцовых работнікаў“ (стар. 40[1]).

---

[1]) Можна парэкомэндаваць чытачу для больш яснага разуменьня характару памылак і разуменьня Гаворскім нацыянальнага пытаньня праглядзець артыкул украінскага буржуазнага гісторыка акад. Кірылы Студзінскага „Епізоды боротьби за українство в 1863 р.“ Юбілейны збірник II на пошану академ. Мих. Серг. Грушевського. Київ 1928 г. 990—1015 стар.

Чым-жа гэта тлумачыцца, што і Цьвікевіч у сваім „дасьледваньні" *павінен* блытаць інтарэсы кішэні і інтарэсы політыкі? Гэта тлумачыцца тым, што лёгіка яго політычнага *сучаснага*, у змаганьні з савецкай уладай, нацягнуўшага на сябе рызы абаронцаў *беларускай* нацыянальнай ідэі прымушаюць яго прызнаць, што там былі толькі інтарэсы пэнсіі і кішэні, але лёгіка яго політычнага і ідэйнага *заходня-рускага мінулага*, ад якога ён шукае нейкіх ідэёвых пераемных нітак да свайго сучаснага, вымушае яго падводзіць пад інтарэсы кішэні і пэнсіі нейкія інтарэсы (ці інтарэсы нейкай клясы).

Вядома, зьнешня політычнае мінулае Цьвікевіча таксама несумяшчальна з яго політычным сучасным, як вада і агонь. Але ўся сутнасьць у тым, што яго русыфікатарскае мінулае і яго нацыяналістычнае сучаснае самі зьяўляюцца зьнешнім у адносінах да сапраўднага зьместу і мінулага і сучаснага Цьвікевіча—у адносінах да буржуазна-памешчыцкае існасьці яго поглядаў, розна афарбаваных у розныя пэрыоды.

Але калі Гаворскі фігура найбольш няспрыяючая для ідэалізацыі (сам Цьвікевіч • павінен адзначыць шкурніцтва, прадажнасьць і бяспрынцыпнасьць Гаворскага і ня гледзячы на тое, што гаворыць аб ім, як аб ідэолёгу асознаных клясавых інтарэсаў,—сам вымушаны адзначыць, што для яго нічога не існавала, апрача грашовых інтарэсаў), дык Каяловіч—фігура бязумоўна больш спрыяючая для ідэалізацыі, — яго ўжо ня прыходзіцца падазраваць у тым, што гэта быў чалавек, здольны красьці лыжкі са стала. І Цьвікевіч гэтыя спрыяючыя асаблівасьці характару і дзейнасьці Каяловіча скарыстоўвае ў поўнай меры. Ён, зразумела, малюе Каяловіча якраз таксама, як і Гаворскага абаронцай інтарэсаў „заходня-рускай народнасьці", ніжэйшых яе пластоў, якія процістаяць польскім паном. Ён на працягу ўсіх тых шматлікіх старонак, дзе гаворыць аб Каяловічу, сьвядома затушоўвае тую акалічнасьць, што ў Каяловіча была нянавісьць да *польскіх* паноў, і выдае гэту нянавісьць, як змаганьне з панамі наогул. Вось што гаворыць, напрыклад, Цьвікевіч аб Каяловічу на старонцы 157:

> „Ня верыў Каяловіч гэтай групе таму, што ня верыў у Польшчу. Ён не вызнаваў прыорытэту польскай цывілізацыі, навукі і культуры на Беларусі; не вызнаваў тут правоў польскай дзяржаўнасьці, якая гэтак аславіла сябе ў эпоху заняпаду Рэчы Паспалітай; ён быў ворагам польскага каталіцтва, як антытэзы праваслаўя, а галоўнае—ня верыў польскаму шляхецтву і польскай інтэлігенцыі, у якой бачыў стан, органічна варожы народу, стан, які „адмовіўся ад свае народнасьці". Ён ня бачыў дый і не хацеў бачыць магчымасьці замірэньня паміж гэтымі варожымі станамі. У прадстаўнікох мясцовай польска-беларускай партыі ён бачыў усё тых-жа „паноў", а ў спробах замірэньня, якія пачаліся з боку мясцовага грамадзтва пасьля сялянскай рэформы, бачыў няшчырасьць і фальшывасьць".

Ён адзначае далей, што заходня-руская партыя ў разуменьні Каяловіча павінна была, зразумела, насіць „мужыцкі дэмократычны характар" (159). Ён піша быццам Каяловіч у сваіх напоўпрыгоньніцкіх лекцыях па гісторыі заходняй Расіі стаяў на пункце гледжаньня „самотнага простага люду" (162), ён аддае справядлівасьць Каяловічу:

> „Трэба аддаць справядлівасьць М. Каяловічу, што пры першых сваіх разважаньнях аб лёсах краю, ён адразу і рашуча схапіў істотную адзнаку соцыяльнага становішча Беларусі, — процi-

лежнасьць інтарэсаў польскага пана-памешчыка і беларускага мужыка-селяніна". (162).

Больш таго, ён ператварае яго ледзь не ў фэдэралістага:

„Адсюль быў адзін крок да прызнаньня фэдэралістычнай ідэі... уся фэдэралістычная програма ласьне і зьявілася на гэтай краёвай народніцкай аснове" (229).

Ён адносіцца з вялікай пашанай да Каяловіча ня толькі як да політыка, але і як да вучонага (а навуковыя погляды Каяловіча былі цалкам падпарадкаваны яго політычным поглядам), ён лічыць яго работу аб „літоўскай царкоўнай вуніі" аднэй з лепшых у сваім родзе" (стар. 149). Аб лекцыях па гісторыі Заходняй Рассіі — гэтай наскрозь чорнасоценнай рабоце,—ён адзываецца як аб асноўнай у абсягу гісторыі краю (173) і толькі шкадуе аб тым, што Каяловіч ня даў тлумачэньня агульна-гістарычным і соцыяльным умовам зьяўленьня вуніі. Апісанае Каяловічам падарожжа яго ў 80-х г.г. па Беларусі „гэта жывая кніга грамадзкага жыцьця Беларусі таго часу" і г. д. Але хто-ж такі ў сапраўднасьці Каяловіч? Фігура Каяловіча для шырокага кола чытачоў у цяперашні час зьяўляецца зусім невядомай, а між тым, варта на ёй спыніцца некалькі больш падрабязна, каб паказаць ва ўвесь рост тыя гістарычныя прыёмы і тое політычнае адценьне, політычны сэнс, якія мае ідэалізацыя Каяловіча. Бязумоўна, у Цьвікевіча пэўная формальная падстава магла быць дзеля таго, каб сьцвярджаць быццам Каяловіч разглядае ўсе гістарычныя падзеі на Заходняй Русі і ўсю проблему заходня-русізму з народнага пункту погляду. Гэта падстава заключалася ў тым, што Каяловіч вельмі часта ўпамінае аб народнасьці, процістаўляючы яе польскім панам. Гэта-ж паўтараецца і ва ўсіх творах „западно-руссов". Гэта формальная падстава, зьвязаная пераважна, простым злоўжываньнем тэрмінамі, дае магчымасьць Цьвікевічу надаць усяму заходня-русізму „народніцкае" абліччa.

*(Працяг будзе).*

---

**М. Поташ**

# Аб рэвалюцыі 1905 году

## 1. Аб характары рэвалюцыі і яе рухоўных сілах

З прычыны абшырнасьці тэмы аб рэвалюцыі 1905 г. мы хацелі-б абмежавацца ў гэтым артыкуле толькі агульным аналізам некаторых асноўных проблем рэвалюцыі 1905 г. наогул і ў часнасьці тых, якія маюць адносіны да гэтай эпохі ў Беларусі.

Як вядома, рэвалюцыі 1905 г. не ўдалося пакончыць з самадзяржаўем і прыгоньніцтвам, і самадзяржаўе потым паспрабавала праз стварэньне блёку паміж прыгоньнікам-памешчыкам і контр-рэвалюцыйнай буржуазіяй па-свойму вырашаць тыя задачы, якія высуваў об‘ектыўны процэс разьвіцьця Расіі.

Досыць вядомы і прычыны няўдачы рэвалюцыі 1905 г. Па-першае, пролетарыят не атрымаў тады ў выстарчальнай ступені і ў той меры, як гэта трэба было, падтрыманьня з боку сялянства. Па-другое, самадзяржаўю ня гледзячы на цэлы рад буйных выступленьняў з боку розных часьцей арміі, усё-ж удалося ўтрымаць апошнюю ў сваіх руках і выкарыстаць яе як адну з рашаючых сіл у змаганьні з рэвалюцыяй. Пры гэтым трэба ўказаць, што армія таксама ў значнай ступені складалася з сялянства. Апрача таго, трэба ўлічыць яшчэ адну крайне важную акалічнасьць,—гэта тое, што ня гледзячы на ўсю правільнасьць установак бальшавікоў ня толькі агульнапалітычнага характару, але і ў адносінах конкрэтнага кіраўніцтва рэвалюцыйным змаганьнем пролетарыяту і пад яго кіраўніцтвам і сялянства,—мы ўсё-ж, калі прышлося стыкнуцца конкрэтна з ажыцьцяўленьнем паўстаньня, дапусьцілі многа промахаў у організацыі і тэхнічнай падрыхтоўцы паўстаньня. Калі да гэтага дабавім, што ня толькі расійская буржуазія перакінулася канчаткова ў лягер контр-рэвалюцыі, але і міжнародная буржуазія, адчуўшы, якая небясьпека пагражае ёй у выніку поўнай перамогі рэвалюцыі ў Расіі пад кіраўніцтвам пролетарыяту, памагала самадзяржаўю і адыграла контр-рэвалюцыйную ролю, дык важнейшыя прычыны няўдачы рэвалюцыі 1905 г. ясны.

Але зусім няправільна было-б з-за гэтай няўдачы рэвалюцыі 1905 г. ня бачыць таго аграмаднага значэньня, якое мела гэта апошняя. Рэвалюцыя 1905 г. адыграла найбуйнейшую ролю, як этап у разьвіцьці клясавага змаганьня пролетарыяту па шляху да вырашэньня сваёй асноўнай задачы—задачы перамогі пролетарскай рэвалюцыі як па сваіх выніках, так і па тым вопыце, які пролетарыят і шырокія сялянскія масы вынесьлі з гэтага вагромнага змаганьня, што разгарнулася ў рэвалюцыі 1905 г.

Пераходзячы да асноўных проблем самой рэволюцыі 1905 г., мы перш за ўсё павінны спыніцца на самым характары рэволюцыі. Як Ленін акрэсьліваў характар рэволюцыі 1905 г.? У гэтых адносінах вельмі характэрна наступнае месца ў Леніна. „Своеасаблівасьць рускай рэволюцыі,—пісаў Ленін,—заключаецца іменна ў тым, што яна была паводле свайго соцыяльнага зьместу буржуазна-дэмократычнай, але паводле сродкаў змаганьня была пролетарскай. Яна была буржуазна-дэмократычнай, бо мэтай, да якой яна непасрэдна імкнулася і якой яна магла дасягнуць непасрэдна сваімі ўласнымі сіламі, была дэмократычная рэспубліка, 8-гадз. раб. дзень, конфіскацыя колёсальнага буйнага дваранскага землеўладаньня,—усе меры, якія амаль у поўным аб'ёме ажыцьцявіла буржуазная рэволюцыя ў Францыі ў 1792 і 1793 гг.

Руская рэволюцыя была разам з тым і пролетарскай ня толькі ў тым сэнсе, што пролетарыят быў кіруючай сілай, авангардам руху, але і ў тым сэнсе, што спэцыфічна пролетарскі сродак змаганьня, іменна забастоўка, зьяўляўся галоўным сродкам раскачваньня мас і найбольш характэрнай зьявай у хваляпадобным нарастаньні рашаючых падзей“ [1]).

Прыглядзімся да гэтага акрэсьленьня Леніна. Гаворачы аб соцыяльным зьмесьце рэволюцыі, ён указвае ўсе тыя мерапрыемствы, якія рэволюцыя магла ажыцьцявіць на першым сваім этапе. Як вядома, Ленін неаднакраць характарызуе буржуазна-дэмократычную рэволюцыю 1905 г., як буржуазна-сялянскую рэволюцыю. Гэта і трэба разумець у тым сэнсе, што ў цэнтры змаганьня стаяла аграрная рэволюцыя ў мэтах зьніштажэньня самадзяржаўя і ўсіх рэштак прыгоньніцтва. Поўная ліквідацыя рэштак прыгоньніцтва ў вёсцы рэволюцыйным шляхам зьяўлялася цэнтральнай задачай рэволюцыі, і з гэтага пункту гледжаньня рэволюцыя 1905 г. была сялянска-буржуазнай рэволюцыяй. Але ўлічваючы ўсе стораны своеасаблівасьці рэволюцыі ў Расіі, Ленін і ўказвае, па-першае, што толькі пролетарыят быў гегемонам рэволюцыі, без кіраўніцтва якога не маглі быць вырашаны гэтыя задачы рэволюцыі, і, па-другое, што пролетарскія мэтоды змаганьня адыгралі рашаючую ролю ў рэволюцыі, і пастолькі яна была пролетарскай. Гэта трэба добра помніць, каб правільна судзіць аб характары рэволюцыі 1905 г. Але гэтага мала. Ленінская пастаноўка пытаньня ні на мінуту не выпускала з відоку самастойных задач пролетарыяту ў рэволюцыі, як адзінай-пасьлядоўнай, да канца рэволюцыйнай клясы, для якой перамога буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі не зьяўляецца граніцай, далей за якую ня трэба ісьці. Наадварот, для пролетарыяту перамога буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі зьяўлялася зыходным пунктам, *неабходным этапам* для таго, каб перайсьці да далейшага змаганьня за соцыялістычны пераварот.

Ленінскае, бальшавіцкае разуменьне рэволюцыі 1905 г. лічыла, што задача пролетарыяту заключаецца ў тым, каб прасоўваць усё больш і далей гэту рэволюцыю для таго, каб стварыць неабходныя прадпасылкі для перарастаньня аднаго этапу рэволюцыі ў другі. Проблема перарастаньня буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную была з усёй выразнасьцю пастаўлена Леніным ужо ў рэволюцыі 1905 г. Ён пісаў:

„...Поўная перамога цяперашняй рэволюцыі будзе канцом дэмократычнага перавароту і пачаткам рашучага змаганьня за соцыялі-

[1]) Ленін, т. XX, ч. II, стар. 30-31 (выд. 1927 г.).

стычны пераварот. Ажыцьцяўленьне патрабаваньняў сучаснага сялянства, поўны разгром рэакцыі, заваяваньне дэмократычнай рэспублікі будзе поўным канцом рэволюцыйнасьці буржуазіі і нават дробнай буржуазіі,—будзе пачаткам сапраўднага змаганьня пролетарыяту за социялізм. Чым паўней будзе дэмократычны пераварот, тым хутчэй, шырэй, чысьцей, больш рашуча разгорнецца гэта новае змаганьне. Лёзунг „дэмократычнай“ дыктатуры і выражае гістарычна-абмежаваны характар цяперашняй рэволюцыі і неабходнасьць новага змаганьня на грунце новых парадкаў за поўнае вызваленьне рабочае клясы ад усякага гнёту і ўсякай эксплёатацыі. Іншымі словамі: калі дэмократычная буржуазія або дробная буржуазія паднімецца яшчэ на ступеньку, калі фактам будзе ня толькі рэволюцыя, а поўная перамога рэволюцыі,—тады мы „падменім“ (можа быць, пры страшэнных лямантах новых будучых Мартынавых) лёзунг дэмократычнай дыктатуры лёзунгам соцыялістычнай дыктатуры пролетарыяту“ [1]).

Такім чынам, зусім ясна Ленін высоўвае проблему перарастаньня, прычым — чым радыкальней будзе праведзена вырашэньне задач буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі, тым быстрэй настане момант гэтага перарастаньня. І ў сувязі з гэтым адбудзецца перагрупоўка сярод сялянства і інакш стане пытаньне аб розных пластох сялянства.

Пераходзячы цяпер да пытаньня аб рухоўных сілах рэволюцыі, трэба перш за ўсё адзначыць, што ленінская пастаноўка пытаньня адкідала ў корані немарксыцкі падыход меншавікоў да акрэсьленьня характару рэволюцыі і яе рухоўных сіл. Меншавікі зьмешвалі пытаньне аб характары рэволюцыі з пытаньнем аб яе рухоўных сілах і мэханічна пераносілі загадзя гатовы шаблён на рускую рэволюцыю, бяз уліку конкрэтных умоў і суадносін клясавых сіл у ёй. „Але калі, — пісаў Ленін, — наша рэволюцыя буржуазная паводле свайго экономічнага зьместу (гэта нясумненна), то адсюль нельга рабіць вывад аб кіруючай ролі буржуазіі ў нашай рэволюцыі, аб буржуазіі, як рухоўнай сіле яе. Такі вывад, звычайны ў Плеханава і меншавікоў, ёсьць апашленьне марксызму, карыкатура на марксызм. У буржуазнай рэволюцыі можа быць кіраўніком і лібэральны памешчык разам з фабрыкантам, купцом, адвакатам і да т. п., — і пролетарыят разам з масай сялян. Буржуазны характар перавароту застаецца ў абодвых выпадках, але рамкі яго, умовы яго выгоднасьці для пролетарыяту, умовы яго выгоднасьці для соцыялізму (*гэта значыць* для быстрыні разьвіцьця продукцыйных сіл перш за ўсё) *зусім розныя* ў першым і ў другім выпадку. Адгэтуль бальшавікі выводзяць *асноўную* тактыку соцыялістычнага пролетарыяту ў буржуазнай рэволюцыі: весьці за сабой дэмократычную дробную буржуазію, асабліва сялянскую, адрываць яе ад лібэралаў, паралізаваць няўстойлівасьць лібэральнай буржуазіі, разьвіваць змаганьне *мас* за поўнае *зьніштажэньне* ўсіх сьлядоў прыгоньніцтва, памешчыцкага земляўладаньня ў тым ліку“ [2]).

Марксыцка-ленінскі аналіз становішча і інтарэсаў розных кляс у рэволюцыі 1905 г. прывёў да таго заключэньня, што буржуазія ня можа быць рухоўнай сілай у рэволюцыі, што гегемонам і галоўнай рухоўнай сілай зьяўляецца пролетарыят, а яго галоўным саюзьнікам — сялянства. Між тым меншавізм і яго разнавіднасьць — троцкізм лічылі сялянства ў асноўным рэакцыйнаю сілай. Гэта было глыбока няверна. Толькі марксыцка-ленінскі аналіз соцыяльна-экономічнай абстаноўкі

[1]) Ленін, т. VIII, стар. 118-19 (выд. 1929 г.).
[2]) Ленін, т. XI, стар. 25 (выд. 1929 г.)

ў Расіі ў эпоху буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі мог даць правільны адказ на пытаньне аб ролі сялянства ў гэтай рэволюцыі.

У Расіі, з аднаго боку, адбываўся процэс капіталістычнага разьвіцьця ў горадзе і вёсцы, а з другога — мелася ў наяўнасьці вагромная колькасьць прыгоньніцкіх рэштак, якія стаялі перашкодай па шляху гэтага капіталістычнага разьвіцьця. Магчымы былі два шляхі вырашэньня гэтай супярэчнасьці. Або рэформісцкім шляхам, зьверху, калі сіла і ўлада застануцца ў пануючай клясы, і адбудзецца паступовае прыстасаваньне самадзяржаўна-памешчыцкага ладу да буржуазнага разьвіцьця краіны, пры вагромным разарэньні сялянскіх мас і пры затрыманьні разьвіцьця краіны. За гэты шлях была лібэральная буржуазія. Або рэволюцыйным шляхам, зьнізу, калі будзе ажыцьцёўлена рашучая ліквідацыя ўсіх рэштак прыгоньніцтва, адбудзецца зьвяржэньне самадзяржаўна-памешчыцкага ладу і адкрыецца магчымасьць для разьвіцьця фэрмэрскага тыпу сялянскай гаспадаркі. За гэты шлях было сялянства.

Толькі рэволюцыйнае змаганьне сялянства пад кіраўніцтвам пролетарыяту магло вырашыць пытаньне, па якім з гэтых двух шляхоў пойдзе капіталістычнае разьвіцьцё Расіі. Вось адкуль выплывала правільная ацэнка бальшавікамі ролі сялянства ў рэволюцыі 1905 г. Разам з тым зусім ясна, што ў змаганьні супроць памешчыцка-прыгоньніцкае клясы, яе ўлады і сілы, сялянства выступала ўцалку.

Але затое зусім няправільна ставіць так пытаньне, што кулацкая верхавінка сялянства ў асноўным зьяўлялася цэнтральнай фігурай у вёсцы, што кулак быў кіруючай сілай у аграрнай рэволюцыі 1905 г. і вёў асноўныя масы сялянства на змаганьне. Трэба таксама з усёй рашучасьцю адкінуць спробу прадставіць кулака, сялянскую буржуазію асноўнай рухоўнай фігурай у гістарычным разьвіцьці нацыянальных раёнаў і рашаючай сілай пры вырашэньні аграрнай проблемы, задач нацыянальна-вызваленчага руху і г. д.

Вядома, кулак быў дэмократычны і рэволюцыйна настроен у пытаньнях ліквідацыі прыгоньніцтва для таго, каб адкрыць шлях да капіталістычнага разьвіцьця і каб выступаць як эксплёататар капіталістычнага тыпу, і ў гэтых адносінах яго нельга параўнаць з лібэральнай буржуазіяй, зьвязанай многімі ніцямі з памешчыкам прыгоньніцкага тыпу і царызмам. Таму ён і выступаў разам з усім сялянствам супроць прыгоньніцтва. Але разам з тым кулак і ў рэволюцыі 1905 г. цягнуў у бок лібэральнай буржуазіі, у той час як асноўная маса сялянства, асабліва вясковая бедната, цягнула ў бок рабочага руху, у бок пролетарскага кіраўніцтва сялянскім змаганьнем. Асабліва кулак праяўляў крайнюю падазронасьць, калі гутарка ішла аб уласнасьці. Калі размах сялянскага руха дасягаў вельмі высокай ступені і намеціліся азнакі выступленьня ня толькі супроць уласнасьці прыгоньніка-памешчыка, але і супроць буржуазнай уласнасьці, кулак вельмі падазрона аглядаўся і адмоўна адносіўся да некаторых форм сялянскага змаганьня.

Таму ясна, што асноўнай рашаючай сілай аграрнай рэволюцыі пад кіуаўніцтвам пролетарыяту ў 1905 г. былі бядняцка-серадняцкія масы, а ня кулак. Вось чаму т. Ленін ужо ў рэволюцыі 1905 г. высуваў і падкрэсьліваў, што мы мелі ў вёсцы дзьве соцыяльныя вайны: адна соцыяльная вайна сялянства ўцалку супроць клясы прыгоньнікаў і другая соцыяльная вайна ўнутры сялянства, паміж сельскай буржуазіяй і пролетарскімі ды поўпролетарскімі масамі вёскі.

Цяпер трэба ўказаць, што супроць асноўных установак бальшавізму выступаў рад дробна-буржуазных плыняй, асабліва меншавікі і рознавіднасьць меншавізму — троцкізм. Ня маючы магчымасьці ў рамках гэтага артыкулу спыніцца больш падрабязна на гэтых дробна-буржуазных плынях, мы толькі ўкажам, што ва ўсіх абсолютна асноўных пытаньнях рэволюцыі 1905 г. бальшавізм рэзка разышоўся з гэтымі опортуністычнымі плынямі.

Разыходжаньні былі настолькі глыбокія, што мы маем поўную падставу казаць — ня гледзячы на тое, што формальна меншавікі і бальшавікі знаходзіліся ў радох Р.С.-Д.Р.П. — аб дзьвюх розных партыях: бальшавіцкай, як клясавай партыі пролетарыяту, і меншавіцкай, як дробна-буржуазнай опортуністычнай партыі.

Гаворачы аб памылках меншавікоў, тав. Ленін указвае на прыкладзе Плеханава, што яны зьмешвалі „агульны характар“ рэволюцыі „ў сэнсе яе *грамадзка-экономічнага зьместу* з пытаньнем аб рухоўных сілах рэволюцыі. Марксысты ня могуць зьмешваць гэтых пытаньняў, ня могуць нават *непасрэдна* выводзіць адказ на другое пытаньне з адказу на першае без асобнага конкрэтнага аналізу“.

Другое, што ўказвае Ленін — гэта „зьмешваньне пытаньня аб ролі сялянства ў нашай рэволюцыі з рольлю буржуазнай дэмократыі наогул. Фактычна і сялянства і лібэралы падыходзяць пад навуковае паняцьце „буржуазнай дэмократыі“, але адносіны пролетарыяту да гэтых дзьвёх рознавіднасьцяй „буржуазнай дэмократыі“ няўнікнёна павінны быць істотна рознымі“. [1])

І вось у рашаючых пытаньнях аб кіруючай ролі пролетарыяту ў рэволюцыі, аб заваяваньні ўлады пролетарыятам з дапамогай другіх рэволюцыйных кляс, аб ролі сялянства, як галоўнага саюзьніка пролетарыяту, і г. д. меншавікі занялі позіцыю немарксыцкую, непролетарскаю. „Палітыка меншавікоў у рэволюцыі, — гаварыў Ленін, — была якраз рухам бяз мэты і таму рухам *залежным* ад хістаньняў партыі к.-д.“ ...і асуджала „палітыку соцыял-дэмократаў на блуканьні, на памылкі, на бяспрынцыпнасьць, на залежнасьць ад лібэралаў“.

Што датычыць Троцкага, то Ленін указваў, што „асноўная памылка тав. Троцкага — ігнораваньне буржуазнага характару рэволюцыі, адсутнасьць яснай мысьлі ў пытаньні аб пераходзе ад гэтай рэволюцыі да рэволюцыі соцыялістычнай“. З гэтай памылкі выплывае рад часных памылак. [2]) У другім месцы Ленін гаворыць, што „орыгінальная тэорыя Троцкага бярэ ў бальшавікоў заклік да рашучага рэволюцыйнага змаганьня пролетарыяту і да заваяваньня ім палітычнай улады, а ў меншавікоў „адмаўленьне“ ролі сялянства“. І тут-жа Ленін указвае, як Троцкі не жадае „падумаць аб тым, у сілу якіх прычын жыцьцё ішло цэлых дзесяць гадоў міма гэтай дасканалай тэорыі“. [3]) Мы цяпер ведаем, што і ў далейшым (артыкул Леніна быў напісаны ў 1915 г.) жыцьцё ішло міма тэорыі Троцкага, і разам з тым мы бачылі, як Троцкі і яго староньнікі поруч з меншавікамі апынуліся па той бок барыкады ў лягеры заўзятых ворагаў пролетарыяту і яго клясавай партыі. Гэта толькі пацьвярджае тую мысьль, што троцкізм ёсьць рознавіднасьць меншавізму.

Вось чаму Ленін пісаў, што „калі адкрыты с.-д. друк і 5-га, 6-га, і 7-га гадоў быў друкам *двух* кірункаў і дзьвёх фракцый, то

---

[1]) Ленін, т. XIV, выд. 1929 г., стар. 48.
[2]) Ленін, т. XIV, выд. 1929 г. стар. 43-44.
[3]) Ленін, т. XIII, першае выд., стар. 213.

гэта, у сваю чаргу, ня можа быць вытлумачана інакш, як розьніцай дробна-буржуазнай і пролетарскай лініі ў рабочым руху той эпохі". [1])

## 2. Бальшавіцкія ўстаноўкі і ход рэволюцыі 1905 г.

Для ацэнкі поглядаў і тактыкі розных партый і плыняй у рэволюцыі 1905 г. важнае значэньне мае аналіз самога руху і разгортваньня клясавага змаганьня ў ёй. Цэннасьць і правільнасьць програм і тактыкі розных партый і плыняй атрымліваюць сваю праверку на практыцы рэволюцыйнага змаганьня. Рэволюцыя найлепшым спосабам дае адказ на пытаньне аб правільнасьці той ці іншай програмы і тактыкі.

Што-ж мы бачым? Пачнем з пролетарыяту. Кожны хоць крыху знаёмы з ходам рэволюцыі 1905 г. ведае, што іменна пролетарыят выступаў у рэволюцыі як авангард большасьці эксплёатаваных, які ўцягваў гэтую большасьць у змаганьне і ў рэчаіснасьці ажыцьцяўляў сваю генемонію ў рэволюцыі. Ужо 9 студзеня 1905 г., якое зьяўлялася пачаткам рэволюцыі і гістарычнае значэньне якога заключалася ў прабуджэньні колёсальных народных мас да палітычнай сьвядомасьці, да рэволюцыйнага змаганьня, высунула пролетарыят на гэтую ролю. Варта прыглядацца да таго, як разгарнуліся рэволюцыйныя падзеі пасьля 9 студзеня. Тав. Ленін у сваім дакладзе аб рэволюцыі 1905 г. казаў:

„...У працягу некалькіх месяцаў малюнак зусім зьмяніўся. Сотні рэволюцыйных соцыял-дэмократаў „раптам" выраслі ў тысячы, тысячы сталі правадырамі ад двух да трох мільёнаў пролетараў. Пролетарскае змаганьне выклікала вялікае браджэньне, часткаю і рэволюцыйны рух, у глыбінях пяцідзесяці — ста-мільёнай сялянскай масы, сялянскі рух знайшоў водгук у арміі і павёў да салдацкіх паўстаньняў, да ўзброеных сутычак аднэй часьці арміі з другой. Такім чынам колёсальная краіна з 130 мільёнамі жыхароў уступіла ў рэволюцыю, такім чынам дрэмлючая Расія абвярнулася ў Расію рэволюцыйнага пролетарыяту рэволюцыйнага народу". [2])

Мы ня маем магчымасьці спыняцца ў гэтым артыкуле на аналізе ўсіх фазісаў змаганьня пролетарыяту ў рэволюцыі 1905 г. Адсылаем чытача да дасканалага аналізу тав. Леніна ва ўжо памянёным дакладзе. Мы толькі ўкажам тут на некаторыя асноўныя моманты. Укажам на месяцы кастрычнік—сьнежань 1905 г. Усеагульная палітычная забастоўка ў кастрычніку і сьнежаньскае паўстаньне. Пролетарыят фактычна ажыцьцяўляе свабоду друку, дабіваецца 8-гадзіннага рабочага дня і падыходзіць усутыч да рашаючага пункту руху — збройнага паўстаньня.

У процэсе змаганьня пролетарыят стварае шырокую масавую організацыю — саветы, аб якіх Ленін казаў, што яны „ўсё больш і больш пачыналі адыгрываць ролю часовага рэволюцыйнага ўраду, рулю органаў і кіраўнікоў паўстаньняў. Былі зроблены спробы організаваць Саветы Салдацкіх і Матроскіх Дэпутатаў ды злучыць іх з Саветамі Рабочых Дэпутатаў.

Некаторыя гарады Расіі перажывалі ў тыя дні пэрыод розных мясцовых маленькіх „рэспублік", у якіх урадавая ўлада была скінута, і савет рабочых дэпутатаў сапраўды функцыянаваў у якасьці новай

---

[1]) Ленін, т. XX, ч. I першае выд., стар. 455.
[2]) Ленін, т. XX, ч. II першае выд. стар. 30.

дзяржаўнай улады. На жаль, гэтыя пэрыоды былі надта кароткімі, „перамогі“ надта слабымі, надта ізоляванымі“[1])

Вось марксыцкае акрэсьленьне ролі саветаў у адрозьненьне ад меншавіцкага опортуністычнага акрэсьленьня іх, як „органаў самакіраваньня“. Разам з тым сапраўдная роля саветаў ужо ў іх пачатковым разьвіцьці ў рэволюцыі 1905 г. паказвае, якія ніці ішлі ад рэволюцыі 1905 г. да Кастрычнікавай рэволюцыі. Затым мы маем сьнежаньскае паўстаньне. У сьнежаньскім паўстаньні рэволюцыя дасягнула свайго найвышэйшага пункту. У сьнежаньскім паўстаньні рэволюцыя сапраўды дасягнула сваёй вяршыні, і з паражэньнем сьнежаньскага паўстаньня пачынаецца зыходзячая лінія рэволюцыі 1905 г. Досыць вядома, як у гэтым рашаючым пытаньні аб паўстаньні опортуністы з II Інтэрнацыяналу сказілі марксызм. І меншавізм, і трацкізм, так-жа сама як і ўсё опортуністычнае крыло II Інтэрнацыяналу, разьвівалі антымарксыцкія погляды на паўстаньне. Пасьля паражэньня сьнежаньскага паўстаньня меншавікі аплёўвалі яго і ўсяляк стараліся дыскрэдытаваць ідэю паўстаньня, гэту вышэйшую форму рэволюцыйнага змаганьня, без якой проблемы рэволюцыі ня могуць быць вырашаны. Аб адносінах буржуазных гісторыкаў і публіцыстаў да сьнежаньскага паўстаньня ўжо няма чаго сказаць. Ленін ім адказваў:

„Буржуазія любіць называць маскоўскае паўстаньне чымсьці штучным і насьміхаецца над ім. Напрыклад, у нямецкай так званай „навуковай“ літаратуры пан проф. Макс Вэбэр у сваёй вялікай рабоце аб палітычным разьвіцьці Расіі назваў маскоўскае паўстаньне „путшам“ („вспышкопускательством“). „Ленінская група, — кажа гэты „высокавучоны“ пан профэсар, — і частка эсэраў даўно ўжо падрыхтоўвалі гэта недарэчнае паўстаньне“.

Каб ацаніць па заслугах гэту профэсарскую мудрасьць палахлівай буржуазіі, даволі толькі аднавіць у памяці сухія лічбы статыстыкі забастовак. У студзені 1905 г. ў Расіі было толькі 13 тысяч чыста палітычных забастоўшчыкаў, у кастрычніку — 330 тыс., у сьнежні быў дасягнуты максымум, іменна 370 тыс. чыста палітычных забастоўшчыкаў, на працягу аднаго месяца. Прыпомнім посьпехі контр-рэволюцыі, паўстаньні сялян і салдат, і мы зараз-жа пераканаемся, што: суджэньне буржуазнай „навукі“ аб сьнежаньскім паўстаньні ня толькі недарэчнае, яно зьяўляецца слоўным выкрутам прадстаўнікоў палахлівай буржуазіі, якая бачыць у пролетарыяце свайго самага небясьпечнага клясавага ворага.

У рэчаіснасьці ўсё разьвіцьцё рускай рэволюцыі з няўнікнёнасьцю таўхала да ўзброенага рашаючага бою паміж царскім урадам і авангардам клясава-сьвядомага пролетарыяту“.[2])

З усягага сказанага вышэй ясна, што іменна пролетарыят ішоў на чале руху, і апошняе поўнасьцю пацьвердзіла палажэньне бальшавізму аб гегемоніі пролетарыяту ў рэволюцыі. Ня менш гэта пацьвярджае і прыклад сялянскага змаганьня, як і тое, што яно выступала як галоўны саюзьнік пролетарыяту. Ужо ўвесну 1905 г., пасьля першага вялікага ўздыму рабочага руху, пачынаецца і першае выступленьне сялянства ў рэволюцыі. І гэта выступленьне мела ня толькі эканомічны характар, але сялянства пачынае ўжо выступаць і палітычна. Гэты рух толькі пачаўся, у яго ўцягваецца пакуль толькі меншасьць, але вельмі часта пад непасрэдным уплывам рабочых, якія прыехалі

[1]) Ленін, т, XX, ч. II, стар. 39 (выд. 1927 г.)
[2]) Ленін, там-жа, стар. 41—42.

ў вёску, пачынаецца рост сьвядомасьці селяніна, рост яго ўступленьня ў змаганьне і г. д. Яшчэ больш размах набывае рух сялянства ўвосень. Такім чынам мы бачым, як пад уплывам пролетарыяту адбываецца тое, што сялянства ўступае ў бой, усё больш расьце яго палітычная сьвядомасьць.

Вядома, як размах сялянскага руху, як яго арганізаванасьць, так і своечасовасьць падтрыманьня пролетарскага руху былі ў рэволюцыі 1905 г. далёка невыстарчальныя. Тав. Ленін казаў:

„На жаль, гэта работа была вельмі мала грунтоўнаю. На жаль, сяляне зьніштожылі тады толькі пятнаццатую долю агульнае колькасьці дваранскіх сядзіб, толькі пятнаццатую частку таго, што яны павінны былі зьніштожыць, каб да канца сьцерці з твару рускай зямлі ганьбу фэўдальнага буйнага земляўладаньня. На жаль, сяляне дзеялі надта распылена, і ў гэтым заключаецца адна з карэнных прычын паражэньня рэволюцыі“. [1])

Тое-ж самае было і з арміяй, якая па сутнасьці справы таксама была сялянскай. І вось і ў арміі мы заўважаем, як пад уплывам рабочага руху пачынаецца браджэньне і рэволюцыйныя выступленьні. І ў гэтай крэпасьці царызму рэволюцыя пачынае рабіць прабоіну. Даволі ўказаць на такі факт, як паўстаньне на броняносцы „Потемкин“ і г. д., каб бачыць, як і ў арміі пачаўся рэволюцыйны рух, і гады рэволюцыі могуць адзначыць не адно буйнае выступленьне ў арміі. На жаль, і рух у арміі далёка не дасягнуў тых граніц і той арганізаванасьці, якія былі неабходны, каб армія выпала з рук царызму, як прылада для прыдушэньня рэволюцыі.

Але асноўнае, што мы хацелі даказаць, як пад уплывам пролетарыяту і пролетарскіх форм змаганьня падымаюцца шырокія рэзэрвы на дапамогу пролетарыяту, каб пад яго кіраўніцтвам супольнымі сіламі перамагчы ў рэволюцыі 1905 г., — ясна.

Вось чаму тав. Ленін з поўным правам мог сказаць:

„Толькі змаганьне выхоўвае эксплёатаваную клясу, толькі змаганьне адкрывае ёй меру яе сіл, пашырае яе кругазор, падымае яе здольнасьці, праясьняе яе розум, выкоўвае яе волю. І таму нават рэакцыянэры павінны былі прызнаць, што 1905 год, год змаганьня, „шалёны год“, канчаткова палажыў у труну патрыярхальную Расію“. [2])

### 3. Да пастаноўкі пытаньня аб гістарычным разьвіцьці Беларусі

Пасьля гэтых некаторых агульных установак да разуменьня рэволюцыі 1905 г., паданых намі падкрэсьліваем у вельмі кароткіх рысах, — можна перайсьці да пытаньняў, якія маюць адносіны да рэволюцыі 1905 г. на Беларусі. Неабходна адзначыць, што пытаньне аб руху ў гэтую эпоху на Беларусі зьвязана з цэлым радам даволі складаных проблем, маючых адносіны да спэцыфічных умоў разьвіцьця Беларусі, як нацыянальнага раёну, які знаходзіцца пад пятой царызму. Пяро марксыста яшчэ ў вельмі малой ступені закранала гэтыя проблемы. За выключэньнем некаторых комуністаў, гэтым займаліся нацыянал-дэмократы і іх агенты ў радох нашай партыі, якія праводзілі ідэі, чужыя і варожыя ленінізму і асуджаныя партыяй. Мы толькі цяпер пасапраўднаму прыступаем да марксыцкага аналізу тых проблем, якія зьвязаны з вывучэньнем умоў і характару гістарычнага разьвіцьця

[1]) Ленін, там-жа стар. 40.
[2]) Ленін, там-жа стар. 33.

Беларусі. Мы таму закранаем тут толькі некаторыя пытаньні руху ў 1905 г. на Беларусі.

Нацыянальны ўціск шматмільённых мас нярускіх народнасьцяй, у першую чаргу сялянскіх мас, неабходна аднесьці да асноўных устояў самадзяржаўнага ладу, на якіх ён трымаўся. Супярэчнасьці, спароджаныя гэтым нацыянальным уціскам, далучыліся да іншых асноўных супярэчнасьцяй, выклікаўшых такі моцны масавы рух у нацыянальных раёнах супроць самадзяржаўя і прыгоньніцтва, які бязумоўна дапамагаў пролетарыяту ў яго рэволюцыйным змаганьні. Тав. Ленін у сваім ужо вышэй памянёным дакладзе спыняецца і на тым, як у рэволюцыі 1905 г. выбухнуў нацыянальна-вызваленчы рух сярод прыгнечаных народаў. Пры гэтым ён падкрэсьлівае, што „нацыянальны вызваленчы рух падымаўся ў сувязі з рабочым рухам". Гэта ўказаньне Леніна ня трэба забываць. Нясумненна, што і задачы нацыянальна-вызваленчыя, як частка агульна-дэмократычных задач у рэволюцыі 1905 г., якія таксама ў першую чаргу закранала інтарэсы сялянства, маглі быць вырашаны толькі пад кіраўніцтвам пролетарыяту.

Толькі ленінская ацэнка нацыянальна-вызваленчых рухаў, зьвязаная з марксыцка-ленінскай пастаноўкай нацыянальнага пытаньня наогул, магла даць правільны адказ і на пытаньне, якімі шляхамі гэтыя задачы маглі быць вырашаны. [1])

Што да Беларусі, дык тут нацыянальны рух пачынаецца асабліва ў гады рэволюцыі 1905 г. і пад непасрэдным уплывам гэтай апошняй. У параўнаньні з іншымі раёнамі, дзе капіталістычнае разьвіцьцё пайшло далей, на Беларусі нацыянальны рух быў слабейшым. Каб правільна асьвятляць рух 1905 г. на Беларусі, неабходна і правільная трактоўка нацыянальнага моманту ў гэтым руху. А гэта зьвязана з улікам і аналізам тых асаблівых умоў, у якіх разьвівалася Беларусь. Між тым, пры падыходзе да вырашэньня гэтага апошняга пытаньня адны разглядалі разьвіцьцё Беларусі ізолявана, як выключна „самабытны" процэс. Аб'ясьненьне нацыянальнага руху мае ідэалістычна-папоўскі характар, і каранёў яго шукаюць у асобным, толькі беларускаму народу ўласьцівым духоўным укладзе. Крыніца так званай „нацыянальнай самасьвядомасьці" беларускага народу (іменна — ўсяго народу!!) акружана нейкай таямнічнай сілай, якая зьмешчана ў „душы народу"... З другога боку, былі спробы зусім ігнараваць асаблівасьці гістарычнага разьвіцьця Беларусі і рух, напрыклад, у рэволюцыі 1905 г. разглядаць бяз уліку гэтых асаблівасьцяй. Будзе лішнім сказаць, што абодва гэтыя падыходы няправільныя і ў аніякай меры не даюць ключа і да таго, каб правільна зразумець характар руху на Беларусі ў 1905 г.

У сувязі з гэтым неабходна прывесьці, на нашу думку, вельмі выдатлівае месца з Леніна, якое хоць і адносіцца да эпохі пролетарскіх рэволюцый, але мэтодолёгічна дае нам устаноўку, як падыходзіць і да закранутага намі пытаньня. У „Дзіцячай хваробе лявізны" Ленін пісаў:

„Пакуль існуюць нацыянальныя і дзяржаўныя адрозьненьні паміж народамі і краінамі, — а гэтыя адрозьненьні будуць трымацца яшчэ вельмі і вельмі доўга нават пасьля ажыцьцяўленьня дыктатуры пролетарыяту ў сусьветным маштабе, — адзінства інтэрнацыянальнай тактыкі комуністычнага рабочага руху ўсіх краін патрабуе не ўстараненьня рознастайнасьці, не зьніштажэньня нацыянальных адрозьненьняў (гэта—

[1]) Гл. „Зьвязду" № 2 за 1931 г., артыкул — „Бальшавізм і дробна-буржуазныя партыі", аўтара гэтых радкоў.

недарэчная мара для цяперашняга моманту), а такога ўжываньня *асноўных* прынцыпаў комунізму (Савецкая ўлада і дыктатура пролетарыяту), якое-б правільна *відазьмяняла* гэтыя прынцыпы ў *часнасьцях*, правільна дастасоўвала, ужывала іх да нацыянальных і нацыянальна-культурных адрозьненьняў. Дасьледваць, вывучыць, адшукаць, угадаць, схапіць нацыянальна асаблівае, нацыянальнае, спэцыфічнае *ў конкрэтных падыходах* кожнай краіны да вырашэньня *адзінай* інтэрнацыянальнай задачы, да перамог і над опортунізмам і левым доктрынэрствам унутры рабочага руху, да зьвяржэньня буржуазіі, да ўстанаўленьня Савецкай Рэспублікі і пролетарскай дыктатуры — вось у чым галоўная задача перажыванага ўсімі перадавымі (і ня толькі перадавымі) краінамі гістарычнага моманту". [1])

Якія-ж вывады мы можам рабіць з тых палажэньняў, якія высунуты Леніным у паданай зараз цытаце з пункту гледжаньня выясьненьня таго пытаньня, якое мы вышэй паставілі?

Вывады гэтыя, на нашу думку, зводзяцца да наступнага. Па-першае, што нельга ігнараваць тыя match розностайнасьці, якія выплываюць з нацыянальных адрозьненьняў; па-другое, што неабходна адкінуць усякія спробы падстаўляць асаблівасьці там, дзе справа ідзе аб асноўных прынцыпах марксыцка-ленінскага вучэньня; па-трэцяе, што трэба вывучыць і ўмець схапіць, карыстаючыся марксыцка-ленінскім мэтодам, спэцыфічныя асаблівасьці конкрэтнага разьвіцьця той або іншай нацыянальнасьці і выплываючыя адсюль адрозьненьні для таго, каб правільна ўжываць і ўмець відазьмяняць у часнасьцях тыя асноўныя прынцыпы, якія выплываюць з марксыцка-ленінскага вучэньня і тактыкі.

У часнасьці, у пытаньні аб рэволюцыі 1905 г. мы павінны сказаць, што калі гутарка ідзе аб характары рэволюцыі 1905 г., аб яе рухоўных сілах і г. д., мы ня можам ставіць пытаньня аб якіхсьці асаблівасьцях у гэтых адносінах. Мы павінны толькі дасьледаваць і паказаць, як бальшавіцкае вучэньне, як прынцыпы бальшавіцкай тактыкі маглі адказваць на запатрабаваньні, выкліканыя ў рэволюцыі 1905 г. ва ўмовах Беларусі з яе этнографічнымі, бытавымі і соцыяльна-экономічнымі асаблівасьцямі, і як бальшавіцкія прынцыпы маглі быць ажыцьцёўлены і праведзены ў жыцьцё ў гэтых умовах, каб прывесьці да перамогі рэволюцыі на Беларусі, як часткі ўсяго рэволюцыйнага руху ва ўсёй краіне.

## 4. Соцыяльна-экономічная абстаноўка на Беларусі к рэволюцыі 1905 г.

Што-ж прадстаўляла сабою Беларусь у эпоху рэволюцыі 1905 г.? У губэрнях, якія ўваходзілі ў склад Беларускага раёну, значная колькасьць зямлі была сконцэнтравана ў руках памешчыцкае клясы, якая старалася ўсімі сіламі ўтрымліваць яе ў сваіх руках, і памешчыцкая монополія на зямлю ўсім цяжарам цiснула на сялянскія масы. Праўда, гэтыя губэрні не належалі да той групы, дзе пераважала адпрацовачная сыстэма. Так, напрыклад, як указвае Ленін, з губэрань Беларуска-Літоўскага раёну чатыры — Ковенская, Віленская, Горадзенская і Менская — належалі да губэрань з пераабладаньнем капіталістычнай сыстэмы ў прыватнаўладальніцкай гаспадарцы, а тры — Віцебская, Магілеўская і Смаленская, дзе пераважала зьмешаная сыстэма — і адпра-

[1]) Ленін, т. XXV, стар. 229 (выд. 1928 г.).

цовачная і капіталістычная. [1]) Такім чынам мы бачым, што ў радзе губэрань Беларускага раёну мела месца ў большай або меншай ступені адпрацовачная сыстэма, як непасрэдны перажытак прыгоньніцтва.

Што гэта было так, падамо наступнае месца з пэтыцыі сялян Віцебскай губэрні ў 1905 г. У гэтай пэтыцыі сяляне пішуць: „з прычыны малазямельля сярод сялян, апошнія вырабляюць зямлю ў прыватных земляўладальнікаў, у маёнтках як ва ўласьнікаў, так і арандатараў; апрача сялян, вырабам гэтых зямель яшчэ займаюцца зусім безьзямельныя, большаю часткай былыя шляхцічы, так што сярод жадаючых араць гэтыя землі (каб зарабіць кавалак хлеба), пераважна з палавіны, узьнікае конкурэнцыя; з гэтага скарыстоўваюць земляўладальнікі або іх арандатары і накладаюць на палавіншчыкаў вялікія „скруткі“, г. зн. абавязкі выконваць тыя або іншыя работы выключна на сваю карысьць, так што працуючым палавіншчыкам не прыпадае і трэцяй часткі карысьці ад сваёй працы, ня толькі палавіны, як гэта належыць“ [2]).

Вельмі вялікую ролю адыгрывала на Беларусі сэрвітутнае пытаньне. Зусім няправільна так ставіць пытаньне, што сэрвітуты, як перажытак фэўдалізму, якія перашкаджалі капіталістычнаму разьвіцьцю сельскай гаспадаркі, павінны былі быць скасаваны зьне залежнасьці ад таго, якім шляхам гэта ажыцьцёвіцца. Так ставіць пытаньне маглі толькі староньнікі памешчыцкае клясы. Між тым цэнтр цяжару ляжаў у тым, ці вырашыцца пытаньне так, як гэтага хацелі памешчыкі — шляхам пазбаўленьня правоў карыстаньня гэтымі ўгодзьдзямі сялянства, ці яны пяройдуць у рукі апошняга. Але і рад іншых пытаньняў, як, напрыклад, пытаньне аб малазямельлі, аб праспалосіцы і г. д., стаялі надзвычай востра для сялянства. Адгэтуль відаць, што аграрнае пытаньне ў цэлым, улічваючы і ўсе асаблівасьці Беларусі ў гэтых адносінах, магло быць вырашана найбольш спрыяюча з пункту гледжаньня пролетарыяту і сялянства толькі рэволюцыйным шляхам і па шляху бальшавіцкага проекту яго вырашэньня — нацыяналізацыі.

Наступны момант, які павінен быць тут адзначаны, гэта нацыянальная політыка царызму ў Беларусі, насіўшая колёніяльны характар. Якую ролю нацыянальная політыка царызму адыгрывала з пункту гледжаньня разьвіцьця ўсёй былой Расійскай імпэрыі, відаць вельмі яскрава з наступнага месца ў Леніна. „Разьвіцьцё капіталізму, — пісаў Ленін, — углыб у старой, здаўна заселенай, тэрыторыі затрымліваецца з прычыны колёнізацыі акраін. Вырашэньне ўласьцівых капіталізму і спароджаных ім супярэчнасьцяй часова адкладаецца з прычыны таго, што капіталізм лёгка можа разьвівацца ўшыркі. Напр., адначасовае існаваньне самых перадавых форм прамысловасьці і напоўсярэднявяковых форм земляробства зьяўляецца, нясумненна, супярэчнасьцю. Калі-б рускаму капіталізму ня было куды расшырацца за граніцы тэрыторыі, занятай ужо ў пачатку пасьлярэформнага пэрыоду, дык гэта супярэчнасьць паміж капіталістычнай буйнай індустрыяй і архаічнымі ўстановамі ў сельскім жыцьці (прымацаваньне сялян да зямлі ды інш.) павінна была-б прывесьці да поўнага скасаваньня гэтых устаноў, да поўнага расчышчэньня шляху для земляробскага капіталізму ў Расіі. Але магчымасьць шукаць і знаходзіць рынак у колёнізуемых акраінах (для фабрыканта), магчымасьць пайсьці на новыя землі (для селяніна) аслабляе вастрыню гэтай супярэчнасьці і замаруджвае яе вырашэньне.

[1]) Ленін, т. III, выд. 1930 г. Разьвіцьцё капіталізму ў Расіі, стар. 143.
[2]) „Право“ № 20 ад 20 мая 1905 г., стар. 1662—1663.

Само сабою зразумела, што *такое* замаруджаньне росту капіталізму роўназначна падрыхтоўцы яшчэ большага і больш шырокага росту яго ў бліжэйшай будучыні“ [1]).

Такім чынам, мы бачым, якую ролю адыгрывала колёніяльная і нацыянальная палітыка царызму з пункту гледжаньня ўтрыманьня прыгоньніцкіх устояў. З другога боку, гэта зьвязвала буржуазію з царызмам, паралізавала яе опозыцыйныя настроі, і стваралася пэўная змычка паміж царызмам і буржуазіяй на грунце колёніяльнага і нацыянальнага ўціску „інародцаў“, як вялічала афіцыяльная імпэратарская мова нярускія народнасьці. Будзе лішнім прыбавіць, што гэта не магло ўстараніць крызісу, які разьядаў царскаю Расію.

Што датычыць Беларусі, то, вядома, момант насаджэньня рускага земляўладаньня тут адыгрываў меншую ролю, чым, напрыклад, на ўсходніх і паўднёвых „краінах“. Аднак, і тут самадзяржаўе прабавала гэта зрабіць. Ня менш колёніяльны характар мела тарыфная і налагавая палітыка царызму ў Беларусі. Апрача таго трэба ўлічыць, што Беларускія губэрні ўваходзілі ў склад так званай яўрэйскай мяжы аселасьці. Ленін ня раз адзначаў рэзультат гэтай палітыкі ў выглядзе штучнага зграмаджэньня насяленьня [2]). Капіталізму неабходна свабоднае расьсяленьне рабочай сілы, а мяжа яўрэйскай аселасьці зьяўлялася непасрэдным перажыткам сярэднявякоўя і стварала штучную зграмаджанасьць насяленьня. Між тым на Беларусі ў гэту эпоху ўжо разьвівалася фабрычна-заводзкая прамысловасьць і асабліва ўзмацніўся процэс капіталізацыі рамясла. Але ўсё гэта адбывалася ў вельмі балючых формах і стварала глебу для неймавернай эксплёатацыі. Побач з гэтым даволі інтэнсыўна паглыблялася дыфэрэнцыяцыя сялянства і было ў наяўнасьці досыць значнае аграрнае перанасяленьне ў вёсцы, якое ў такіх умовах надзвычайна слаба магло паглынацца гарадзкой прамысловасьцю. Які ўплыў рабіла ўсё гэта на соцыяльна-экономічнае разьвіцьцё краіны, вельмі зразумела. Якою была палітыка царызму на Беларусі, відаць з палітычных меркаваньняў, якімі кіраваўся міністр унутраных спраў у адносінах Беларусі. У выкладзе Віттэ гэтыя меркаваньні мелі такі выгляд: „1) Заходні край — „калыска рускай народнасьці, рускай дзяржаўнасьці, мовы і веры“, 2) умацаваньне рускага ўплыву ў краі і 3) даваньне магчымасьці рускаму мясцоваму элемэнту скласьціся ў краі ў пэўную і сьвядомую грамадзкую сілу“ [3]). Так абгрунтоўвалася гвалтоўная русыфікатарская палітыка царызму ў раёне.

І трэба сказаць, што царская адміністрацыя ў краі старалася ўсяляк выкарыстаць дзеля сваіх мэт складаны нацыянальны пераплёт у краі. У гэтых адносінах вельмі характэрна наступнае месца з аднаго данясеньня Бабруйскага маршалка ад 4 сакавіка 1908 г. Менскаму губарнатару з поваду выбараў у Дзяржаўную Думу. „Бабруйскі павет,— піша ён,—у адносінах групаваньня існуючых цяпер партый пастаўлен у надзвычайна шчасьлівыя ў дзяржаўным сэнсе ўмовы. Нацыянальная варожасьць рускіх, палякаў і яўрэяў адцягвае насяленьне ад больш небясьпечных экономічных пытаньняў клясавага змаганьня [4]).

Сеяньне варожасьці, нацкоўваньне адной нацыі на другую,—вось дадатковая прылада ў руках царызму, каб замацоўваць свае позыцыі і ўтрымліваць уладу і сілу напоўпрыгоньніцкага памешчыка ва ўсёй

---

[1]) Ленін, т. III, выд. 1930 г., стар. 465.
[2]) Гл., напр., т.III, стар. 205.
[3]) Віттэ „По поводу непреложности законов госуд. жизни“, СПБ. 1914 г., стар. 179
[4]) Нарад канцылярыі Менскага губарнатара, стол № 3. Цэнтраархіў Беларусі.

Расіі. З другога боку, маемыя клясы прыгнечаных нацый выкарысталі гэту атручаную міязмамі нацыяналізму і шовінізму атмосфэру дзеля сваіх мэт, каб утрымліваць і ўзмацняць сваё панаваньне над эксплёатаванай масай гэтых-жа нацыянальнасьцяй, ня спыняючыся і перад зьдзелкамі з тым-жа царызмам. Такую абстаноўку мы мелі на Беларусі напярэдадні рэволюцыі 1905 г. Ня дзіва, што ўсё гэта стварыла тут вельмі распаленую атмосфэру і была створана глеба для буйных выступленьняў і энэргічнага ўдзелу ў рэволюцыйным руху з боку гарадзкога пролетарыяту і масы беларускага сялянства.

Бязьлітасная эксплёатацыя і нацыянальнае бяспраўе ў горадзе і вёсцы ва ўмовах узмоцненай капіталізацыі рамясла, паглыбленьня дыфэрэнцыяцыі сялянства пры штучнай зграмаджанасьці насяленьня ў раёне і памешчыцкай монополіі на зямлю надзвычайна абвастрылі клясавыя супярэчнасьці ў раёне і абвастралі іх нацыянальнымі супярэчнасьцямі, што ў сваю чаргу вылучыла Беларускі раён як вельмі актыўнага ўдзельніка ў рэволюцыйным руху, накіраваным супроць самадзяржаўна-памешчыцкага ладу. Пры гэтым усякаму, хто знаёмы з ходам руху ў рэволюцыі 1905 г. ва ўсёй краіне, і ў часьнасці на Беларусі, ясна, які ўплыў на рух Беларусі рабілі буйныя прамысловыя цэнтры краіны. Найбуйнейшыя выступленьні расійскага пролетарыяту ў студзеньскія і пасьля студзеньскія дні, у кастрычніцка-сьнежаньскія дні знайшлі шырокі водгук сярод рабочых мас Беларусі ў выглядзе масавых політычных забастовак, дэмонстрацый, узброеных стаўкненьняў з паліцыяй ды войскамі і г. д. і г. д.

А што датычыць сялянскіх мас, дык падамо вельмі характэрнае выступленьне дэлегата Беларусі на 2-м Усерасійкім сялянскім зьезьдзе. У паведамленьні аб гэтым зьезьдзе гаворыцца: „Дэлегат з Беларусі паведаміў сабраньне аб тым цяжкім становішчы і страшэнным гнёце, у якім знаходзіцца беларускі селянін у цяперашні час. Прамоўца закончыў сваю прамову наступнымі словамі: „Беларусь чакае закліку са зброяй у руках"[1]).

Але калі такім чынам абстаноўка ў Беларусі спрыяла рэволюцыйнаму выступленьню мас, то з другога боку — гэтыя-ж спэцыфычныя ўмовы мелі і свае адмоўныя вынікі. Гэтыя ўмовы стваралі ў пэўнай ступені глебу для ўплыву на больш адсталыя пласты пролетарыяту і на сялянства буржуазных і дробна-буржуазных нацыяналістычных плыняй і груповак. Для Беларусі, як і для шмат якіх іншых нацыянальных раёнаў характэрна наяўнасьць мноства буржуазных і асабліва дробна-буржуазных, у бальшасьці сваёй да таго-ж нацыяналістычных, партыйных груповак. Організацыям Р.С.-Д.Р.П., узьнікшым на Беларусі, прышлося весьці актыўнейшае змаганьне з гэтымі групоўкамі і даць адпор надзвычайна шкодным уплывам гэтых груп на рэволюцыйныя масы, у першую чаргу пролетарскія.

### 5. Бальшавізм на Беларусі ў эпоху рэволюцыі 1905 г.

Доўгі час панаваў пункт погляду, быццам на Беларусі да 1917 г. амаль ня было бальшавізму. Гэты пункт погляду няправільны. Рад матэрыялаў і ўспамінаў бальшавікоў-удзельнікаў руху на Беларусі сьведчаць аб адваротным. Толькі ў апошнія гады некаторыя аўтары-комуністы на падставе наяўнага матэрыялу адстанавілі ў асноўным больш верную карціну разьвіцьця бальшавізму на Беларусі і ў эпоху

[1]) „Новая Жизнь" № 7 1905 г. Выд. „Прибой", вып. I, стар. 160.

рэволюцыі 1905 г. [1]). Глебай для ўзьнікненьня і росту бальшавізму і ў гэту эпоху зьявілася найбольш клясава-сьвядомая частка пролетарыяту Беларусі.

Вядома, ня ўсякая організацыя Р.С.-Д.Р.П. у Беларусі была бальшавіцкай. Калі мы ўлічым соцыяльна-экономічныя ўмовы Беларусі, то мы зразумеем, што тут была моцная глеба, побач з дробна-буржуазнымі нацыяналістычнымі плынямі, і для меншавізму. Характэрна другое, што ў пэрыод пад'ёму рэволюцыі, калі масы рваліся ў бой, уплыў меншавікоў быў слабейшы і ўзмацняўся ён ужо з часу спаду рэволюцыі. Праўда, ня трэба забываць, што меншавіцкія ідэі ў агульнапалітычных пытаньнях усё больш пашырала бундаўская верхавінка. І толькі ў змаганьні супроць нацыяналізму Бунду ды іншых дробна-буржуазных партый бальшавікі і меншавікі ў Беларусі ў эпоху рэволюцыі 1905 г. выступалі ядыным фронтам, што мела пэўны ўплыў і на больш маруднае афармленьне ў радзе організацый фракцыйнага падзелу на бальшавікоў і меншавікоў і сужыцьцё іх у радох адной організацыі. Цяжка з усёй дакладнасьцю, на падставе маючыхся пакуль матэрыялаў, устанавіць суадносіны бальшавікоў і меншавікоў у організацыях Р.С.-Д.Р.П у раёне Беларусі. Гаварыць, як аб акрэсьленай бальшавіцкай організацыі, можна бадай, толькі аб Менскай. Е. Беленькі ўказвае на „ўстойлівасьць бальшавіцкай позыцыі, якую Менская організацыя вытрымала ў часе вострага фракцыйнага змаганьня з меншавікамі“ [2]). Калі Паўночна-Заходні Камітэт праяўляў у пэрыод скліку III зьезду партыі прымірэнчую позыцыю, менская група, якая далучылася да пункту гледжаньня Б.К.Б. (Бюро Камітэту Большасьці) і выказася за склік зьезду, выразіла недавер'е П.-Зах. Камітэту як прымірэнчаму і паслала асобнага дэлегата (Шклоўскага, фігураваўшага на зьезьдзе як Бабушкін-Дзедушкін), якому зьезд даў дарадчы голас (права пасылкі дэлегата належала толькі П.-Зах. Камітэту) [3]).

Бальшавіцкай спачатку была і Бабруйская група. Але, як піша Г. Л. Шклоўскі, нельга сказаць, „што яна раз і назаўсёды стала бальшавіцкай. Не, як і многія нашы організацыі, яна ў розны час прымала розныя кірункі. Мяняліся людзі, мяняліся і плыні, і калі я, напрыклад, увесну 1906 г. прыяжджаў туды па даручэньню Маскоўскага Бюро ЦК перад Стокгольмскім зьездам, дык верхавінка Бабруйскай групы выразна спачувала меншавікам“... [4]) Аб Дзьвінскай групе Т. Юрэнеў піша, што „колектыў у цэлым ня меў акрэсьленага, фракцыйнага твару. Цьвёрдай большасьці ня мелі ні бальшавікі, ні меншавікі“ [5]) Зьмешанай організацыяй, складзенай і з бальшавікоў і з меншавікоў, была і Віцебская організацыя. Віленская організацыя, як піша той-жа Юрэнеў, у фракцыйных adносінах „ня мела колькі-небудзь акрэсьленай фізыяноміі і была, паводле слоў Разоўскага, „балотная організацыя“. [6]) Што датычыць організацый, уваходзіўшых у раён Палескага Камітэту, дык пасьля III зьезду партыі моцныя меншавіцкія тэндэнцыі мелі месца ў Гомельскай організацыі і Копыскай групе і вельмі затрудняли работу Палескага Камітэту сваёй опозыцыяй да апошняга. На-

---

[1]) Гл. асабліва артыкулы Агурскага ў зборніку „Roite Bleter“ Менск, 1929 г. і Дзіманштэйна ў зборніках 1905 г. пад рэд. Пакроўскага, т. III, вып. I.

[2]) „Прол. рэвол.“ № 8 за 1925 г., стар. 67.

[3]) Там-жа, стар. 75.

[4]) „Прол. рэв.“ № 11 за 1925 г.. стар. 243.

[5]) Там-жа, № 12 за 1922 г., стар. 141.

[6]) Там-жа, № 8-9 за 1924 г., стар. 167.

адварот, напрыклад, Клінцоўская група станавіла апору Палескага Камітэту.[1])

Аднак, нават у неаформленых фракцыйна організацыях, абр дзе былі і бальшавікі і меншавікі, разам з разгортваньнем рэволюцыйнага змаганьня і абвастрэньнем змаганьня за бальшавіцкую лінію ў рэволюцыі, і ў гэтых організацыях адбываецца большая дыфэрэнцыяцыя і змаганьне бальшавікоў за свой уплыў. Аб абвастрэньні супярэчнасьцяй паміж бальшавікамі і меншавікамі ў Дзьвінскім Камітэце і групе расказвае Юрэнеў.[2]) Пінсон, гаворачы аб Віцебскай організацыі, піша: „Змаганьне з прынцыпова-тэорэтычнымі меншавіцкімі ўхіламі ўнутры нашай організацыі вялося па ўсёй лініі, але перамогі тут бывалі даволі рэдкімі зьявамі з прычыны адсутнасьці інтэлігентных сіл у нашых радох; але варта было змаганьню перакінуцца з філёзофска-тэорэтычных высот на прадпрыемствы ды майстэрні, і пытаньні атрымлівалі сваё рэволюцыйна-пролетарскае вырашэньне“.[3]) Такіх прыкладаў можна было-б падаць і яшчэ, каб бачыць, як бальшавікі змагаліся супроць дробна-буржуазных ідэй за пролетарскую лінію ў рэволюцыі. Апрача таго, у Беларускім краі былі два раённых цэнтры—Паўночна-Заходні Камітэт і Палескі Камітэт.

Паўночна-Зах. Кам. аб‘яднываў наступныя групы і організацыі: Віленская, Менская, Віцебская, Дзьвінская, Смаргонская і меў сувязі з радам іншых пунктаў. Тав. Беленькі ўказвае, што П.-Зах. Камітэт спачатку стаяў на пункце гледжаньня „большасьці“. І толькі ў пэрыод III зьезду ён праяўляе „ўхіл у бок „прымірэнцтва“. У пытаньні аб скліку III зьезду партыі ён праявіў прымірэнцтва. Як мы ўжо ўказвалі, у сувязі з гэтым Менская група выступіла супроць П.-Зах. Камітэту.[4]) На III-м зьезьдзе прысутнічаў дэлегатам ад П.-Зах. Камітэту Вадзім (Пасталоўскі), бальшавік-прымірэнец, а ад Менскай групы з дарадчым голасам—Шклоўскі.[5]) І пасьля III зьезду П.-Зах. Камітэт праявіў нерашучасьць і ваганьні. Але ён прызнаў аднагалосна III зьезд з формальна-статутнага пункту гледжаньня законным і пры адным устрымаўшымся прыняў статут, выпрацаваны на III зьезьдзе, і выказаўся за ўстанаўленьне організацыйных сувязяй з новавыбраным на гэтым зьезьдзе ЦК, з чым ЦК згадзіўся.

Што датычыць Палескага Камітэту, то да III зьезду партыі яго склад таксама не адзначаўся аднароднасьцю; туды ўваходзілі і бальшавікі, і меншавікі, і належачыя да „балота“, г. зн. ваглівыя, паміж якімі разгараліся часта даволі гарачыя спрэчкі аб організацыйных і таксама тактычных пытаньнях. І хоць, як указвае Я. Драпкін, Палескі Камітэт да III зьезду фігураваў як нэўтральны, аднак, ён сам падкрэсьлівае, што „ў існасьці, нэўтральнасьць гэта была даволі абманлівай“, бо ў Палескім Камітэце працавала група бальшавікоў на чале з т. Уладзіміравым (Лёва), заснавальнікам і кіраўнікам гэтага камітэту, якой „у найбольш важных організацыйных і тактычных пытаньнях... у той або іншай форме, у большай ці меншай меры ўдавалася надаваць рашэньням камітэту адпячатак сваёй фракцыйнай прыналежнасьці“. І яшчэ, што калі камітэт „у момант абвастрэньня

[1]) 1905 г. в Гомеле и Полесском районе, стар. 148-49.
[2]) „Пролет. рэв.“ № 12 за 1922 г., стар. 140.
[3]) „Красная Быль“ Вітгуббюро Гістпарту, 1923 г., стар. 4.
[4]) „Прол. рэв.“ № 8 за 1925 г., стар. 75.
[5]) Гл. Протоколы III зьезду, стар. 18, 352 і *Крупская*—Воспом. о Ленине, вып. I, стар. 120.
[6]) „Пролетарий“ № 7 ад 10 ліпеня 1905 г. і „Прол. рэв.“ № 8 за 1925 г.. стар. 75.

партыйных разыходжаньняў і пашырэньня іх на абсяг тактычных пытаньняў заняў бальшавіцкую позыцыю, то гэта зьявілася непасрэдным вынікам таго, што камітэтчыкам-бальшавікам удалося прыцягнуць на бок свайго пункту гледжаньня ваглівых прымірэнцаў".[1]) Такім чынам, мы бачым, што, хоць і з вялікімі труднасьцямі, бальшавікам удавалася накіраваць работу Палескага Камітэту па бальшавіцкаму шляху.

Уплыў бальшавікоў праявіўся і на рашэньні Палескага Камітэту аб скліку III зьезду партыі. У адпаведнай рэзолюцыі мы чытаем: „Прымаючы пад увагу: 1-ае) што аб'яднаньне партыі, якая фактычна раскалолася на дзьве часткі, можа быць ажыцьцёўлена толькі праз агульнапартыйны зьезд, які павінен у што-б там ні стала пакласьці канец глыбока прыкраму расколу ў нашай партыі; 2-ое) што III-ці чарговы зьезд прадстаўляе сабою самы лепшы спосаб для вырашэньня тых тактычных задач і пытаньняў, якія разьвінаючыяся падзеі выстаўляюць перад нашай партыяй,—Палескі Камітэт на сабраньні... сакавіка прызнаў, што *склік III-га чарговага зьезду* зьўляецца пільна *неабходным*, і пастанаўляе зьвярнуцца да цэнтральных установу партыі з пропозыцыяй *аб безадкладным скліку 3 зьезду*". Пры гэтым супроць першага пункту галасаваў адзін камітэтчык і даў меншавіцкую мотывоўку з повадУ свайго галасаваньня. Такім чынам, ня гледзячы на прымірэнчыя тэндэнцыі сярод часткі камітэтчыкаў, бальшавікам удалося правесьці самае важнае, рашучае патрабаваньне скліку зьезду.[2]) На зьезд быў дэлегаваны Владзіміраў. Як указвае т. Крупская, „на зьезьдзе Лёва трымаўся цьвёрдым бальшавіком".[3])

Пасьля зьвярненьня Владзімірава са зьезду быў склікааы раённы зьезд організацый, якія ўваходзілі ў Палескі Камітэт. Але тут Палескі Камітэт спаткаў опозыцыю меншавікоў, бо меншавіцкія настроі сярод дэлегатаў былі даволі моцныя і іх стараліся апрацоўваць у гэтым кірунку, так што „мяккіх" дэлегатаў (так называлі меншавікоў) намецілася нават большасьць. Спрэчкі мелі вельмі страсны характар, асабліва адбыліся лютыя схваткі па пытаньнях аб 3-м зьезьдзе і організацыйных. Бальшавікам удалося пасеяць у галовах меншавікоў-дэлегатаў ня мала сумненьняў на конт вернасьці новаіскраўскіх „прынцыпаў" і, ня гледзячы на склад зьезду, ім удалося атрымаць перамогу ў рашаючым пытаньні ў даны момант—аб прызнаньні Ц. К., выбранага на III зьезьдзе партыі. У рэзолюцыі, прынятай зьездам, меншавікам удалося працягнуць рад сваіх пунктаў, сярод якіх гаворыцца, што „3-ці зьезд ня можа быць прызнаны агульнапартыйным", што „пытаньне аб юрыдычнай законнасьці зьезду застаецца адкрытым", але разам з тым у гэтай рэзолюцыі гаворыцца: „прызнаючы: 1) што статут 3-га зьезду забясьпечвае магчымасьць супольнай агульнапартыйнай работы, 2) што разьяднаньне рэволюцыйных сіл у цяперашні час зьяўляецца ў вышэйшай ступені непажаданым і шкодным для агульнай справы, *раённы зьезд падчыняецца цэнтральнай ўстанове, выбранай на 3-ім зьезьдзе*".[4]) Як мы ўжо казалі вышэй, такія організацыі, як Гомельская і Копыская, былі опозыцыйна настроены супроць Палескага Камітэту, які пасьля раённага зьезду акрэсьліўся як бальшавіцкі.[5]) Так, напрыклад, у корэспондэнцыі „Члена копыскай органі-

[1]) „1905 г. в Гомеле и Полесском районе", стар. 115—117.
[2]) Там-жа, стар. 138 і далей.
[3]) *Крупская.* Воспоминания о Ленине, стар. 118.
[4]) „1905 г. в Гомеле и Полесском районе", стар. 143—148 і „Пролетарий" № 8 ад 17 ліпеня 1905 г. (у выданьні Гиза 1925 г., вып. IV, стар. 17-18).
[5]) Там-жа, стар. 148-49.

зацыі“ ў „Искре“ мы чытаем аб тым, што „аб організацыйных і тактычных пытаньнях погляд нашай організацыі ня годзіцца з поглядам Камітэту“ (гутарка ідзе аб Палескім Камітэце. *М. П.* [1]) Такім чынам мы бачым, якім спосабам бальшавікам удалося накіроўваць работу Палескага Камітэту ў бальшавіцкае русло і разьвіваць энэргічную дзейнасьць.

Пасьля ўсяго сказанага, нам здаецца, ня прыходзіцца гаварыць аб адсутнасьці бальшавікоў і бальшавіцкай работы на Беларусі ў эпоху рэволюцыі 1905 г.; наадварот, мы бачым, як і тут яны разьвіваюць вялікую дзейнасьць, каб пашыраць бальшавіцкае вучэньне і кіраваць пролетарыятам у яго рэволюцыйным змаганьні.

Як мы ўжо ўказвалі ў другім месцы [2]), само ўзьнікненьне груп і камітэтаў Р. С.-Д. Р. П. было спаткана вельмі няпрыхільна дробнабуржуазнымі нацыяналістычнымі партыямі, асабліва Бундам, які лічыў сябе „ядыным прадстаўніком яўрэйскага пролетарыяту“ і асабліва Беларускі раён лічыў сваёй „вотчынай“.

І сапраўды, калі ў некаторых організацыях Р.С.-Д.Р.П. Палескага раёну праяўляліся прымірэнчыя тэндэнцыі і опортуністычная няўстойлівасьць і ў адносінах Бунду, дык наогул і асабліва ў рабоце груп П.-Зах. Камітэту вострае змаганьне і гарачыя схваткі з Бундам займалі вялікае месца. І ня гледзячы на тое, што Бунд меў моцна складзеныя і добра наладжаныя організацыі, аднак, тэндэнцыі разьвіцьця Бунду і організацыі Р.С.-Д.Р.П. былі непараўнальны. Перад апошнімі адкрыліся шырокія пэрспэктывы, і іх уплыў рос з кожным днём. Справа ў тым, што організацыі Р.С.-Д.Р.П. побач з усё большай праніклівасьцю і ахватам найбольш сьвядомай часткі яўрэйскага пролетарыяту, чужой да ўсякага нацыяналізму, завязвалі ўсё больш моцныя сувязі сярод неяўрэйскага пролетарыяту, асабліва на больш вялікіх прадпрыемствах фабрычна-заводзкага тыпу, перакінулі частку сваіх сіл для работы і ў вёсцы і сярод вайсковых часьцей, чыгуначных рабочых і г. д. Асабліва гэта трэба сказаць аб рабоце і дзейнасьці бальшавіцкай часткі Р.С.-Д.Р.П. А што датычыць Бунду і яго дзейнасьці, то вельмі характэрна наступнае месца „Из частного письма“, надрукаванага ў № 53 „Искры“. На адной рабочай сходцы корэспондэнту прышлося пачуць такое разважаньне: „На запытаньне інтэлігента ў адной работніцы, аб чым была гутарка на ўчорашнім сабраньні, работніца адказала, што яна абсолютна не разумее, як можна так доўга спыняцца на такім простым і ясным пытаньні, якім зьяўляецца нацыянальнае пытаньне. Нас, казала яна, раней вучылі, што нашы інтарэсы сходны з інтарэсамі хрысьціянскага пролетарыяту, што ў нас, яўрэйскіх пролетараў, няма і ня можа быць асаблівых, адзначлівых імкненьняў ад імкненьняў пролетараў іншых нацыянальнасьцяй і што мы, таму, павінны быць у поўнай меры солідарны з усерасійскім пролетарыятам. Гэту пропаведзь мы ясна разумелі, адчувалі яе поўную справядлівасьць і згаджаліся з ёю. Цяпер-жа нам гавораць процілежнае; нас вучаць, што ў яўрэйскіх пролетараў існуюць асаблівыя інтарэсы, што нам нельга і ня трэба давяраць хрысьціянскаму пролетарыяу, які нам можа здрадзіць у рашаючую мінуту, што мы, такім чынам, з ім не солідарны. З гэтай асноўнай супярэчнасьцю Бунду работніца ніяк памірыцца не магла“ [3]).

---

1) „Искра“ № 110 ад 10 верасьня 1905 г.. стар. 6.

2) Гл. „Зьвязду“ № 3 за 1931 г.

3) „Искра“ № 53 ад 25 лістапада 1903 г., стар. 6. Аўтарам гэтага пісьма быў Шклоўскі, які працаваў тады ў Бабруйску і пісаў пад сьвежым уражаньнем падзей таго часу. Гл. „Прол. рэв.“ № 11 за 1925 г., стар. 237—38.

Клясава-сьвядомыя пролетары і ня мірыліся з нацыяналістычным і опортуністычным кірункам Бунду, які (кірунак) чым далей, тым усё больш стараліся навязаць яму яго дробна-буржуазныя элемэнты і асабліва яго інтэлігенцкая верхавінка. Гэтыя клясава-сьвядомыя пролетары ўтварылі опозыцыю ўнутры Бунду, якая пасьля адколу ад апошняга зьяўлялася аднэю з крыніц, адкуль чэрпалі спачатку свае сілы групы Р. С.-Д. Р. П.

## 6. Бальшавікі і дробна-буржуазныя партыі ў Беларусі

Калі мы зьвернемся цяпер да адказу на пытаньне, ці магла програма і тактыка бальшавікоў у рэволюцыі 1905 г. вывесьці Беларусь на шлях вырашэньня тых патрэб, якія насьпелі там к гэтаму моманту, то павінны будзем сказаць, што бязумоўна так. Толькі пры давядзеньні да канца рэволюцыі 1905 г. ва ўсёй краіне, толькі пры поўным зьніштажэньні прыгоньніцтва, зьнішчэньні самадзяржаўя і ўстанаўленьні рэволюцыйна-дэмократычнай дыктатуры пролетарыяту і сялянства на гэтым этапе рэволюцыі—маглі быць вырашаны і аграрнае пытаньне і, як частка яго, нацыянальнае пытаньне. А становучае вырашэньне гэтых апошніх пытаньняў, згодна програмных патрабаваньняў бальшавікоў, было найбольш правільным і для Беларусі, найбольш спрыяючым як для пролетарыяту, так і для рэволюцыйнай сялянскай масы.

Пры гэтым трэба ўказаць, што чым больш разгортвалася змаганьне, чым больш была-б, такім чынам, забясьпечана перамога рэволюцыі, тым больш бальшавікі прыстасавалі-б у часнасьцях, наколькі гэтага патрабавалі спэцыфічныя ўмовы разьвіцьця Беларусі, свае рэволюцыйныя прынцыпы і патрабаваньні. Калі мы возьмем дробна-буржуазныя партыі на Беларусі, асабліва Бунд і Беларускую Соцыялістычную Грамаду, якія выступалі ў пэрыод пад'ёму рэволюцыі як рэволюцыйна-дэмократычныя партыі (другая — народніцкага кірунку), то ясна кожнаму, хто знаёмы з іх існасьцю і кірункам, што яны не маглі зьяўляцца кіраўнікамі і авангардам рэволюцыйных мас наогул, ня кажучы ўжо аб пролетарыяце, каб давесьці іх да поўнай перамогі рэволюцыі і тым самым да поўнага вырашэньня задач рэволюцыі, у тым ліку аграрнай і нацыянальнай. Расцэньваючы іх, як рэволюцыйныя дробна-буржуазныя партыі, з пункту гледжаньня змаганьня з самадзяржаўем і прыгоньніцтвам у пэрыод, калі рэволюцыя ішла па ўсходзячай лініі, мы павінны разумець, што гэта былі дробна-буржуазныя партыіі, якія ніколі не маглі здолець кіраваць змаганьнем рэволюцыйных мас для таго, каб вырашыць проблемы, высунутыя рэволюцыяй.

У часнасьці, калі мы зьвернемся да БСГ, то ўбачым, якія ваганьні яна праяўляе ўжо ў самым ходзе рэволюцыі [1]). Так, напрыклад, БСГ у 1904 г. далучаецца да рашэньняў Парыскай конфэрэнцыі (у канцы 1904 г.), у якой прымалі ўдзел дробна-буржуазныя народніцкія і народніцка-нацыяналістычныя партыі побач з лібэральна-буржуазнымі (Саюз Вызваленьня, фіндляндзкія актывісты і г. д.). Фактычна усе гэтыя дробна-буржуазныя партыі пайшлі на саюз з лібэральнай буржуазіяй і дзеля гэтых мэт змазваюць усе вострыя куты нават рэволюцыйна-дэмократычных задач у рэволюцыі. Так, напрыклад, у документах конфэрэнцыі гаворыцца аб імкненьні „ажыцьцявіць палітычнае пераўстройства ў духу дэмократызму“, г. зн. фраза, якая нічога не гаворыць і ў якую можна ўкласьці які хочаш зьмест, а вось аб

[1]) Больш падрабязна пра БСГ глядзі артыкулы аўтара гэтых радкоў у № 5 і 6 „Зьвязды“ за 1931 г.

патрабаваньні рэспублікі нічога не гаворыцца. Або, што „асноўным прынцыпам для народнага прадстаўніцтва павінна быць усеагульнае выбарчае права. Адсутнічае нават поўнае пералічэньне дэмократычных патрабаваньняў у адносінах выбарчага права, ня кажучы ўжо аб Установчым Сойме і аб тым, хто і якім спосабам будзе яго склікаць. Характэрна, што ў артыкуле „Революционной России", прысьвечаным конфэрэнцыі, гаворыцца аб дэмократыі „розных падняволеных, прыгнечаных нацыянальнасьцяй, у програме якой адыгрывае пяршынствуючую ролю абарона агульна-нацыянальных правоў і інтарэсаў", бяз усякага клясавага аналізу і адрозьненьня розных клясавых пластоў ды іх адносін да нацыянальнага пытаньня і шляхоў яго вырашэньня [1]).

І толькі ўжо на другой конфэрэнцыі ў 1905 г., на якой таксама прымае ўдзел і падпісвае докумэнты БСГ, ужо пасьля студзеньскіх падзей у Пецярбурзе і хвалі першага буйнага выступленьня пролетарыяту ва ўсёй краіне, Саюз Вызваленьня ўжо ня прымае ўдзелу (хаця фіндляндзкія актывісты прысутнічаюць), пастановы яе маюць ужо больш рэволюцыйны характар і прасякнуты народніцкімі прынцыпамі [2]).

Дарэчы будзе напомніць тут, што пісаў Ленін у сувязі з папярэднімі размовамі аб гэтай конфэрэнцыі. „Нам ня раз, — пісаў Ленін, — прыходзілася протэставаць супроць панаваньня фразы ў соц.-рэв., мы павінны протэставаць супроць яго і цяпер... Няўжо было-б лепш, калі-б мы замаўчалі аб тых разыходжаньнях, якія разьдзяляюць цэлыя гіганцкія палосы рускай грамадзкай і рускай соцыялістычнай мысьлі? Няўжо толькі „культ нязгод" выклікаў лютае змаганьне народніцтва, гэтай няяснай, поўнай соцыялістычных лятуценьняў, ідэолёгіі дэмократычнай буржуазіі, і марксызму, ідэолёгіі пролетарыяту? Годзі вам, панове, вы робіце сябе толькі сьмешнымі, калі дагаворваецеся да гэтага, калі прадаўжаеце лічыць „абразай" марксыцкі погляд на буржуазна-дэмократычную існасьць народніцтва і вашага соцыял-рэволюцыянізму" [3]).

Ленін заўсёды падкрэсьліваў, што з народнікамі трэба лічыцца адно паколькі яны выступаюць як рэволюцыйныя буржуазныя дэмократы і зьвязаны з масамі, і разам з тым заўсёды ўказваў на тыя ваганьні, якія гэтым дробна-буржуазным партыям уласьцівы. Прыклад Бунду і Б.С.Г. толькі лішні раз пацьвяджае гэта. Далейшая эволюцыя і лёс пераважаючай часткі гэтых партый у эпоху рэакцыі (ліквідатарства і Бунд, нашаніўства і БСГ) і далей, і асабліва ў тую эпоху, калі проблемы буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі маглі быць вырашаны толькі як пабочны продукт соцыялістычнай, пролетарскай рэволюцыі, выкрылі існасьць гэтых партый з усёй яснасьцю. Спробы гэтых партый адыгрываць самастойную ролю заўсёды зьяўляліся тым мастом, цераз які за імі зьяўляліся памешчыцка-буржуазныя партыі і групоўкі.

Не выпадковым зьяўляецца той, колёсальнага значэньня, факт з пункту гледжаньня гістарычнай праверкі розных партый, што на сучасным этапе, з аднаго боку, пролетарыят і над яго кіраўніцтвам асноўныя масы сялянства ўступілі ў пэрыод соцыялізму, а з другога боку — аказаўся блёк меншавікоў, с.-р., бундаўцаў з Прампартыяй, а ў нас на Беларусі контр-рэволюцыйны нацыянал-дэмократызм. Усё

---

[1]) „Революционная Россия" № 56 ад 5 сьнежня 1904 г.
[2]) Там-жа, № 65 ад 25 красавіка 1905 г.
[3]) „Вперед" № 7 ад 21 лютага 1905 г.

гэта контр-рэволюцыйныя адломкі, якія засталіся ад усіх гэтых дробнабуржуазных партый.

Бальшавізм, як ядыная ідэолёгія пролетарыяту, вытрымаў гістарычную праверку на ўсім працягу рэволюцыйнага клясавага змаганьня, і пад яго сьцягам пролетарыят і ідучыя за ім асноўныя масы сялянства, перамагаючы ўсе труднасьці, ва ўмовах абвастрэньня клясавага змаганьня, ліквідуючы кулацтва як клясу на аснове суцэльнай колектывізацыі, завяршыць справу соцыялізму.

---

**Я. Г.**

# Аб адным важнейшым зьвяне ў справе колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

*(Разьмеркаваньне прыбыткаў у колгасах).*

Г. Шустов і С. Фрейдман — *„Как распределить доходы и урожай в колхозе“*. Гиз 1930 г. стр. 29, ц. 5 к.

А. Новицкий — *„Распределение урожая и доходов в колхозе“* — Сельхоз. Гиз 1930 г. стр. 63. ц. 15 к.

Я. А. Тельнов — *„Распределение доходов и оплата труда в колхозах“*. Изд. Северн. Кавказ, 1931 г., стар. 55 ц. 12 к.

А. Залескі — *„Улік работы і разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю ў колгасах“*. БДВ, 1930 г. стар. 45, цана 45 кап.

М. Козырев и И. Кремлев-Свен. — *„Что надо знать колхознику об уставе и работе колхоза“*. Сельхозгиз, 1930 г. стр. 271, ц. 30 к.

Разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю ў колгасах мае важнейшае ня толькі гаспадарчае, але і палітычнае значэньне. Усе пастановы партыі, ураду і Колгасцэнтру, якія гавораць аб колектывізацыі сельскае гаспадарцы зварочваюць асаблівую ўвагу мясцовых організацый на неабходнасьць правільнага кіраўніцтва разьмеркаваньнем ураджаю ў колгасах. Гэта падкрэсьлівае і пастанова апошняга (Студзеньскага) Пленуму ЦК КП(б)Б па дакл. НКЗ Рачыцкага (гл. „Зьвязда“, 30/І-31 г).

Ад правільнага разьмеркаваньня прыбыткаў у колгасах залежыць: 1) умацаваньне і разьвіцьцё колгасаў у соцыялістычным напрамку; 2) палепшаньне дабрабыту колгасьнікаў; 3) новы ўздым колектывізацыі; 4) разьвіцьцё таварнасьці колгасаў, якое мае першачарговае значэньне для забясьпечаньня прамысловасьці і рабочае клясы с/г. сыравінай і харчовымі продуктамі.

Гэтае значэньне разьмеркаваньня ў колгасах добра разумее кулак, які імкнецца ўдарыць па гэтаму найбольш пачуванаму (чульліваму) для колгасьнікаў месцу.

Газ. „Праўда“ ў свой час пісала: *„У задачы разьмеркаваньня ўраджаю завязан моцны вузел клясавай барацьбы ў сучаснай вёсцы“*.

На жаль, шмат партыйных, колгасных і інш. організацый яшчэ не разумеюць добра значэньня разьмеркаваньня, яшчэ не зрабілі задачу разьмеркаваньня адным з важнейшых зьвеньняў у справе замацаваньня і далейшага разгортваньня колектывізацыі ў справе сапраўднай соцыялістычнай змычкі колгасаў з соцыялістычнай прамысловасьцю.

Вельмі небясьпечным скажэньнем лініі партыі ў гэтым пытаньні зьяўляецца бюрократычнае вырашэньне яго, камандваньне колгасьнікамі, адсутнічаньне самакрытыкі.

Яшчэ больш небясьпечным зьяўляецца адмаўленьне зусім ад комуністычнага кіраўніцтва гэтай справай, спадзяваньне на „самацёк“.

З усяго гэтага зразумела, якое значэньне мае масавая літаратура, тлумачашчая пытаньні разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў у колгасах.

З усіх пералічаных намі кніг толькі адна кніга тав. Залескага на беларускай мове, астатнія — на расійскай.

Першая кніга (Шустаў і Фрэйдман) разьлічана на найбольш масавае распаўсюджваньне. Аб гэтым сьведчыць як тыраж яе (300 тысяч), так і цана (5 кап.).

Яна напісана зразумелым і простым языком і дае асноўнае паняцьце аб правілах разьмеркаваньня. Гэтыя правілы не растлумачаны падрабязна, але да гэтай кніжкі такога патрабаваньня нельга зрабіць.

У канцы кніжкі прыведзена прыкладнае разьмеркаваньне ураджаю ў адным з колгасаў.

На жаль, у гэтую, зусім ня дрэнную кніжку, укралася памылка. У паказаным прыкладным разьмеркаваньні 5%-е адлічэньне з агульнага ўраджаю налічана таксама і з кулацкай маемасьці, і гэтая сума разьмеркавана паміж батракамі і беднякамі колгасу (у сярэднім па 20 руб. на гаспадарку).

Гэтае разьмеркаваньне аўтары яго лічаць правільным таму, „што кулацкая маемасьць залічана ў лік паявых узносаў батракоў і бядняцтва. Значыцца, і батракі і бядняцтва маюць права на сваю долю з гэтых 5 процантаў“.

Калі так разважаць, дык можна зрабіць наступны вынік, што батрацтва і беднякі маюць аднаасобнае права таксама і на самую кулацкую маемасьць, таму што „яна залічана іх паямі“, але адпаведная пастанова ўраду (ЦВК СССР ад 1/II-30 г.) гаворыць, што гэтая маемасьць перадаецца ў непадзельны фонд колгасу.

Кніжкі Навіцкага, Тельнава і Залескага разьлічаны для больш падрыхтаваных чытачоў, для колгаснага і вясковага актыву.

Кніжка Навіцкага напісана на аснове вопыту шэрагу колгасаў і ў гэтым яе дабрая якасьць. Першыя разьдзелы кніжкі прысьвечаны высьвятленьню значэньня колгаснага будаўніцтва, перавагам колгасаў перад аднаасобнымі гаспадаркамі. Далей ідуць прыклады памылковых і правільных спосабаў разьмеркаваньня ўраджаю. Да гэтых прыкладаў тав. Навіцкі дадае вельмі мала свайго тлумачэньня, альбо зусім яго не дадае. Адсюль цэлы шэраг памылак. Так, ён паўтарае прыклад колгасу, які маецца і ў кніжцы Шустава і Фрэйдмана, і таксама ня робіць з свайго боку ніякіх заўваг. Больш таго, ён дапушчае простую блытаніну, калі тлумачыць аб адлічэньні 5%. Так, на старонцы 40 ён гаворыць: „селянін-серадняк пры паступленьні ў колгас перадаў, як кажуць, у „абагулены фонд“ сваю маемасьць. Гэта маемасьць колгасам была ацэнена ў 1250 руб. Вось на гэтаю-та суму і налічваецца 5% (!?), што складае прыкладна 65 руб.“

5% вылічваюцца, як вядома, з даходаў колгасаў, а не з абагуленай маемасьці і разьмяркоўваюцца суразьмерна абагуленай маемасьці. Па-другое, невядома чаму ён словы „абагулены фонд“ бярэ ў двукосьсі.

На старонцы 42 таксама блытаніна, якую можна абʻясьніць толькі нядбайнасьцю ў рэдагаваньні кнігі. Гаворачы аб разьмеркаваньні

кармоў (сена), ён робіць вынік: „перад тым як адпускаць трэба падлічыць, *колькі колгасьнік работаў на сенажаці* (?), якую долю сваёй працы ён унёс у агульны кацёл, што ён даў у колектыўную гаспадарку ад сваёй жывёлы. І калі ён ніякай карысьці ня даў, дык ня трэба даваць яму нават і кавалка сена“.

Адсюль чытач можа зразумець, што сена разьмяркоўваецца толькі паміж тымі, якія працавалі на сенажаці, збожжа паміж тымі, хто працаваў на палёх, малако — паміж даяркамі і г. д.

На ст. 16 Навіцкі піша: „Зраўнальнасьць — гэта яскравы прыклад праяўленьня правага ўхілу на практыцы. Правыя дзеляць ураджай пароўні і забываюць аб адлічэньні пэўнай часткі даходу ў непадзельны капітал“. Якраз зраўнальнасьць — яскравы прыклад ня правага, а „левага“ ўхілу. Што-ж датычыцца неадлічэньня ў непадзельны капітал, дык гэта бязумоўна — правы ўхіл. У прыкладзе, паданым тав. Навіцкім, мае месца, такім чынам, перапляценьньне абодвых ухілаў, што вельмі часта здараецца ў практыкі.

Паказваючы прыклад колгасу „Чырвоны Прогрэс“, у якім улік працы-праводзіўся ў умоўных рублёх, Навіцкі ня робіць ніякіх заўваг. Трэба было-б паказаць небясьпечнасьць гэтага разьліку згодна ўмоўных грошай, трэба было даць тлумачэньне, чаму Колгасцэнтр рашуча патрабуе ад колгасу ўліку работы ня ў умоўных грошах, а ў праца-днёх.

Такім чынам, шмат прыкладаў, паказаных у кніжцы Навіцкага без адпаведнага тлумачэньня, могуць садзейнічаць толькі блытаніне ў галаве чытача. Апрача гэтых памылак і недахопаў кніжка напісана добра і можа прынесьці карысьць пры крытычным падыходзе да яе.

Кніжка Тельнова мае зусім іншы зьмест. Год яе выданьня 1931 і таму мы маем права патрабаваць ад яе скарыстаньня і ацэнцы багатага вопыту колгасаў, іх памылак і дасягненьняў. Але аўтар бярэ зусім іншы падыход да гэтых пытаньняў. Ён па дзялячаскі, можна сказаць, з пункту гледжаньня рахункавода разважае аб разьмеркаваньні ўраджаю. Палітычнай ацэнкі гэтага пытаньня ў яго зусім няма. Ён разважае аб „агулавай продукцыі“, „агулавай выручцы“, „агулавым даходзе“, аб розных фондах і г. д. Мелькам закранае ён пытаньне аб разьмеркаваньні ў ТОЗ'ах і комунах.

Кніга можа прынесьці якую-колечы карысьць рахункаводу, старшыні колгасу і інш. кіруючым працаўнікам. Для мас колгаснага актыву рэкомэндаваць яе ня варта.

Тельнаў ужывае такі тэрмін як „капітал“, „капіталісты гаспадаркі“ (стар. 37), гэта аб найбольш заможных колгасьніках. Для яго, для рахункаводзскага падыходу ня мае значэньня, што гэтыя тэрміны не адпавядаюць клясаваму зьместу колгасу.

Дзялячаскі падыход яго можна ўбачыць і ў тым, што, закранаючы пытаньне аб умоўных грошах, ён, як і Навіцкі, нічога не гаворыць аб тым, што ўлік у ўмоўных грошах ужываць ня трэба. Чытач з яго кнігі можа зрабіць толькі такі вынік, што ўлік у ўмоўных грошах мае такое-ж значэньне, як і ўлік у праца-днёх, нават першы лепш, бо лягчэй разьмеркаваць заработак.

Калі Навіцкаму гэты промах з умоўнымі грашыма яшчэ можна прасьціць, дык для Тельнава, кніжка якога выйшла, як мы ўжо казалі, у 1931 годзе, гэты недахоп зусім недапушчальны. На працягу 1930 г. выйшла пастанова Колгасцэнтру СССР аб абавязковым уліку працы і разьліку паміж колгасьнікамі паводле праца-дзён, шмат разоў

аб гэтым пісалася ў газэтах, часопісах, у тым ліку гэтае пытаньне высьвятлялася і ў перадавіцах „Праўды“.

Гэта ўсё сьведчыць аб дзяляцкім падходзе Тельнава да разглядаемага пытаньня.

Натуральны, страхавы насенны фонд Тельнаў саветуе рабіць у разьмеры ад $^{1}/_{4}$ да паловы насеннага фонду, разьлічанага на пасеў (стр. 48). Бязумоўна такое складаньне страхавых фондаў зьяўляецца зараз вельмі цяжкім.

Кніжка Залескага добра адрозьніваецца ад першых кніжак. Яна таксама *разьлічана на колгасны актыў і цалкам адпавядае гэтаму прызначэньню*. Аўтар яе, як відаць, добра ведае як практыку колгасаў, так і кіруючыя пастановы Колгасцэнтру СССР і БССР, таму ён ня робіць тых памылак, як у першых аўтараў.

Але і яго кніжка мае недахопы. Адзначым некаторыя з іх. Аўтар падрабязна тлумачыць, чаму ня трэба ўжываць улік работы ў умоўных грошах, але далей ён сам дае форму табелю-нараду, які ўжываецца пры ўліку, менавіта ў грашовых адзінках.

Закрануўшы пытаньне аб уліку работы, трэба адзначыць, што ў Залескага гэты ўлік рэкомэндуецца вельмі складаным і вялікім. Такі ўлік прымянім, у ўмовах Беларусі, толькі да буйных колгасаў, якія налічваюцца адзінкамі.

Напр., на стар. 17 ён піша: „Пры запаўненьні першых чатырох граф табелю-нараду брыгадзірам дапамагаюць рахункавод (альбо табельшчык) і загадчык работамі“. (!) Гэта толькі пры запаўненьні першых чатырох граф, а ўсяго граф у табелі-нарадзе дванаццаць.

Упрашчэньне вучоту мае вялікае значэньне для памяншэньня адміністрацыйных выдаткаў. (Мы маем на Беларусі шмат карлікавых колгасаў, у якіх існуе да дзесятка працаўнікоў вызваленых ад вытворчасьці і занятых толькі ў апараце).

Гаворачы аб дапамозе непрацаздольным, Залескі не закранае пытаньня аб залежнасьці гэтай дапамогі ад стараннасьці і работы працаздольных членаў сям‘і. Паміж тым гэтую практыку колгасаў трэба прызнаць добрай і яе падтрымліваць. На стар. 27 Залескі піша: „Калі, напр., колгасьнікамі... страчана працаздольнасьць па старасьці, інваліднасьці... і інш. прычынах, дык яны *бязумоўна павінны быць забясьпечаны ў колгасе пражыцьцёвым мінімумам, незалежна ад часу іх знаходжаньня ў колгасе*“ (падкрэсьлена намі). З гэтым, бязумоўна, нельга згадзіцца. Статут с.-г. арцелі гаворыць аб дапамозе „ў залежнасьці ад гаспадарчых мажлівасьцяй арцелі“ і не заўсёды і ня ўсякі колгас мае магчымасьць забясьпечыць страціўшых працаздольнасьць пражытачным мінімумам. Яшчэ ў шмат якіх колгасах утрыманьне непрацаздольных будзе, галоўным чынам, залежыць ад прыбыткаў працаздольных членаў сям‘і.

Гаворачы аб здачы таварных лішкаў дзяржаве, Залескі адзначае „ня звыш $^{1}/_{8}$ часткі“.

Чаму ня звыш $^{1}/_{8}$? Кожны колгас павінен імкнуцца здаць *усе таварныя лішкі* дзяржаве, а не праз прыватны рынак.

Калі пастанова ўраду гаворыць аб $^{1}/_{8}$ ураджаю (не гаворыцца „ня звыш $^{1}/_{8}$“), дык гэта зусім не адзначае, што ня трэба ў меру магчымасьці і са згоды колгасьнікаў павялічваць гэту частку. А формуліроўка Залескага дапушчае толькі зьніжэньне гэтай часткі, таму „ня звыш $^{1}/_{8}$“ гэта значыць, менш можна, а больш—нельга.

Паміж іншым такая-ж формуліроўка маецца і ў пастанове НКЗ БССР (гл. „Зьвязда“ 19-VII-30 г.).

Наогул гэтае слова „ня звыш“ вельмі спадабаецца Наркамзему і Белколгасцэнтру. У той-жа пастанове гаворыцца: „непадзельны капітал“ (трэба гаварыць—фонд. Я. Г.) складаецца ў разьмеры „ня звыш 10 процантаў, а іншыя грамадзкія фонды... *„ня звыш 5%“*. Гэтае „ня звыш“—яскравая правая опортуністычная формуліроўка.

Залескі нічога не гаворыць аб значэньні папярэдняга пляну разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў.

На стар. 24 ён піша: „амортізуецца толькі тая маемасьць і сродкі вытворчасьці, якія былі выкарыстаны на рабоце“... Няправільна. Калі тая ці іншая машына і ня была скарыстана на рабоце, дык яна ўсё роўна за год страціць (зразумела меншую) частку сваёй каштоўнасьці.

Ёсьць у кнізе Залескага і простыя рэдакцыйныя недахопы. Так, ён ужывае такі тэрмін як „оплата работы, оценки работы“, „капітал“ і г. д. Ні аб якой аплаце работы ў колгасе ня можа быць мовы; тое, што атрымае колгасьнік ня ёсьць *плата* за работу, а ёсьць яго *ўдзел у прыбытках колгасу,* удзел у залежнасьці ад колькасьці і якасьці яго працы.

На стар. 3 ён піша аб перабудове народнай гаспадаркі „на базе індустрыялізацыі нашай прамысловасьці“... Індустрыялізацыя прамысловасьці—гэта „масла масьлянае“.

Адзначаныя недахопы не адмяняюць ацэнкі гэтай кніжкі як каштоўнай і карыснай. У прадмове аўтар ня зусім сьціпла гаворыць, што яго кніжка „можа даць вялікую дапамогу ўсяму колгаснаму актыву“. Прымаючы пад увагу, што гэта адзіная кніжка на белмове, што недахопаў у ёй мала, дык трэба ўсё-ж такі з аўтарам згадзіцца.

Апошняя кніжка Козырава і Крэмлеў-Свена, як паказвае і яе назва, ахоплівае значна больш пытаньняў чымся пытаньні разьмеркаваньня прыбыткаў. Яна напісана звычайнай і зразумелай моваю. Такой кніжкі няма на белмове, а яна вельмі патрэбна. Карысна перакласьці яе на белмову, скараціўшы і зьнішчыўшы некаторыя недахопы. Так, у гэтай кніжцы таксама гаворыцца аб умоўных грошах, аб плаце за работу і г. д.

Які вынік трэба зрабіць з разгляду ўсёй гэтай літаратуры. Вынік той, што трэба яшчэ больш увагі зьвярнуць па вывучэньні практыкі колгасаў у справе разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў і на падставе гэтага вопыту даць колгасьніку-актывісту і масаваму чытачу такую літаратуру, якая-б паказвала правільныя прынцыпы разьмеркаваньня ў колгасах, якія садзейнічаюць умацаваньню колгасаў і далейшаму разгортваньню колектывізацыі.

Гэтая літаратура павінна быць прапітана палітычным зьместам, павінна перавыхоўваць колгасьнікаў з учорашніх аднаасобнікаў у сапраўдных будаўнікоў соцыялістычнай гаспадаркі і змагароў супроць варожага клясавага ўплыву.

---

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*



**Крытыка і бібліографія.**